–Людзьмі звацца!
Янка Купала

ГАЗЕТА ТВОРЧАЙ ІНТЭЛІГЕНЦЫІ БЕЛАРУСІ

# ЛіМ

ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА

ПЯТНІЦА
23
КРАСАВІКА
1993 г.

№ 16 (3686)

КОШТ
3 рублі






Сёння на лімаўскай вокладцы — здымак кампазітара Яўгена ПАПЛАЎСКАГА. Па нашай усё яшчэ звычнай завядзёнцы ён ходзіць, як кажуць, у маладых. Аднак яго творчыя і, не ў апошнюю чаргу, арганізацыйныя здольнасці /Яўген займае салідную пасаду дырэктара нацыянальнага тэатральна-канцэртнага аб'яднання «Беларуская капэла»/ сведчаць аб яго высокім прафесіяналізме. Маладосць і прафесіяналізм — дальбог жа, зусім неблагое паяднанне.

*Фота У.ПАНАДЫ*

## «ЛіМ» — ваша газета

***Шаноўнае спадарства!***
***Памятаеце, што пісаў летась наш чытач падчас падпіскі: «Каб год для вас быў неблагім — падпішыцеся на «ЛіМ». Прыслухайцеся да гэтай парады.***
***Наш індэкс — 63856. Кошт падпіскі — 240 рублёў на паўгода.***

# КОЛА ДЗЁН

*Слова «рэферэндум» зноў не сыходзіць са старонак газет. Тое, што ён адбудзецца ў Расіі паслязаўтра, зараз ужо не выклікае сумліву ні ў кога. А вось Вярхоўны Савет Беларусі пакуль пакінуў за сабою права прыняць канчатковае рашэнне па рэферэндуме, прапанаваным С. Шушкевічам, на сваёй майскай сесіі. Аднак, на жаль, сітуацыя такая, што лёс Беларусі зноў будзе вырашацца ў Расіі. І пасля 25 красавіка, магчыма, пры любых выніках расійскага рэферэндуму, пры перамозе любога боку беларускі рэферэндум можа проста стаць непатрэбным...*

## СУСТРЭЧА ТЫДНЯ

16 красавіка па прапанове Б. Ельцына ў Мінск з'ехаліся кіраўнікі дзяржаў СНД. Гэтак званы «саміт» упершыню прайшоў без падпісання зннай колькасці «жыццёва важных» дакументаў. На прадку дня сустрэчы было адно пытанне — лёс СНД /падразумявалася — лёс прэзідэнцкай улады ў Расіі і дэмакратыі ў СНД/. Усе кіраўнікі дзяржаў выказаліся за далейшае ўмацаванне эканамічных сувязяў між краінамі /і падтрымалі прэзідэнта Расіі напярэдадні рэферэндуму/.

## ВІЗІТ ТЫДНЯ

Міністр замежных спраў Беларусі П. Краўчанка наведаў з афіцыйным візітам Злучаныя Штаты Амерыкі. У Вашынгтоне ён сустракаўся з высокапастаўленымі кіраўнікамі новай адміністрацыі ЗША. Было абмеркавана шырокае кола праблем двухбаковых адносін, у тым ліку і пытанні эканамічных узаемаадносін паміж амерыканскай і беларускай сталіцамі. П. Краўчанка правёў перагаворы і са сваім амерыканскім калегам У. Крыстоферам. Магчыма, некаму гэта падасца парадаксальным, але, здаецца, пасля апошняга рашэння Вярхоўнага Савета Беларусі краіны Захаду пачалі ставіцца да нашае дзяржавы больш паважліва. І сведчанне таму — пашырэнне кантактаў МЗС.

## ЗАЯВА ТЫДНЯ

Дэпутаты апазіцыі БНФ у Вярхоўным Савеце выступілі з заявай. «Апазіцыя БНФ заклікае ўсе здаровыя сілы нашага грамадства, — гаворыцца ў ёй, — гуртавацца вакол ідэй барацьбы за захаванне нейтралітэту нашай дзяржавы, правядзення рэферендуму па іншых кардынальных пытаннях нашага жыцця. Мы не маем права даць камуністам змарнаваць той шанц, які гісторыя адпусціла нашаму народу ў канцы ХХ стагоддзя».

## СЮРПРЫЗ ТЫДНЯ

Ніяк не ўдасца нашаму ўраду стрымаць свае абяцанні, што чарговае павышэнне цэн — апошняе. Праходзіць тыдзень-другі і ўрад зноў і зноў «радуе» нас новымі цэнамі. На гэтым тыдні амаль удвая выраслі цэны на мяса і мясныя прадукты. Прывычны да ўсяго былы савецкі чалавек, тым не менш, ніяк не можа прывыкнуць да бегу навыперадкі цэн. І кожнае новае падаражанне для яго хай і прадбачанае, аднак усё ж нечаканасць.

## СОРАМ ТЫДНЯ

Рэспубліка Беларусь яшчэ на няпэўны час застанецца без нацыянальнага гімна. Ні адзін з прапанаваных варыянтаў не задаволіў членаў спецыяльнай камісіі. Дзіўную абыякавасць і апатычнасць назіраем мы сярод творчай інтэлігенцыі — кампазітараў і паэтаў. Яны і сапраўды не прапанавалі пакуль ні добротнай апрацоўкі вядомых гімнаў, ні новых твораў, якія б вылучаліся сярод канкурэнтаў.

## КУР'ЁЗ ТЫДНЯ

Удзельнікі нарады, што адбылася ў Міністэрстве абароны Беларусі, вырашылі звярнуцца ў Савет Міністраў Рэспублікі з хадайніцтвам аб устанаўленні Дня Узброеных Сіл 23 лютага альбо 20 сакавіка. Надоўга, відаць, выбіралі генеральскія галовы «самую знамянальную» дату ў гісторыі беларускага войска. Але галоўны кур'ёз будзе наперадзе, калі Саўмін возьме ды і зацвердзіць 23 лютага, скажам, у якасці свята...

## НАВІНА ТЫДНЯ

Беларусь і Польшча падпісалі 21 красавіка пагадненне аб супрацоўніцтве ў ваеннай сферы. Дзеля гэтага ў Мінск прыбыла прадстаўнічая дэлегацыя на чале з міністрам абароны Рэспублікі Польшча Янушам Анушкевічам. Польская дэлегацыя сустрэлася са Старшынёй ВС Беларусі С. Шушкевічам і прэм'ер-міністрам В. Кебічам. Я. Анушкевіч сказаў журналістам, што гэтае пагадненне не мае нічога агульнага з ваенным блокам і ніяк не перашкаджае імкненню Беларусі да нейтралітэту.

## ЦЫТАТА ТЫДНЯ

«Абмяркоўваць праекты канфедэрацыі з Расіяй ці з кім іншым сёння проста несур'ёзна. Трэба рэальна супрацоўнічаць і выкарыстоўваць магчымасці СНД, а не будаваць паветраныя замкі. Арыентавацца ж у сваім развіцці нам трэба на тыя краіны, якія стварылі сваім грамадзянам умовы для нармальнага жыцця, менавіта на Заходнюю Еўропу і Амерыку».

*/З інтэрв'ю «Народнай газеце» старшыні АДПБ А. Дабравольскага/*

## «ПУБЛІКАЦЫЯ» ТЫДНЯ

З артыкулам «Кому стоять у руля...» у «Советской Белоруссии» выступіў прафесар Акадэміі кіравання Савелій Паўлаў. Так-так, той самы шматгадовы барацьбіт за ідэалагічную чысціню беларускай культуры, літаратуры і журналістыкі. На гэты раз ён пранікся клопатам пра навучанне і выхаванне «нового типа управленцев, руководителей - предпринимателей», якія будуць працаваць ва ўмовах рынкавай эканомікі...

# НАРОД СУПРАЦЬ КАРУПЦЫІ

Далёка не ўсе з тых, хто сабраўся напярэдадні мінулага тыдня пад бел-чырвона-белымі сцягамі на пляцоўцы перад Домам афіцэраў, былі безумоўнымі прыхільнікамі БНФ. Але акцыя, арганізаваная народным фронтам сумесна са свабоднымі прафсаюзамі Беларусі, не магла не прымірыць хоць на час палітычныя рознагалоссі. «Народ супраць карупцыі!» — так гучаў галоўны лозунг гэтага мітынгу.

— Карупцыю мы атрымалі яшчэ ў 17-м годзе разам з ленінізмам, — зазначыў на мітынгу намеснік старшыні Аб'яднанай дэмакратычнай партыі Беларусі С.Гусак. — Аднапартыйная сістэма дазваляла ўтойваць факты яднання ўлад са злачыннасцю.

Грунтоўным, пераканаўчым было выступленне старшыні Лігі правоў чалавека, аўтара праекта Закона «Аб карупцыі», што быў зацёрты ў свой час парламентам, народнага дэпутата рэспублікі Яўгена Новікава.

— Зараз размова ідзе аб тым, ці будзе Беларусь ператворана ў класічную «бананавую» рэспубліку з яе мафіёзнымі кланамі, ці гэта будзе нармальная цывілізаваная краіна, — сказаў ён.

Гулам абурэння і скандзіраваннем «урад — у адстаўку» сустрэлі ўдзельнікі мітынгу паведамленне Я.Новікава аб тым, што сёння, згодна з дапаўненнямі ў закон аб уласнасці, Савет Міністраў з'яўляецца адзіным гаспадаром усёй дзяржаўнай маёмасці. Гэта значыць, што ў любы момант урад можа запусціць у камерцыйны абарот частку бюджэту, нашы, падаткаплацельшчыкаў, грошы.

Выйсце з такога становішча прамоўца бачыць у аб'яднанні ўсіх дэмакратычных арганізацый, партый і рухаў на платформе захавання правоў чалавека, пабудовы суверэннай прававой дзяржавы, прыватнай уласнасці на сродкі вытворчасці.

Выступленні М.Зіміна, У.Феакцістава, М.Алеевай ды іншых прадстаўнікоў свабодных прафсаюзаў лучыў клопат пра чалавека працы. Прынамсі, асабіста я паверыў, што, як было напісана на адным з лозунгаў, «хто ў свабодным прафсаюзе, той не поўзае на пузе».

Амаль што ўсе выступаючыя гаварылі пра наступ з боку ўлад на нашу творчую інтэлігенцыю, на тых, хто не баіцца паказваць народу хціўвасць яго ўладароў. Так, пазбаўлены працы журналісты Белдзяржтэлерадыё М.Бабкіна і С.Іванова, на пэўнай дыстанцыі ад органаў «правасуддзя» вымушаны трымацца карэспандэнт «Коммерсанта-дейли» і «Свабоды» А.Старыкевіч, збіраюцца хмары над фотакарэспандэнтам «Народнай газеты» С.Плыткевічам, над некаторымі журналістамі «Добрага вечара».

Намеснік рэдактара газеты «Дзеці і мы» Алесь Мікалайчанка аб'явіў на мітынгу аб стварэнні Беларускай асацыяцыі свабодных сродкаў масавай інфармацыі.

З падагульняючай прамовай выступіў З.Пазняк. Ён падкрэсліў, што пытанне барацьбы з карупцыяй перш за ўсё палітычнае. Таму вырашэнне яго непазбежна пераносіцца ў плоскасць палітычнай барацьбы.

З прадстаўнікоў «сілавых» міністэрстваў на мітынгу не выступіў ніхто. Адна з газет на падставе гэтага зрабіла выснову, што дыялога не атрымалася таму, што згаданыя міністэрствы, відаць, не мелі адпаведнага ўказання, ці, хутчэй, дазволу з боку кіраўнікоў урада. Ці прысутнічалі яны на мітынгу? Сам бачыў за спінамі выступаючых начальніка ўпраўлення МУС Беларусі па барацьбе з арганізаванай злачыннасцю, карупцыяй і наркабізнесам палкоўніка С.Рухлядзева. Але, пэўна, беларускаму Катані не было чаго сказаць народу? І гэта сімптаматычна, як і тое, дарэчы, што ў апошні момант было забаронена аб'яўленае раней шэсце мітынгуючых да Пракуратуры Беларусі.

**Яўген ЛЮТЫ**

З ПОШТЫ ТЫДНЯ

# ЗАЕЗДЖАНАЯ ПЛАСЦІНКА

## Аб чым думаюць тыя, хто дае тэлеэкран імперскім адэптам?

Узрушаны прамовай на тэлебачанні /16.04.93 г./ І.І.Антановіча, у якой ён пужаў нас нейкімі «пагрозамі» з боку суседніх дзяржаў і заклікаў вярнуцца назад за калючку ў імперыю, г.зн. уступіць у сістэму калектыўнай бяспекі.

Яму, бачыце, ужо стала вядома, што прэзідэнт Рэспублікі Польшча ездзіць на танку ўздоўж нашай мяжы. Праўда, Івану Іванавічу яшчэ пакуль дакладна невядома, куды гэты танк можа павярнуць і заехаць. Але ж ён, мабыць, ужо напалохаўся, бо заклікае нас схавацца за спіну «старэйшага брата», якому ён у апошні час служыў у штабе вядомага расійскага камуніста К.Палазкова.

Такая «пільнасць» былога загадчыка аддзела ЦК КПБ, былога прарэктара Акадэміі грамадскіх навук пры ЦК КПСС, былога члена палітбюро РКП мяне не здзівіла. Як кажуць, старая, заезджаная пласцінка па-старому і круціцца.

Але ж навошта выпускаць гэтую «пільнасць» на экран, ды яшчэ ў самы лепшы эфірны час?

Ці ж гэтая «пільнасць» на карысць нашай дзяржаве? Ці ж такая прамова дапамагае наладзіць лепшыя сувязі з нашымі суседзямі? Спрыяе таму, каб наша дзяржава, па выразу С.С.Шушкевіча, стала больш кантактнай дзяржавай, крыніцай стабільнасці ў рэгіёне?

**А.ЛЯЎКОВІЧ,**

**старшыня Берасцейскай філіі, сябра Цэнтральнай рады Беларускай сацыял-дэмакратычнай Грамады**

# ЦІ ВАРТА ПАРУШАЦЬ ЗАКОН?

***Адкрыты ліст сп. М.Сапелю, А.Бяляцкаму, У.Папрузе, Ф.Янушкевічу***

Шаноўныя спадары!

5 сакавіка 1993 г. «ЛіМ» надрукаваў Ваш адкрыты ліст пад кароткай і зычнай назвай «Касцёл св.Троіцы — вернікам».

Паколькі ў гэтым лісце некалькі разоў згадваецца і маё імя, я ўважліва прачытаў яго, і адразу кінулася ў вочы бальшавіцкая апантанасць аўтараў у тым, што толькі яны і ніхто больш маюць рацыю ў гэтым вельмі складаным і няпростым пытанні.

Нават сама назва ліста нагадвае такія сумнавядомыя лозунгі бальшавікоў, як «Зямля — сялянам» ці «Фабрыкі — рабочым». З гэтымі лозунгамі яны прыйшлі да ўлады, і на 75 год усе прыватная ўласнасць, у тым ліку і канфесійная, стала «народнай», а на самай справе дывідэндамі з яе ў першую чаргу карысталася партнаменклатура.

Прыкладна ў тым жа стылі складзены і вышэйзгаданы Ваш ліст. Захацелася парафіянам касцёла атрымаць у асабістую ўласнасць касцёл на Залатой Горцы, прычым як мага хутчэй. І тут нічога дзіўнага няма, бо гэта не былы калгасны склад з дзіравай страхою, не склад солі /які быў калісьці касцёл св.Андрэя ў Слоніме/, не спартыўная зала /у якую пасля вайны ператварылі славутую менскую фару альбо былы езуіцкі касцёл XVIII ст./, а тым больш не падмуркі былога дамініканскага касцёла, каля якіх будуецца так званы «Палац Рэспублікі», які ў народзе атрымаў трапную мянушку «саркафаг».

А тут — усё гатовае, зроблена рэстаўрацыя, будынак накрыты чырвонай дахоўкай, мае цудоўны інтэр'ер і, самае галоўнае, гэта цэнтр горада, дзе кожны квадратны метр зямлі неўзабаве будзе каштаваць мільёны рублёў.

Засталося толькі прыбраць яго да рук разам з акаляючай тэрыторыяй, выгнаць адтуль «чыноўнікаў ад музычнай культуры», выкінуць выявы «драўляных балваноў з дудкамі» і зламаць «флюгер» на касцельнай званіцы.

Аргументы ў карысць гэтага вельмі простыя: набажэнства вядзецца на беларускай мове, гэты будынак у вышэйзгаданых спадароў «забралі гвалтам» і наогул уся маёмасць каталіцкай царквы на Беларусі павінна быць ёй вернута.

Аднак тут не ўсё так проста, як здаецца ці хочацца шаноўным спадарам-парафіянам. Да 1917 года, калі Беларусь уваходзіла ў склад Расійскай імперыі, руская праваслаўная царква мела велізарную маёмасць, прычым у XIX стагоддзі ёй былі перададзены шматлікія каталіцкія і уніяцкія храмы і манастыры. На тэрыторыі Заходняй Беларусі да 1939 года сярод прыватнай уласнасці розных канфесій панавала ўжо ўласнасць каталіцкай царквы, якая захапіла, карыстаючыся падтрымкай польскай улады, шмат маёмасці як праваслаўных, так і уніятаў.

Таму гаварыць аб тым, што ўсю былую царкоўную ўласнасць на Беларусі можна вярнуць на працягу года-двух былым уладальнікам — не прыходзіцца. Тым больш, што калі вяртаць былую ўласнасць царкве, то чаму б тады не вярнуць нашчадкам Радзівілаў Нясвіжскі замак, а мне, напрыклад, тыя двац-

# ДАГАВОР АБ СУПРАЦОЎНІЦТВЕ

***У Варшаве падпісаны дагавор аб супрацоўніцтве паміж Саюзам пісьменнікаў Беларусі і Таварыствам польскіх пісьменнікаў.***

Абодва бакі, верныя традыцыйным сувязям паміж нашымі суседнімі народамі, выказалі жаданне:

арганізоўваць па меры патрэбы штогадовыя сустрэчы пісьменніцкіх дэлегацый у складзе 2-3 асоб для высвятлення актуальных патрэб абмену, што вынікаюць з пісьменніцкай і службовай дзейнасці; наладжваць паездкі на аўтарскія вечары беларускіх пісьменнікаў у Рэспубліку Польшча і польскіх у Рэспубліку Беларусь; спрыяць паглыбленню ўзаемнага знаёмства з культурай абодвух народаў; заахвочваць пісьменнікаў і перакладчыкаў да вывучэння моў абодвух народаў, спрыяць стварэнню ўмоў для такой вучобы; ствараць магчымасці для літаратурнага і выдавецкага супрацоўніцтва паміж пісьменнікамі.

Дагавор заключаны да 1996 года. З беларускага боку дагавор падпісаў старшыня Саюза пісьменнікаў Васіль Зуёнак, з польскага — старшыня Таварыства Анджэй Браун.

Пры цырымоніі падпісання прысутнічаў Надзвычайны і Паўнамоцны пасол Рэспублікі Беларусь у Рэспубліцы Польшча Валерый Сянько.

**А.Г.**

ХРОНІКА АДРАДЖЭННЯ

# «БЕЛАРУС» ВЯРТАЕЦЦА НА БЕЛАРУСЬ

Упершыню за 42-гадовую гісторыю свайго існавання выйшла на Беларусі самае вядомае і тыражнае выданне нашай эміграцыі ў свеце — газета «Беларус». У ЗША /у Нью-Йорку/ яе выпускае Беларуска-Амерыканскае Задзіночанне, а рэдагуе калегія пад кіраўніцтвам вядомага навукоўца і пісьменніка, аднаго з лідэраў дыяспары ў Амерыцы Янкі Запрудніка.

На працягу больш як чатырох дзесяцігоддзяў «Беларус» шчыра і праўдзіва інфармаваў нашых суайчыннікаў за мяжой і вонкавы свет аб сітуацыі на Бацькаўшчыне, стане яе культуры, эканомікі, грамадства, напаўняючы тым самым разам з другімі скарбонку яе незалежнасці.

У сакавіцкім нумары газеты, які аддрукавала і распаўсюджвае незалежная выдавецкая кампанія «Тэхналогія», можна даведацца шмат цікавага з жыцця нашых суайчыннікаў у розных краінах свету, прачытаць артыкулы аб святкаванні ўгодак Беларускай Народнай Рэспублікі, азнаёміцца са змястоўным інтэрв'ю Васіля Быкава. У выпуску змешчаны таксама дайджэст замежнай прэсы з цікавай інфармацыяй аб Беларусі, анатацыя замежных кніг аб рэспубліцы.

Думаецца, газета павінна выклікаць зацікаўленасць і ў тых, хто хацеў бы зрабіць рэкламу сваёй фірмы за мяжой, паколькі яна распаўсюджваецца досыць вялікім тыражом у ЗША, Канадзе, Аўстраліі, Францыі, Аргенціне і шэрагу іншых краін.

Набыць жа «Беларуса» можна ў Мінску, у кіёсках Таварыства беларускай мовы, «Выбранецкіх шыхтоў» і ў Задзіночанні беларускіх студэнтаў.

Тэлефоны для кантактаў: 31-90-88, 21-77-40, 31-73-70.



цаць дзесяцін зямлі, якія меў мой прадзед да 1917 года ў ваколіцах Мсціслава? Іншая справа, што ў гэтым выпадку нашчадкі тых гандляроў, што некалі валодалі дамамі ў Траецкім прадмесці, выселілі б на вуліцу «чыноўніка ад музейнай культуры» сп.Бяляцкага, не зважаючы на тое, што экспазіцыя музея, якім ён кіруе, аформлена выключна на беларускай мове, і адкрылі б у добра адрэстаўраваным будынку камерцыйную краму. Вынеслі б яны на сметнік і карціны шаноўнага спадара Янушкевіча, бо каму з іх патрэбна тэматыка, прысвечаная беларускім паўстанцам 1863 года, тым больш што іх продкі някепска служылі «государю-императору». І ляжалі б гэтыя палотны на адным сметніку разам са зламаным ветранікам і драўлянымі скульптурамі музыкаў, якія мараць туды аднесці парафіяне з касцёла на Залатой Горцы, тым больш што некаторыя з іх не цураюцца ў сваім побыце і польскай і рускай мовы, а на набажэнства па-беларуску, магчыма, глядзяць як на часовую з'яву.

Таму ў беларускім заканадаўстве прадугледжана пераважнае права вяртання вернікам усіх канфесій іх былых храмаў, за выключэннем аб'ектаў культуры. Дарэчы, такіх аб'ектаў няшмат. Сярод іх — славутая Полацкая Сафія, касцёл у Раўбічах, былы уніяцкі кляштар у Гродне, кляштар у Гальшанах і, вядома, касцёл св.Троіцы ў Менску. Вяртанне гэтых будынкаў магчыма толькі пасля таго, як установы культуры атрымаюць адпаведныя памяшканні /гл.Закон аб культуры/.

Таму, у той час, калі парафіяне захапілі гвалтам будынак касцёла св.Троіцы ў Менску, пры гэтым парушыўшы некалькі законаў, я звяртаюся з просьбаю да спадароў Сапеля, Бяляцкага, Папругі і Янушкевіча аб спыненні гэтых супрацьпраўных дзеянняў. Спадзяюся таксама, што рэспубліканская пракуратура зробіць адпаведнае заключэнне.

Я таксама раю вышэйзгаданым спадарам задумацца аб тым, каму зараз выгодныя канфлікты паміж рознымі плынямі беларускай інтэлігенцыі. У той час, калі вырашаецца лёс беларускай дзяржаўнасці, калі беларускі народ атрымаў апошні шанц на выжыванне ў сваёй шматпакутнай гісторыі, не варта парушаць грамадскі спакой і ствараць напружанасць нават з самых добрых памкненняў.

**Алег ТРУСАЎ,**

***наместнік старшыні Камісіі Вярхоўнага Савета Беларусі па адукацыі, культуры і захаванні гістарычнай спадчыны***

# ДЭПАРТЫЗАЦЫЯ ПА-БЕЛАРУСКУ

***На пытанні карэспандэнта «ЛіМа» адказваюць начальнік упраўлення грамадскіх арганізацый Міністэрства юстыцыі Беларусі Міхаіл СУХІНІН і начальнік упраўлення агульнага нагляду Пракуратуры рэспублікі Мікалай КУПРЫЯНАЎ***

**—Апошнім часам нашы чытачы пішуць і тэлефануюць у рэдакцыю аб тым, што на некаторых прадпрыемствах, установах рэспублікі пачалі аднаўляцца пярвічныя арганізацыі былой кампартыі Беларусі. Камуністычныя функцыянеры шырока выкарыстоўваюць для сваіх мэт памяшканні, тэлефонную і іншую сувязь на дзяржаўных прадпрыемствах, што з'яўляецца парушэннем Закона аб дэпартызацыі. «ЛіМ» нядаўна пісаў пра падобную дзейнасць камуністаў на вытворчым аб'яднанні «Даламіт» у Віцебскім раёне, якое, дарэчы, узначальвае былы першы сакратар Віцебскага абкома КПБ Грыгор'еў.**

**М.Сухінін:** — 25 жніўня 1991 года Вярхоўны Савет Беларусі прыняў пастанову аб дэпартызацыі, згодна з якой дзейнасць палітычных партый, іншых грамадскіх аб'яднанняў, якія ставяць перад сабой палітычныя мэты, на дзяржаўных прадпрыемствах, ва ўстановах і арганізацыях забараняецца. Асобы, якія выказваюць жаданне займацца палітычнай дзейнасцю, павінны рабіць гэта не ў рабочы час і па месцы жыхарства, ствараючы там партыйныя ячэйкі, арганізацыі і іншыя падобныя ўтварэнні.

**М.Купрыянаў:** — Павінен тут зрабіць адно ўдакладненне. У пастанове аб дэпартызацыі забараняецца стварэнне палітычных арганізацый толькі ў дзяржаўных структурах. Што ж датычыць грамадскіх утварэнняў, калгасаў, кааператыўных органаў, дык на іх такая забарона не распаўсюджваецца. Скажам, сход калгаснікаў можа сваім рашэннем дазволіць стварыць у гаспадарцы арганізацыю любой зарэгістраванай у рэспубліцы партыі.

**— «Даламіт», пра які я тут нагадаў, вядома ж, дзяржаўнае прадпрыемства і на яго распаўсюджваецца Закон аб дэпартызацыі. Пра парушэнне гэтага закона нам паведамляюць таксама з Наваполацка, з Пастаў, з Нясвіжа, не кажучы ўжо пра некаторыя абласныя гарады, дзе камуністы пад крылом учарашняй партнаменклатуры, якая няблага сябе пачувае і пры «новай» уладзе, зусім распераzaліся, адмабілізоўваючы адкрыта свае сілы для стварэння КПБ. Цікава, якія меры прадугледжаны да парушальнікаў Закона ад дэпартызацыі?**

**М.С.:** — Парушальнікі заканадаўства аб грамадскіх аб'яднаннях могуць быць прыцягнуты да крымінальнай, адміністратыўнай, матэрыяльнай і іншай адказнасці. Калі некаму ўздумаецца правесці партыйны сход на працы, яму не шкодзіць перад гэтым зазірнуць у працоўнае заканадаўства, згодна з якім чалавек, які без дазволу адсутнічаў на рабочым месцы больш трох гадзін, можа быць звольнены з працы. Што датычыць выкарыстання для палітычных мэт дзяржаўных памяшканняў, транспарту, тэлефоннай і іншай сувязі, як гэта робяць камуністы на вытворчым аб'яднанні «Даламіт», дык да іх адміністрацыя можа ўжыць меры матэрыяльнай адказнасці за нанесены прадпрыемству ўрон.

**— Вы лічыце, што гэтага можна чакаць ад дырэктара спадара Грыгор'ева, у нядаўнім мінулым аднаго з буйнейшых камуністычных функцыянераў рэспублікі?**

**М.С.:** — Я не маю на ўвазе канкрэтных асоб, кажу аб агульным палажэнні. Мінюст толькі ажыццяўляе нагляд за статутнай дзейнасцю грамадскіх аб'яднанняў згодна з іх зарэгістраванымі статутамі. Нагляд жа за захаваннем законаў ускладзены, як вядома, на органы пракуратуры...

**М.К.:** — Адзначу, што да нас не паступала сігналаў ці заяў аб парушэнні заканадаўства аб дэпартызацыі прыхільнікамі аднаўлення кампартыі Беларусі. Вось калі стваралася партыя камуністаў Беларусі, падобныя скаргі сапраўды мелі месца.

**— Тым не менш, на працэсе ў Вярхоўным судзе рэспублікі, дзе ў свой час разглядалася скарга ПКБ на Мінюст, які адмовіў ёй у рэгістрацыі, прадстаўнік рэспубліканскай Пракуратуры стаў адназначна на бок партыі камуністаў Беларусі, хоць і тады ўжо было зразумела, а сёння гэта пацвердзілася з усёй відавочнасцю, што КПБ-КПСС і ПКБ — браты-блізняты.**

**М.К.:** — Рашэнне па гэтай справе выносіў Вярхоўны суд. І не будзем да яе вяртацца.

**— Добра, не будзем. Але ёсць у пракуратуры сігналы аб парушэнні закона ці няма, яна, як я разумею, сама павінна ажыццяўляць нагляд за гэтым. У парадку, так сказаць, уласнай ініцыятывы. Калі я не памыляюся, гэты абавязак ляжыць на ўпраўленні, якое ўзначальваеце вы, Мікалай Міхайлавіч.**

**М.К.:** —Калі б нам даводзілася займацца толькі гэтымі, палітычнымі пытаннямі... Скажу вам такую рэч. З 20 супрацоўнікаў упраўлення 15 сёння заняты разборам спраў, звязаных з незаконнай прыватызацыяй, якая апошнім часам набыла ў рэспубліцы вялікі размах.

**— Ну, што ж, калі заяў аб парушэннях Закона аб дэпартызацыі з боку былой КПБ-КПСС да вас не паступала, лічыце, што мая, аб дзеяннях камуністычных функцыянераў на вытворчым аб'яднанні «Даламіт», будзе першай і, спадзяюся, ёй будзе дадзены ход.**

**М.К.:** — Паспрабуем гэта праверыць...

**— Ва ўсёй гісторыі са спыненнем дзейнасці КПБ-КПСС Вярхоўным Саветам Беларусі згодна з яго пастановай ад 25 жніўня 1991 года і яе адменай тым жа Вярхоўным Саветам сёлета ёсць, для мяне, напрыклад, шмат незразумелага. З адменай той першай пастановы ВС дзейнасць якой партыі зараз адноўлена? Кампартыі Беларусі? Але ж такой фактычна не існавала. Была рэспубліканская філія КПСС, якая нават не мела свайго статута...**

**М.С.:** — Камуністычная партыя Савецкага Саюза ўяўляла сабой адзіную ўсесаюзную цэнтралізаваную камуністычную арганізацыю, якая мела адзіную праграму, адзіны статут, адзіны партбілет, адзінае членства. Кампартыі ж саюзных рэспублік з'яўляліся арганізацыйнымі структурамі КПСС, што замацавана пунктам 16 Статута КПСС. Дарэчы, пастановай XXXI з'езда КПБ «Аб Статуце Камуністычнай партыі Беларусі» пацверджана ідэйнае і арганізацыйнае адзінства кампартыі Беларусі з камуністычнай партыяй Савецкага Саюза і прызнана немэтазгодным прыняцце Статута КПБ. Гэтыя абставіны знайшлі адлюстраванне і ў пастанове Вярхоўнага Савета Беларусі ад 25.8.91 года, дзе ўказана, што прыпынена дзейнасць КПБ-КПСС, а, значыць, кампартыі Беларусі, як часткі КПСС.

**— Чаму ж Мінюст рэспублікі ў свой час зарэгістраваў КПБ, хаця яна не мела свайго статута? Рэгіструецца ж у першую чаргу, калі я не памыляюся, статут грамадскага аб'яднання.**

**М.С.:** — Справа ў тым, што Часовае палажэнне аб утварэнні і дзейнасці грамадскіх аб'яднанняў у Рэспубліцы Беларусь дазваляла рэгістрацыю рэспубліканскіх аддзяленняў былых саюзных арганізацый. Але кіраўнікі КПБ-КПСС былі папярэджаны, што ў бліжэйшы час іх партыя павінна будзе прыняць свой статут. Жнівеньскія падзеі 1991 года прывялі да распаду КПСС, пасля чаго Мінюст рэспублікі ануляваў свой ранейшы запіс аб рэгістрацыі КПБ-КПСС. Бо калі знікла цэлае — КПСС, дык не можа існаваць і яго частка пад назвай КПБ. Адным словам, пасля анулявання запісу аб рэгістрацыі Мінюстам КПБ-КПСС арганізацыя гэтая на тэрыторыі Беларусі дэ-юрэ перастала існаваць.

**— А што існуе?**

**М.С.:** — Існуюць грамадзяне, якія спавядаюць камуністычныя погляды і жадаюць на агульных падставах стварыць камуністычную партыю Беларусі.

**— Як кажуць, з нуля?**

**М.С.:** — Фактычна, з нуля. Згодна з Законам аб грамадскіх аб'яднаннях.

**— Каб жа так думалі былыя лідэры КПБ-КПСС — Малафееў, Камай, іншыя іх паплечнікі, якія, як вы ведаеце, правялі нядаўна і пашыранае пасяджэнне старога складу бюро ЦК КПБ, пленум таго ЦК, рыхтуюць з'езд... І ўсё з нуля?**

**М.С.:** — Мне ўжо даводзілася аднойчы ў прэсе выказваць думку аб тым, што ніхто з былых кіраўнікоў кампартыі Беларусі юрыдычна сёння такім не з'яўляецца, бо няма КПБ. Што да склікаемага з'езда, дык гэта, як я разумею, будзе ўстаноўчы з'езд, на якім павінны быць прыняты статут, праграма, абраны кіруючы і кантрольны органы.

**— Я не здзіўлюся, калі неіснуючыя лідэры неіснуючай партыі назавуць маючы адбыцца з'езд — 32-м з'ездам КПБ. Перад гэтым, у савецкі час, нагадаем, быў — 31-ы...**

**М.С.:** — Слова «ўстаноўчы» ўсё роўна павінна будзе ў назве з'езда прысутнічаць. Хоць праз дэфіску з лічбай — 32.

**— Але ж гэтым самым КПБ падкрэсліць пераемнасць тэорыі і практыкі былой кампартыі Беларусі.**

**М.С.:** —Не будзем рабіць здагадак. Калі ў мяне будуць на руках дакументы гэтага з'езда, тады я змагу зрабіць нейкія высновы...

**— І малафеевы і чыкіны, якім надзіва шырока прадастаўлены ў рэспубліцы эфірны час, не стамляючыся гавораць сёння, што, у рэшце рэшт, яны пераможуць на выбарах і прыйдуць да ўлады. Але бальшавікі ніколі ў выніку выбараў не прыходзілі да ўлады, яны заўсёды захаплівалі яе сілай, цаной вялікай крыві. Таму я не веру, што сучасныя бальшавікі будуць лічыцца на справе з нейкімі законамі, хоць бы і з тым жа Законам аб дэпартызацыі, улічваючы яшчэ і яго недапрацаванасць, недасканаласць, адсутнасць дзейснага механізма па яго рэалізацыі.**

**М.С.:** — Так, сапраўды, мы яшчэ не маем дасканалага заканадаўства аб дзейнасці грамадскіх аб'яднанняў і пакуль што карыстаемся ў гэтай справе «саюзным» законам. Вось чаму мы ўскладаем вялікія надзеі на майскую сесію Вярхоўнага Савета Беларусі, якая павінна прыняць закон аб грамадскіх аб'яднаннях і закон аб палітычных партыях Рэспублікі Беларусь.

**— Дзякуй за гутарку.**

**Міхась ЗАМСКІ**

**РОЗДУМ З НАГОДЫ...**

# ІМПЭТ У АГУЛЬНУЮ СПРАВУ

***«...Я плакаў. Я не саромлюся прызнацца ў гэтым і не саромлюся сваіх слёз.***
***— Божа, злітуйся над зямлёю, што нараджае такіх дзяцей...»***
***Словы гэтыя належаць аднаму з герояў славутай аповесці Уладзіміра Караткевіча «Сівая легенда» — швейцарскаму найміту Конраду Цхакену.***

Памятаю, як, калі ўпершыню чытаў гэты твор, быў літаральна ашаломлены: галоўны герой — наміт? Швейцарац, які гатовы аддаць жыццё за чужую яму Беларусь, які плача і моліцца за яе народ?.. Неяк падумалася, што феномен Караткевіча яшчэ і ў тым, што, будучы ў свой час ледзь не афіцыйна занесены ў стан «нацыяналістаў» /што тады гучала ледзь не як прысуд/, сярод сваіх станоўчых герояў і галоўных дзеючых асоб ён знаходзіў месца і цыгану, і іудзею, і паляку, і расейцу... Прычым, гэтыя «чужынцы» ў яго выглядаюць часам куды больш дастойнымі і адданымі Беларусі людзьмі, чым некаторыя «тутэйшыя» — прыстасаванцы, здраднікі, абыякавыя да лёсу сваёй зямлі і народа людзі.

Нацыянальнае самавызначэнне — справа, безумоўна, тонкая і далікатная. З аднаго боку, заўсёды ёсць напагатове дбайца пра чысціню крыві, які вокамгненна дакажа, хто кім на самай справе з'яўляецца. З другога — супляменнік, які закляйміць «здраду» брата па крыві, абвінаваціць яго ў пераходзе «ў чужы лагер». Крайнасці, як вядома, змыкаюцца. Тым не менш, і ў нашай, і ў суседніх культурах працэс свядомага выбару нацыянальных арыенціраў, светапогляду заўсёды быў ды і працягвае заставацца досыць актыўным, прынамсі, не з'яўляецца нечым экстраардынарным ці надта унікальным.

Як паказвае практыка, запіс у пашпарце ці чысціня паходжання далёка не заўсёды станавіліся і становяцца гарантам свядомага патрыятызму, адстойвання дзяржаўных ці нацыянальных інтарэсаў.

Возьмем аднаго з выдатных дзеячаў беларускага адраджэння Вацлава Іваноўскага, родныя браты якога самавызначыліся — адзін палякам, а другі — літоўцам. І як сведчыць Юрка Туронак, кожны з іх адыграў выключную ролю ў гісторыі абранай ім нацыі. Ці не такую ж або падобную ролю адыгралі ў беларускай культуры Я. Карскі, З. Бядуля, С. Александровіч, у рускай — І. Левітан, У. Даль, А. Мандэльштам, у нямецкай — Г. Гейнэ і г. д...

Мяне заўсёды дзівіць, калі пытанні мовы, яе функцыянавання ў дзяржаве нехта пачынае звязваць з міжнацыянальнымі адносінамі. Так, мова — душа народа, галоўны вызначальнік нацыі, але ў працэсе дзяржаўнага будаўніцтва яна адыгрывае ролю той цагліны, якая кладзецца ў дзяржаўны падмурак, фарміруючы адну супольнасць з усіх народаў і этнасаў на тэрыторыі дадзенай дзяржавы, як аснову дзяржавы ўвогуле. Сапраўды, пры ўсёй разнастайнасці паходжання, нават колеру скуры жыхароў ЗША адзіная дзяржаўная мова, адзіны дзяржаўны менталітэт, агульны лад жыцця, шкала каштоўнасцяў і звычак робяць кожнага паасобку і ўсіх разам нацыяй — амерыканцамі.

У гэтым звязку мне падаецца вельмі важным, калі прадстаўнікі некарэннай, скажам, нацыянальнасці прыносяць у справу беларускага адраджэння свой імпэт, сваю асаблівасць, высакародную заклапочанасць і дапамогу. Унікальная, да прыкладу, з'ява — беларускія татары. Звязаныя з гэтай зямлёй стагоддзямі, застаючыся ў аснове мусульманамі, яны вельмі арганічна і годна пачуваюцца сярод беларусаў. Больш таго, некаторыя нават могуць павучыцца ў іх глыбокаму веданню мовы, чыста беларускай свядомасці, удзелу ў працэсах адраджэння.

На мой погляд, беларускі адраджэнскі рух ні ў якім разе нельга блытаць з імперскім шавінізмам, тым нацыянал-патрыятызмам, які буяе зараз у Расіі. Там прыярытэт адной нацыі, чысціня крыві ўзводзяцца ў абсалют. У спіс іншародцаў, іншаверцаў заносяцца ўсе, а не толькі прадстаўнікі «масонскай» нацыі. Дастаткова нават наўгад адкрыць любую старонку «Нашего современника», «Молодой гвардии», «Дня» /я ўжо не кажу пра газеты і брашуркі, якія распаўсюджваюцца адпаведнымі арганізацыямі і суполкамі/. Нават браты-славяне раздзяляюцца па сартах, аддаючыся ў поўную залежнасць «старэйшаму брату», асуджаючыся на права прыслужваць і выслужвацца, даказваць сваю вернасць гаспадарам.

І хоць такое ў гісторыі ўжо было, і не раз, урокі гэтыя, відаць, дзейнічаюць не на ўсіх. Чаго варты, да прыкладу, сумна вядомы ліст выкладчыкаў і студэнтаў Віцебскага педінстытута, ці скаргі розных «патрыётаў» у маскоўскую «Правду», накіраваныя супраць свайго народа, сваёй гісторыі, сваіх уласных каранёў. Сапраўды, фарс і трагедыя побач ходзяць.

Дык чаму ўсё ж некаторыя з прадстаўнікоў нацыянальных меншасцяў і этнічных груп так баяцца беларускай школкі, справаводства, беларускай дзяржаўнасці ўвогуле? Няўжо ім здаецца, што ў «Северо-Западном крае» будзе дыхацца вальней, будзе ўдзячнасць і прызнанне іх высілкаў? Не дай Бог таму здарыцца, бо некаторыя рыцары сённяшняй «великой империи» куды страшнейшыя, чым нядаўнія валадары.

Любіць радзіму — край, дзе нарадзіўся і ўзрос, любіць народ, з якім побач ад калыскі, — рэчы ўпаўне натуральныя і звычайныя, уласцівыя для кожнага прыстойнага чалавека. Захоўваючы і шануючы сваё, можна і трэба быць разам, будаваць агульны лёс. Гэта зусім не азначае нацыянальнай абмежаванасці, ігнаравання вернасці сваім продкам і караням. Важна не адштурхнуцца, не замкнуцца ў выключнасці сваёй, у галоўным праве сваім. І ўсім разам, і кожнаму паасобку — зрабіць свой выбар. На карысць Бацькаўшчыны.

**Навум ГАЛЬПЯРОВІЧ**

*г. Наваполацк*

***БОЛЬ ЧАРНОБЫЛЯ***

# ЗОНА БЕЗ МЕЖАЎ

***Пра гэта гаварылася і пісалася не раз. І тым не менш 30-кіламетровая зона адсялення, абнесеная калючым дротам пасля аварыі на ЧАЭС, зонай адчужэння не стала. І па сёння прайсці туды злодзеям па «здабычу» цяжкасці не складае...***

У шэрагу заканадаўчых актаў рэспублікі з пакета так званых чарнобыльскіх, а таксама мэтавых праграм і канцэпцый прадугледжаны комплекс мер па змякчэнні вынікаў катастрофы, сацыяльнай абароне пацярпелых ад яе грамадзян. Дзяржава ў заканадаўчым парадку праз гады /Закон «Аб прававым рэжыме тэрыторый, якія падвергліся радыеактыўнаму забруджанню ў выніку катастрофы на Чарнобыльскай АЭС», быў прыняты ў лістападзе 1991 года/ адрэагавала на бяду, што зрабіла рэспубліку зонай экалагічнага бедства. 257 тысяч гектараў зямлі выключана, як мінімум, на 30 гадоў з сельскагаспадарчага абароту. Але не будзем кранаць пытанні страт ад аварыі, гэта размова доўгая. Разгледзім толькі праблему небяспечнасці самой 30-кіламетровай зоны. Справа ў тым, што прадугледжаныя адпаведным статусам меры забароны ў дачыненні да яе аказаліся ў многім умоўнымі, не спрацавала сістэма дзяржаўных мер прававога характару.

Пачатак вакханаліі ў зоне быў пакладзены яшчэ летам 1986 года, калі туды з многіх раёнаў Гомельскай вобласці накіравалі сельскагаспадарчыя атрады для нарыхтоўкі кармоў і ўборкі ўраджаю. Раз прыдатнымі аказаліся травы і збожжа, не магло быць сумненняў, што прыгодныя і ўсё астатняе, пакінутае ў зоне гаспадаркамі і людзьмі. Выходзячы з гэтай логікі, пайшло рабаванне зоны. І з такім размахам, што ні ў адной адселенай вёсцы сёння не знойдзеш ніводнага нечапанага дома.

Калі ішло адсяленне ў пачатку мая 1986 года, ніхто з гаспадароў з сабой нічога не браў, апроч самага неабходнага, усё нажытае заставалася на месцы. Цяпер многага тут не знойдзеш: нячысцік на руку людзі не ўпусцілі момант. Пайшла гуляць па свеце радыяцыйная небяспека, разносячы хваробы і пакуты.

Вось да чаго прыводзяць неабдуманыя рашэнні і крокі ўладных органаў, непрадбачлівасць і бесклапотнасць. Так званая пагоня за паказчыкамі, за дадатковы працэнт у зводцы прымушала іх ісці на ўсё, падвяргаць небяспецы здароўе і жыццё людзей. Адкрыўшы доступ у зону, яны, няхай і падсвядома, адкрылі пачатак распаўсюджванню небяспекі далёка за акрэсленыя межы яе.

Між тым у дзяржаўных прававых актах, што вызначаюць статус забруджаных радыенуклідамі тэрыторый, прадугледжаны строгі прыродаахоўны рэжым і ахова тэрыторый, грамадскага парадку, дзяржаўнай уласнасці, тушэнне пажараў, кантрольна-прапускны рэжым пры ўездзе і выездзе. Адпаведна ўстаноўлены кантроль за выкананнем указаных мер, які абавязаны ажыццяўляць абласныя Саветы народных дэпутатаў і Дзяржкамітэт па праблемах вынікаў катастрофы на ЧАЭС. Таму правамерна ўзнікаюць пытанні: чаму ж пры ўсім гэтым адселеная зона аказалася ва ўладзе злодзеяў і бадзяжнікаў, нячысцік на руку людзей? Чаму тое, што там засталося і было абвешчана недатыкальным, злачынна расцягваецца?

Мне не раз даводзілася бываць у межах 30-кіламетровай зоны. Параўноўваючы яе стан у 1986 годзе — адразу пасля адсялення — з цяперашнім, маю ўсе падставы сцвярджаць, што дзяржаўны кантроль за захаваннем прававога рэжыму на тэрыторыях радыеактыўнага забруджвання як след не наладжаны. Устаноўленыя на цэнтральных дарогах міліцэйскія ахоўныя пасты зоны ў многім сімвалічныя, яны абыходзяцца і аб'язджаюцца прасёлкамі. Арганізаваная вахтавым метадам ахова проста не ў стане перакрыць усе сцежкі. Даўно наспела неабходнасць забяспечыць яе спецыялізаванымі падраздзяленнямі, якія б былі зацікаўлены не толькі ў атрыманні пасведчання ўдзельніка ліквідацыі вынікаў аварыі і адпаведных ільгот, а менавіта ў тым, каб па-сапраўднаму ізаляваць небяспеку ад людзей. Пакуль жа зона пагрозліва дыхае на нас. Сюды ідуць і едуць усе, хто хоча.

Два гады назад я суправаджаў у паездцы па забруджаных радыенуклідамі тэрыторыях групу журналістаў з Даніі. За два дні мы пабывалі ў Хойніцкім і Брагінскім раёнах, наведалі нямала пакінутых вёсак і грамадзянскіх аб'ектаў, бачылі не нейкія асобныя аспекты лёсу зоны, а ўсе яе праблемы.

Убачанае, да прыкладу, на свінагадоўчым комплексе былога калгаса «Кастрычнік» Хойніцкага раёна не магло не здзівіць. Са шматлікага абсталявання тут засталося на месцы, бадай, толькі тое, чаго не ўдалося дэманціраваць і вынесці. Колькі за прайшоўшыя пасля аварыі гады пра яе цяжкія вынікі гаварылася і гаварыцца, а да свядомасці многіх людзей так і не дайшло гэта. Шкада, што звычайныя ісціны так дрэнна засвойваюцца.

Я згадваю вёску Бабчын вясной, летам і восенню 1986 года. Яна за лічаныя кіламетры ад адчужанай зоны. Часці адмабілізаваных рэзервістаў зразалі і вывозілі верхні пласт глебы, перакрывалі дахі дамоў і вытворчых памяшканняў, пракладвалі водаправоды, асфальтавалі дарогі, мылі іх на некалькі разоў у дзень. Але праз нейкі час узровень радыяцыйнай забруджанасці падымаўся да ранейшай адзнакі, небяспечнай для здароўя чалавека. Бабчын восенню адсялілі, закапаўшы мільёны рублёў на прафілактычныя меры безвынікова.

А колькі такіх Бабчынаў можна налічыць ва ўсіх пацярпелых ад аварыі раёнах, якія ратавалі падобным чынам і здалі, як атрымалася, злодзеям і бадзяжнікам. Людзі пакідалі вёску з надзеяй, што вернуцца. Замыкалі хаты — не ад злодзеяў, ад іх не зачыняешся, — а як звычайна, калі некуды ад'язджалі. І што ж мы бачым сёння: няма таго будынка, які б не «абследавалі» драпежнікі-злодзеі, а на некаторых дамах ужо і дахі пачалі разбіраць. Асабліва на тых, якія былі пакрыты нержавеючай бляхай. Злодзеі ведаюць спажывецкі попыт. Калі такое адбываецца пад бокам у ахоўнікаў зоны, то можна ўявіць сабе, што робіцца на ўсёй тэрыторыі яе.

У Законе «Аб прававым рэжыме тэрыторый, якія падвергліся радыеактыўнаму забруджванню ў выніку катастрофы на Чарнобыльскай АЭС», артыкул 44-ы вызначае адказнасць за парушэнне гэтага закона. У ім, у прыватнасці, запісана: «Асобы, вінаватыя ў парушэнні патрабаванняў гэтага закона, нясуць крымінальную, адміністрацыйную і іншую адказнасць у адпаведнасці з дзеючым заканадаўствам Рэспублікі Беларусь...» Толькі нешта не чуваць аб пакараннях парушальнікаў. На тэрыторыі зоны палююць і рыбаляць, нарыхтоўваюць дровы, сена, нават саджаюць бульбу... Зона даступная практычна кожнаму. Мінулымі вясной і летам у ёй было мноства пажараў, учыненых тымі ж злодзеямі, бадзяжнікамі. З дымам разносіцца радыяцыйны пыл далёка за межы зоны.

Бяда з'явілася да нас нечакана. У ёй усе мы аказаліся «дэбютантамі». І калі праз гады пасля яе штосьці зрабілі, дык, бадай, толькі наскладалі дзесяткі разнастайных праграм і канцэпцый. Вучоныя нам многа нарасказвалі, мы многа наслухаліся, а справа так і застаецца на месцы, сітуацыя абвастраецца, пытанняў не меншае. Прыкра, аднак вастрыня праблем небяспечнага ў экалагічных адносінах рэгіёна прытупляецца з кожным годам пад націскам нашай агульнай неўладкаванасці. Горш за ўсё, што ў зоны няма гаспадара. А калі так, то ні аб якіх мерах па зніжэнні яе радыяцыйнага ўздзеяння на насельніцтва, правядзенні прыродаахоўных мерапрыемстваў не можа ісці і гаворкі.

Гэты вывад камусьці можа падацца надуманым, неаб'ектыўным. Маўляў, на адчужаных пасля аварыі землях створаны дзяржаўны радыяцыйна-экалагічны запаведнік, дзейнічаюць навукова-даследчыя інстытуты і г. д. і да т. п. Нарэшце, пры Дзяржкамітэце рэспублікі па праблемах вынікаў катастрофы на ЧАЭС створана адміністрацыя зон адчужэння і адсялення. Усё гэта так, але, паверце, гэта не тое, што садзейнічае сёння ці будзе садзейнічаць заўтра лепшай ізаляцыі небяспечнай тэрыторыі. Неаспрэчным з'яўляецца факт, што цяпер ніхто дакладна не ведае, як быць далей з зонай, з усім пакінутым у яе межах. У першыя пасля аварыі гады, калі да ліквідацыі вынікаў аварыі прыцягнулі ваенных, мабілізавалі рэсурсы ўсяго былога Саюза, некалькі невялікіх вёсак у Брагінскім раёне былі сцерты з твару зямлі і ў прамым сэнсе пахаваны. Зрабіць гэтак з усімі населенымі пунктамі ў нас сёння няма магчымасцей. А пакуль яны стаяць, туды будуць хадзіць і ездзіць, выносіць і вывозіць адтуль. І асабліва цяпер, калі ў нас усё стала дэфіцытам, значна падаражэла.

Нам заўсёды былі ўласцівы нядбаласць і абыякавасць. І нават Чарнобыль нас мала чаму навучыў. Якой праблемы ні краніся, ніводная не даведзена як след да завяршэння, ва ўсім непарадак і бязладдзе.

**А. САКУН**

*г. Мінск*

**Віктар ЯРАЦ**

## ВЯСНА ЗА КАЛЮЧЫМ ДРОТАМ

**Пад крыламі чародаў пералётных**
**і ў вёсках тых, дзе сок пілі раней,**
**праклюнулася першая лістота —**
**а дол бязлюддзем зноў яе сустрэў.**
**Ад той вясны ніхто не раніць болей**
**камлі бяроз, дзе сок у вёдры цёк,**
**дзе жаўранак ад радасці над полем**
**сябе не чуў — пад позіркам аблок.**
**Тут з каміноў плыў дым, бы самакруткі**
**курцы смалілі з самасаду ўсмак.**
**Травой не забыцца — травою смутку**
**прапах — які ўжо год! — зямны абсяг.**
**У вёсках тых, пакінутых за дротам, —**
**вясна, якой не дадзены дазвол**
**вітаць людзей прывeтлівай лістотай,**
**дарыць нябёс палескіх пераззвон.**

НОВАЕ ПРАЧЫТАННЕ

Барыс САЧАНКА

# «ПЯЯЦЬ, АБ ЧЫМ ДУМКА ПЯЕ»

## *Янка Купала ў першыя гады Савецкай улады*

«ГОСУДАРСТВО есть заговор не только для эксплуатации, но, главное, для развращения граждан... Я... никогда не буду служить нигде никакому правительству», — пісаў Леў Талстой у адным са сваіх лістоў да В.П.Боткіна (1857 г.). А ў Запісную кніжку ён унёс наступныя словы: «Все правительства равны по мере зла и добра».

У Янкі Купалы — нашага нацыянальнага генія — такіх шчырых талстоўскіх прызнанняў адносна наогул уладаў ці канкрэтна тых, пры якіх выпала яму жыць, даследчыкам пакуль што выявіць не ўдалося. Ды і ці ведаў ён вышэйзгаданыя думкі волата рускай літаратуры? Аднак тое, што іх падзяляў, хоць, можа, і не заўсёды, прытрымліваўся ў пэўныя перыяды жыцця — гэта бясспрэчна. Ён — і гэта вядома — не прыняў царскай улады, у шматлікіх творах выступаў супраць яе. Мары аб лепшай долі паэт ускладаў на рэвалюцыйныя падзеі, спадзяваўся, што менавіта яны вызваляць працоўнага беларуса ад спрадвечнага сацыяльнага і нацыянальнага прыгнёту.

І вось адбылося тое, чаго ён чакаў, на што спадзяваўся. Беларусь атрымала дзяржаўнасць, пачалі вырашацца сацыяльныя і нацыянальныя пытанні. Як рэагаваў на гэта Янка Купала? П.Броўка ў прадмове да апошняга сямітомнага Збору твораў песняра (Мінск, 1972 г.) адказвае на гэта адназначна: «Асаблівага росквіту дасягнула творчасць Янкі Купалы ў гады Савецкай улады. Здзяйсненне вялікіх надзей і жаданняў, вольнае жыццё распрыгоненага народа, імклівае будаўніцтва новага жыцця пад кіраўніцтвам Камуністычнай партыі натхнілі песняра на стварэнне новых твораў, якія ішлі з глыбінь яго сэрца... Янка Купала сапраўды народны паэт і актыўны будаўнік новага, сацыялістычнага грамадства. Народны паэт пільным зрокам ахапляў усю шматграннасць новага, бурлівага жыцця, і сапраўды сёння цяжка знайсці тэму, якой не кранула б у гады Савецкай улады яго паэтычная творчасць. Янка Купала верыў у поўную перамогу новага сацыяльнага ладу, у перамогу камунізма».

Прыкладна такіх жа поглядаў прытрымліваліся амаль усе, хто пісаў у гады Савецкай улады пра творчасць нашага народнага песняра.

Ці так усё гэта, ці праўда?

Пачатак творчасці Янкі Купалы прыпадае на пярэдадзень першай рускай рэвалюцыі. Менавіта тады, а, дакладней, 15 мая 1905 года, у газеце «Северо-Западный край» з'явіўся яго верш «Мужык». Услед за ім былі напісаны і надрукаваны на старонках многіх выданняў іншыя яго творы; большасць іх потым увайшла ў кнігі «Жалейка» (1908), «Гусляр» (1910), «Шляхам жыцця» (1913). Паспрабаваў Янка Купала свае сілы і ў драматургіі, публіцыстыцы. І ўсюды меў поспех. І раптам, калі, здавалася, дасягнуў вяршынь, ён змаўкае. І надоўга — амаль на тры гады! Апошні верш, які напісаў паэт перад тым, як змоўкнуць, быў «Мой цень»:

Як прыйдзе дзень майго збаўлення,
З крывавых церняў вызваленне, —
А веру, прыйдзе гэткі дзень, —
З імглы адвечнасці паўстане
І крыжам стане на кургане
Майго жыцця бяссмертны цень.

Без воч, без косці, жыл і сэрца,
Сам крыж, на крыж ён абапрэцца
І, ўвесь удумаўшыся ўдаль,
Сачыць пачне ўвесь ад пачатку
Мой шлях, якім шоў да астатку,
Які мне толькі кінуў жаль.

Сачыці будзе, як арліца
Дабычу сочыць над крыніцай,
Чаму з жыццём не ўмеў я жыць;
І наракаць, клясці не будзе,
Што я, што мне зрабілі людзі,
Не будзе плакаць ён і выць.

Не будзе, нават уздыхаці, —
Адно мо вырвецца праклянце,
Якім я жыў ад малку лет,
Адно сам аб сабе цень скажа
Крыжам, адвечнай сваёй стражы:
Каб не радзіўся лепш на свет!

«Мой цень» — адзін з самых асабістых і загадкавых твораў Янкі Купалы. Не дзіва, што паэт не спяшаўся здаваць яго ў друк — толькі праз чатыры гады верш быў змешчаны ў часопісе «Беларускае жыццё» (N 20, 1919). У гэтым вершы аўтар сурова, нават жорстка асудзіў сябе, той «шлях, якім шоў да астатку», прызнаў, што «з жыццём не ўмеў...жыць», і вынес страшны вырак: «Каб не радзіўся лепш на свет!» Якія на тое былі прычыны, што змусіла Янку Купалу прааналізаваць усё «да астатку» жыццё, якім ён жыў «ад малку лет», і *прызнаць, што яно было не такім, як павінна было быць*? На гэтае пытанне даследчыкі жыцця і творчасці народнага песняра яшчэ адказу не далі.

Рыгор Семашкевіч, аналізуючы «Мой цень» (Энцыклапедычны даведнік «Янка Купала», 1986 г.), правільна адзначаў, што гэты верш «развівае адзін з скразных алегарычных вобразаў дакастрычніцкай паэзіі Купалы — вобраз ценю, з якім звязана складанае філасофскае асэнсаванне прызначэння, мэты і вартасці жыцця». Правільна засяроджвае сваю ўвагу даследчык і на некаторых момантах, што нарадзілі гэты твор. «На агульную настраёвасць верша паўплывалі падзеі Першай сусветнай вайны, якія абвастрылі пакуты рамантычнага героя Купалы...» І ўсё ж, мне здаецца, Р.Семашкевіч недааццаніў некаторых асабістых момантаў у жыцці Янкі Купалы, якія не маглі не паўплываць на нараджэнне «Майго ценю». Паэт жа фактычна падвёў рысу пад сваім жыццём, не знайшоў у ім нічога станоўчага. Больш жыць так, як жыў, Янка Купала не хацеў. Што здарылася тады, у 1915 годзе, у жыцці паэта? Якая няўдача, якое гора ці ўзрушэнне напаткалі яго? На жаль, сёння пра гэта сказаць цяжка, трэба даследаваць, вывучаць. З таго ж, што вядома, можна нагадаць: у студзені 1915 года за артыкул «Думкі», накіраваны супраць імперыялістычнай бойні, канфіскоўваецца другі нумар газеты «Наша Ніва», і Янка Купала як рэдактар прыцягваецца да судовай адказнасці. А яшчэ праз некаторы час, у жніўні таго ж года, выданне «Нашай Нівы» і зусім спыняецца. Янка Купала з Вільні едзе ў Акопы, да маці. Але прабыў там усяго некалькі дзён. З Акопаў ён кіруецца ў Маскву, — паступае вучыцца ў Народны універсітэт імя А.Л.Шаняўскага. Тут, у Маскве, у студзені 1916 г. ён жэніцца з Уладзіслаўай Францаўнай Станкевіч. Адбыліся і іншыя змены ў жыцці паэта — ён быў прызваны ў армію — службу спярша ў Мінску ў якасці старшага рабочага дарожна-будаўнічага атрада Варшаўскай акругі шляхоў зносін, потым пераехаў разам з атрадам у Полацк, а ўжо адтуль у Смаленск, дзе яго і заспела, як яе называлі да нядаўняга часу, Вялікая Кастрычніцкая сацыялістычная рэвалюцыя. Асаблівага энтузіязму і радасці гэтая падзея ў Янкі Купалы не выклікала, ён не адгукнуўся на яе ні паэтычным, ні нават публіцыстычным радком. Гэта дае падставы сцвярджаць: Янка Купала калі і прыняў рэвалюцыю, дык без захаплення.

Да творчасці Янку Купалу вярнулі іншыя падзеі — распад царскай імперыі, нараджэнне Беларусі ўжо як дзяржавы. Менавіта тады — увосень 1918 года — пачынаецца ва ўсіх адносінах новы надзвычай плённы перыяд у жыцці і творчасці песняра — адзін за адным нараджаюцца яго выдатныя вершы, такія, як «Для Бацькаўшчыны», «Свайму народу», «Час!», «Годзе...», «Беларушчына», «На сход!», «Паўстань...» ды іншыя, многія з якіх потым гадамі хаваліся ад народа і толькі ў апошні час зноў пабачылі свет. Перажыўшы балюча нямецкую акупацыю, пасля камандзіровак у Курскую губерню, потым у Маскву, Янка Купала, нарэшце, вызваляецца ад службы ў арміі і пераязджае на сталае жыццё ў Мінск (студзень 1919 г.), дзе адбываюцца вельмі ж важныя падзеі. Шматлікія канферэнцыі і з'езды беларускіх нацыянальна-вызваленчых арганізацый прывялі да таго, што 25 сакавіка 1918 года была абвешчана Беларуская Народная Рэспубліка, якая, у сілу розных прычын і акалічнасцей, так і не змагла сябе па-сапраўднаму сцвердзіць. 9 снежня 1918 года нямецкія войскі пакінулі Мінск, а ўжо 30 снежня таго ж года ў Смаленску сабраўся з'езд беларусаў-бальшавікоў — ён прыняў пастанову аб стварэнні Беларускай Сацыялістычнай Савецкай Рэспублікі, пра што і было аб'яўлена 1 студзеня 1919 года. Бальшавікі ўтрымацца ў Мінску не змаглі, неўзабаве адступілі — пачалася польская акупацыя, якая прадаўжалася некалькі месяцаў. Перажытае самім Янкам Купалам і беларускім народам у тыя гады дало багаты матэрыял для напісання шматлікіх артыкулаў і трагікамедыі «Тутэйшыя». Тут, у Мінску, у чэрвені 1920 г. адбылося ўрачыстае святкаванне 15-гадовай творчай дзейнасці Янкі Купалы. Паэт выступае з прамовай, якая доўгія гады зноў жа замоўчвалася і якая пралівае святло на тое, чым ён тады жыў, пра што марыў, дбаў.

«Трудны і цярністы шлях прыйшлося прайсці нам, беларусам, за гэты час змагання за лепшую долю, за лепшую славу для свае Бацькаўшчыны! — гаварыў ён.— Але мы змагаліся і будзем змагацца... Што было пятнаццаць год таму назад і што мы бачым цяпер? Пятнаццаць год таму назад некалькі шалёных галоў захацелі мур прабіць — адбудоўваць сваю закаваную ў многавяковыя кайданы бацькаўшчыну, а сягоння без малага ўвесь народ усімі сіламі дамагаецца свайго вызвалення. Пятнаццаць год таму назад аб незалежнасці і падумаць было небяспечна — сягоння нашы дужэйшыя суседзі самі аб гэтым па-дзяржаўнаму гавораць з намі, як з народам, каторы заслужыў па людскому й Божаму праву гэту незалежнасць». Янка Купала супакойваў, абнадзейваў народ, казаў: «Хай вас, браты беларусы, не палохае цяперашні бурны крывавы час. Агнём і жалезам куецца моц, гарт, доля і воля народная. Праміне віхор, патухнуць пажары, замрэ свіст меча, і настане светлы радасны дзень змучанага аграбленага народа.

Хай вас не палохае, што рвуць нашу зямлю на часці, што хаты нашы спалоханы пажарам, што сяўбу нашу жне нехта іншы, — зямля, засеяная касцямі сыноў беларускіх, будзе вечна належаць да ўнукаў беларускіх; спаленую хату беларускі мазоль адбудуе, а сваю сяўбу ён сам будзе жаць. Хай толькі асвеціць вас адна вялікая думка, — аддаць усё для сваёй Бацькаўшчыны, нават жыццё, калі яна вас да гэтага пакліча».

Закончыў сваю прамову Янка Купала такімі словамі:

«З квяцістымі сонечнымі думкамі, з няломнай верай у лепшую долю і волю пойдзем усё наперад і наперад пад святым сцягам вольнай Беларусі.

Змагайся і стань вольным, Беларускі Народ!»

У гэтай прамове няма ні слова ў падтрымку бальшавікоў, Савецкай улады, Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі. Наадварот, ёсць словы «аб фальшывых прароках», «рэнегацкіх душах», што «за лыжку поснай поліўкі з чужой міскі запрадаюць сябе і свой народ у рабства чужынцам», пра тое, што гэтага не трэба баяцца, бо прыйдуць «новыя людзі», «новыя прарокі» і будуць «суды судзіць», «з пакалення ў пакаленне праклінаць успамінаць» «фальшывых пракокаў» і «прадажныя душы»... Дарэчы, не падтрымліваў бальшавікоў і новую ўладу Янка Купала і ў сваіх артыкулах, з якімі даволі часта выступаў у гэтыя гады ў друку. Калі ж дзе і ўспамінаў іх, дык не ўхвальна.

У Мінску Янка Купала рыхтуе да выдання свой ці не самы лепшы зборнік паэзіі «Спадчына», у які ўвайшлі творы, напісаныя як водгук на тыя падзеі, што адбываліся тады на Беларусі, а таксама некаторыя з тых, што паводле цэнзурных меркаванняў не ўключаліся ў раней выдадзеныя кнігі. Акрыленасць паэта ў гэты час небывалая. У 1922 годзе ў Акопах ён заканчвае трагікамедыю «Тутэйшыя» і аддае яе ў тэатр. Але спектакль па гэтай п'есе пасля некалькіх грамадскіх праглядаў быў забаронены... Чаму? Ды таму, што Янка Купала не захацеў свой твор «г л а д з і ц ь». Што гэта такое — «г л а д з і ц ь»? Пра гэта Янка Купала напісаў «крыху баладу». І калі? Яшчэ ў 1919 годзе, як толькі сутыкнуўся з гэтай з'явай, якую прынесла з сабою новая ўлада, а, дакладней, яе рэўнасныя ахоўнікі. Называлася гэтая «крыху балада» «Паэт і цэнзар».

І трэба ж — о дзівы! О цуды!
О слаўны дваццаты наш век!
Паэта прыдумаў паэму,
А цэнзар яе не пасек.

А толькі... Паслухайце толькі,
Што з гэтага далей было:
Вы ўбачыце, людзі, як гэта
Ў дабры часам гнездзіцца зло.

Паэта пад потам крывавым,
Не сплючы сто ночак падрад,
Паэму згарусціў, аж міла,
І цэнзару даў на прагляд.

А цэнзар меў добрае сэрца,
Што рэдка у нашым вяку, —
Паэмы не сек і не рэзаў,
А толькі... пагладзіў крыху.

І паэт ... Памёр.

Прад смерцяю толькі пакінуў
Таку эпітаф'ю жывым:
«Памёр я праз цэнзара, браткі,
Мяне не вініце ні ў чым.

Пакуль мяне цэнзары секлі, —
Ах, то ест, паэмы мае, —
Яшчэ я мог вытрымаць неяк, —
Пяяць, аб чым думка пяе.

Але як пачалі мне г л а д з і ц ь
Крывёю напісаны твор,
Не вытрываў, браткі, — каб жыў так!
Узяў я сабе ды памёр».

Не, Янка Купала як паэт тады яшчэ не памёр. Ён спрабаваў змагацца за права быць самім сабою, гаварыць, што думае, бачыць усё навокал такім, якім яно і было на самай справе. І гэта відаць на творах тых часоў. Так, у трагікамедыі «Тутэйшыя» ён бязлітасна высмейвае, асудзіў тых палякаў і тых рускіх, што не хацелі прызнаваць Беларусь за самастойную краіну, а беларусаў — за людзей асобнай нацыі са сваім духоўным светам, мовай і сваёй гісторыяй, культурай; не пашкадаваў ён і бальшавікоў — яны надта ж жорстка распраўляліся з усімі, хто думаў інакш, як яны, супрацьдзейнічалі іх дыктату. Не абышоў маўчаннем ён і Савецкай улады, уклаў у вусны аднаго з герояў такія вельмі ж красамоўныя словы: «Савецкі лад... гэта такая чырвоная паводка... такая, между протчым, паводка, аб якой не снілася ні Фараону, ні Саламону...»

Не, не ўсё яшчэ ясна было тады Янку Купалу, не ведаў ён, куды і як пойдуць, будуць развівацца падзеі; адчувалася нават як бы разгубленасць:

Стаім мы перад будучыняй нашай
І ўсё варожым, сочым ейны ход...
Ці ўскрэснем мы,
душою ўпаўшы, звяўшы,
Каб выйсці ў свет, як нейкі здольны род...
..........................................

Заціснуты, задушаны, як мышы
Пад жорсткім венікам, з усіх бакоў,
Шукаем, як сляпыя, не згубіўшы
Таго свайго, што наша ад вякоў.
..............................

Нявольніцтва й жабрацтва так нас з'ела
І так нам высмактала з сэрца сок,
Што нат у вочы глянуць, плюнуць смела
Не смеем, стоптаныя на пясок.

Там чутна: «Беларусь! Там —
Незалежнасць!»
А там — «Паўстань праклятцем»...
Ну а мы?
Мы ў страху... дум крутня...
разбежнасць...
Без толку крыллем лопаем, як цьмы.

О, так, як цьмы, як спуджаны вароны!..
І слухаем і нюхаем тут, там:
Які павеяў вецер на загоны —
Заходні, ўсходні, й ці ад нас, ці к нам?

Аграбленыя з гонару й кашулі,
З свайго прыпыну выгнаныя вон,
Мы дзякуем, што торбы апранулі
На нас ды з нашых нітак-валакон.

З кійком жабрачым так мы, паўналеткі,
Брыдзём, паўзём у свет —
скрозь неўпапад.
І прысягаем, клічам Бога ў сведкі,
Што мы — не мы, што нехта вінават...

І так жывём, сябе саміх не знаўшы,
Учора, сёння лазім між канаў...
Няўжо ж бы хто й над будучыняй нашай
Навек залом праклятны заламаў?

*(Працяг на стар. 12)*

# «І ДУМАК ЧЫСЦІНЯ»...

## *«БІБЛІЯТЭКА «МАЛАДОСЦІ»: СУСТРЭЧА ТРЭЦЯЯ*

*Анатоль Дэбіш, Васіль Дэбіш. Калядная вячэра. Вершы. Мінск, 1992.*

Сярод апошніх па часе выданняў-навінак маладой паэзіі кніжка братаў Дэбішаў прыцягнула асабліва, парадавала, як ніякая іншая. І вось чаму. У лірыцы Анатоля і Васіля Дэбішаў шмат беларускасці, душэўна непадробнага, тых жыватворных імпульсаў, якія мкнуць з глыбіняў чалавечага сэрца і памяці. Ёсць у іх паэзіі і падабенства, найперш у светаадчуванні: яны імкнуцца цэласна выявіць дух лірычнага перажывання, перадаць жывы характар пачуцця, дамінантай якога найчасцей з'яўляецца нейкая пракаветная інтымнасць, першароднасць:

**Хутка вячэра. Дзень адплывае ружовы**
**За небасхіл, дзе ў цішы маўчання і стомы**
**Новы абсяг паўстае, шчэ вачам невядомы,**
**Ў вечных пакутах нязнанай малітвы і мовы.**

**Ў шарым паўзмроку, дзе ўтоены жарты і кпіны,**
**Дзе ліхтары ў цемры сочаць штохвілю ахвяры,**
**Вэлюмам чорным хутаюць плечы хаціны,**
**Духі хаваюць ў кутках свае хцівыя твары.**

*/А. Дэбіш/*

**Прыцемак шэры стаіўся на дне ціішыні.**
**Шолах лісця. Зор зіхоткія стынуць агні.**
**Бляск ад кастра па-над цёмнай,**
**здранцвелай вадой.**
**Пахне аерам зямля і зялёнай травой.**

*/В. Дэбіш/*

У гэтых радках сама адухоўленая існасць паэзіі, найперш, мусіць, паэзіі спаконвяковай, паганскай. Блізкія маладыя аўтары некаторымі матывамі: пошуку духоўнасці, прагі вяртання людскіх душаў да Храма, да Бога, трывожнага роздуму пра лёс Бацькаўшчыны, народа, «каб дзень наш ачысціць ад зла, і ад змроку, і бруду». Але ў кожнага з паэтаў выяўляецца сваё ўнутранае пазнанне ісціны, сэнсу рэчаў. Самотніцкі настрой, праўда, характэрны для абодвух:

**Сэрцу спатолі няма... Гоніць удалеч самота,**
**Можа, у храме збавенне знайду між людзей?**
**Дзверы адчынены насцеж... Пах**
**парафіну і поту**
**Цела і ДУХ мой узносіць вышэй і вышэй.**

**Да купалоў і да зор ці да Бога самога**
**За цеплынёю душы й разуменнем людскім.**
**Вочы расплюшчу... навокал — нікога:**
**Сцены, акно і халодная восень за ім.**

*/А. Дэбіш/*

**Пустэльнікам самотным па зямлі**
**Блукаць. Бо тут забыліся пра БОГА.**
**Мне не патрэбен храм такі, калі**
**Ён для абраных служыць, для нямногіх.**

*/В. Дэбіш/*

Радок А. і В. Дэбішаў арганічна пранікае ў дух мінулага, адвечнага духоўнага быцця на роднай зямлі. Мінулае дапамагае намацваць і абдумваць сцежкі ў будучыню. Асабліва прыкметна звернуты ўглыб нацыянальнага духу і памяці верш А. Дэбіша, мысленне якога адчувальна міфалагізаванае /вершы «Калядная вячэра», «Дзіў», «Чарнабог» і інш/. Увогуле, неад'емная і вызначальная рыса светаўспрымання і апірышча душ маладых паэтаў — гэта іх арыентацыя на духоўную і гістарычную спадчыну народа, пра што сведчыць само кола вобразаў: Дух, Беларусь, жалейка, сурма, Зніч і інш. І гэта не проста словы-знакі, а духоўныя сімвалы, адраджэнскія зоркі-паходні /вершы «Нашчадак», «Чырвоныя камяні», «Штовечар, калі ноч рукой халоднай змроку...» А. Дэбіша, «Беларускі трыпціх», «Пагоня», «Багрымава жалейка» В. Дэбіша/.

Бясспрэчна, няроўная мастацкая глыбіня, якасць вершаў маладых аўтараў, як неаднолькавыя яны па ўзроўні мастацкага самавыяўлення. Больш слабых мясцін, як падаецца, у Васіля Дэбіша. У некаторых вершах ён не дасягае арыгінальнасці, думцы яго не стае адпаведнага эмацыянальнага ціску, тады яна ператвараецца ў нейкую агульную тэзу:

**Ты — неба, а я — зямля.**
**Нам не жыць адно без аднаго,**
**Але ніколі нам не быць разам.**
**Таму, што ты — неба, а я — зямля.**

«Нам не жыць адно без аднаго» — эксплуатацыя банальнага. Верш «Паміж яваю і сном...» — яркі ўзор таго, як думка-пачуццё не можа разгарнуцца ў сапраўды ўражлівы, кранальны радок. «Апошняя ноч К. Каліноўскага» — твор, які хварэе на агульнавядомае, фармальна-рытарычнае пісьмо, адчуваецца, што малады аўтар не знайшоў свой «ключ» для выявы вобраза: «Заўтра здушыць вяроўка рот... А душа паляціць ПАГОНЯЙ!» Жадае лепшага ў братоў Дэбішаў культура рыфмы, увогуле верша. У іх шмат зацёртага рыфмавання, просценькіх дзеяслоўных рыфмаў, сустракаюцца і зусім няўдалыя, каструбаватыя радкі, якія істотна зніжаюць узровень паэтычнага мыслення: «Ноч навокал. На ржавым цвіку — Кроў. І па ўсім — я ступаю павольна» /верш «Час»/, «Прамільгне і знікне продка цень У Бажніцы перад Дзевы стодам», «Гарыць наша памяць агнём непагасным У мужнай руцэ, што трымае цябе», «Свой чорны ўбор Ценем маім на халодным зямлі распасцёр» і інш.

Аднак у лепшых вершах братоў Дэбішаў нас «нібы сонца, грэе маладосць». Яна — у інтанацыях, рытме, асабіста вынашаных вобразах-пачуццях. Усялякага саладжавага «сю-сю» імкнуцца пазбягаць Дэбішы ў сваёй інтымна-любоўнай лірыцы: Што прывабнае і адметнае, дык гэта тое, што каханне раскрываецца як таямніца, як гармонія душэўнай повязі і радасць асалоды /«Госця», «Прыйшла... І супыніла часу рух...» А. Дэбіша, «Ноч», «Люты. Снегу наваліла...» В. Дэбіша/. Асобныя радкі пра каханне агортвае лёгкі вэлюм эрасу, які мае яркую пачуццёвую афарбоўку. Хораша паэтызуюцца В. Дэбішам першыя сарамліва-нясмелыя пачуцці:

**Толькі ты і я. Навокал**
**Ні душы. Сцюдзёна б'е**
**Вецер твар. Цалую шчокі,**
**Вусны я лаўлю твае.**
**Тае снег незацвярдзелы.**
**Ноч. І толькі ты і я.**
**Толькі вуснаў шэпт нясмелы:**
**— Любы!**
**— Любая мая!**

А. Дэбіш імкнецца да сэнсава-вобразнай напоўненасці верша, сімвалічнасці, міфалагічнай заглыбленасці. В. Дэбіш пераважна ва ўладзе малюнкавасці, настраёвай эмоцыі. Ліра першага гучыць, як падаецца, ва унісон з традыцыяй У. Караткевіча, другі схільны ісці шляхам М. Стральцова, Р. Семашкевіча, Я. Янішчыц... Зразумела, гэта крыху даніна модзе — суадносіць маладых з папярэднікамі. Тым больш, што нехта выведзе іншы паэтычны радавод. Але так здараецца, відаць, заўсёды, калі паэтычнае слова не пакідае абыякавым. Анатоль і Васіль Дэбішы, як бачым, не толькі блізкія ўнутрана, але гарманічна дапаўняюць адзін аднаго.

**Алесь БЕЛЬСКІ**

*/Працяг будзе/*

**НОВЫЯ КНІГІ**

## «БЕЛАРУСКАЯ ЛІТАРАТУРА», ЧАРГОВЫ ВЫПУСК...

Дванаццаты раз прыйшоў да чытачоў рэспубліканскі міжведамасны зборнік «Беларуская літаратура», які выдаецца з 1973 года. Як і ў папярэдніх, у ім змешчаны шэраг цікавых матэрыялаў, якія тычацца сучаснага творчага працэсу і гісторыі літаратуры. Сярод іх «Матчын дар» Алеся Гаруна і «Вянок» Максіма Багдановіча (спроба тыпалагічнага параўнання)» У.Рагойшы, «Біблейскія матывы ў баладзе» І.Штэйнера, «Наша Ніва» і нацыянальнае пытанне» П.Навойчыка, «Канцэпцыя асобы ў драматургіі Уладзіміра Караткевіча» Э. Садаўнічага і Н.Судзевай, «Энцыклапедыя беларусазнаўства (нарысы Адама Кіркора пра Беларусь у III т. «Живописной России» за 1882 г.)» І.Запрудскага, «Сучасная проза і драматургія ў аглядавых тэмах па літаратуры» В.Смыкоўскай...

У раздзеле «Публікацыі» прадстаўлены фальклор так званых «мёртвых вёсак», тых самых, жыхары якіх пасля Чарнобыля вымушаны былі пакінуць родныя мясціны.

**СТАРОНКІ ЎСПАМІНАЎ**

# «ПАЭЗІЯ ЕСМ ПЦІЦА...»

Мы жылі па суседстве. Я — у звычайнай пяціпавярховай каробцы, ён — у агромністай даміне з некалькімі прыбудаванымі магазінамі. Каб выклікаць ліфт, спачатку трэба адолець стромкія ўсходы, і на немалую вышыню. У пад'ездзе — хоць выкалі вока. Пастараліся юныя ленінцы, нераўнадушныя да «лямпачкі Ільіча». Слізка, пад абцасамі трашчыць шкло. Тут і папраўдзе нядоўга скруціць галаву. З палёгкаю заходжу ў запэцканую кабіну ліфта. Такое адчуванне, што падымаюся не ўгару, а бытта праваліваюся ў нейкі чорны калодзеж.

Нарэшце — пляцоўка. Дзверы з N 226. Націскаю на кнопку званка. І чую ў адказ:

— Адчынена! Заходзь!..

Кватэра — аднапакаёўка. Незафіраненае вакно з выхадам на балкон. Ніякай мэблі, калі не лічыць дзве табурэткі ды старамодны круглы стол непадалёку ад вакна. Па кутах — горбы кніг. Каля сцяны, на раскладушцы, з цыгарэтаю ў руцэ ляжыць гаспадар. На грудзях — разгорнутая кніжка з белымі вокладкамі, падобная на раскрыленую птушку, пра што і паведамляю замест прывітання.

— Ты не памыляешся, — выдыхае разам з дымам Рудкоўскі. — Паэзія есм пціца непрыручаная, што ніяк не ўцямяць многія мінскія галубятнікі. Паслухай лепш...

Ён бярэ ў руку кніжку і чытае:

**И мнится — голос человека**
**Здесь никогда не прозвучит,**
**Лишь ветер каменного века**
**В ворота черные стучит.**
**И мнится мне, что уцелела**
**Под этим небом я одна —**
**За то, что первая хотела**
**Испить смертельного вина.**

— Сур'ёзны верш, — пагаджаюся я, ідучы на кухню, дзе выкладваю на падаконнік буханку хлеба, кавалачак прывезенага з вёскі сала, сыр.

— Анна Андрэеўна! — у Міхасёвым голасе непадробная павага. — Слямнёва, жахлівы семнаццаты год... — І пасля кароткай паўзы, як паміж іншым: — Можа, збегаеш, прынясеш паўлітра?..

— Не магу, — будзённа адсякаю я, — грошай няма.

— Знайду...

— Не прасі, усё роўна не пайду.

Прысеўшы на табурэтку, бачу, як пачынаюць незадаволена тапырыцца пад тонкім носам фацэтна падстрыжаныя кароткія вусікі. І — занудлівае бурклівае выгаворванне, да якога я паспеў прывыкнуць яшчэ падчас нядоўгай сумеснай работы на Брэсцкім тэлебачанні, у літаратурна-драматычнай рэдакцыі.

— Ведаеш, мне на кійку трэсціся? За сцяну трымаюся, каб не загрымець са сходаў. Магазін у дварах, а я мо дзве гадзіны марную...

На пачатку 80-ых Міхась Рудкоўскі пакінуў службу на студыі, дзе працаваў амаль дваццаць гадоў. Блага стала з нагамі. Дактары назначылі яму інвалідную групу. Паспрыяў Уладзімір Андрэевіч Калеснік, да якога прыслухоўваліся не толькі людзі ў белых халатах — нават мясцовыя партыйныя функцыянеры з іх ваяўнічым непрыняццем усяго нацыянальнага, беларускага. Атрымаўшы сякую-такую пенсію, Рудкоўскі падоўгу не падаваў пра сябе вестак. І сам не званіў, і да яго не дазваніцца, бо не меў на кватэры тэлефона. Таму зрэдку я наведваўся да Міхася, не чакаючы запрашэння. Тыя сустрэчы, калі яны здараліся, нельга назваць цікавымі. Хутчэй наадварот: часцей за ўсё яны выклікалі пачуццё прыкрасці — цяжка было глядзець, як чалавек паступова дабівае сваё здароўе, губіць самога сябе. Раптам успомнілася, як аднойчы ў перапынку творча-вытворчага пісьменніцкага сходу ў Доме літаратара Святлейшы — ён жа аўтар рамана «Плач перапёлкі» Іван Гаўрылавіч Чыгрынаў, — убачыўшы ў фае героя майго эсэ, якога моцна вадзіла ўбакі, глыбакадумна прамовіў: «Інтэлігентны ўсё-ткі чалавек гэты брэсцкі Рудкоўскі, нават пад мухай. Такое — рэдка бывае з нашым братам...» Івану Гаўрылавічу з яго багатым вопытам літаратурнага жыцця і ў глухія часы так званага застою, і ў гады незабыўнай антыалкагольнай кампаніі можна паверыць. Хоць, як кажуць, нічога не папішаш: гарэлка мазгі не варушыць, а сушыць.

Ды хопіць пра нязводнае чортава зелле! Каб толькі яно хмяліла душу — даўно звар'яцеў бы свет. Давайце лепей паслухаем:

**Карай мяне за грэх любы,**
**Без літасці карай!**
**Але прашу — не разлюбі!**
**Малю: не раскахай!**

***ЛЯ КНІЖНАЙ ПАЛІЦЫ***

# ТУТ ІХ РАДЗІМА

Амаль шэсць стагоддзяў жывуць на беларускай зямлі татары, выхадцы з даўно забытых ордаў. Жывуць поплеч з беларусамі, палякамі, літоўцамі і іншымі народамі. Шэсць стагоддзяў служылі іх продкі гэтай зямлі. Тут іх радзіма. Чатырыста гадоў таму амаль усе яны перайшлі на беларускую мову і сёння амаль не адрозніваюцца ад мясцовых жыхароў, хіба толькі тым, што некаторыя з іх носяць татарскія імёны, а частка з іх спавядае іслам, з чым звязаны некаторыя адметныя традыцыі і звычаі. Іх шматвекавая гісторыя ўпісана ў гісторыю балта-славянскай дзяржавы — Вялікага княства Літоўскага, Рускага і Жамойцкага, якой яны служылі верай і праўдай.

Іх спрадвяку называлі літоўскімі татарамі /зрэдку — беларускімі татарамі/, незалежна ад таго, жылі яны на землях Беларусі, Польшчы ці Літвы. Такім найменнем і сёння найчасцей карыстаюцца гісторыкі і этнографы. Апошнім часам у татарскім асяроддзі ўзнік яшчэ тэрмін «заходнія татары», у адрозненне ад крымскіх, казанскіх і інш. Заходнія татары складаюць спецыфічную нацыянальную групу татараў. Іх характэрнай адзнакай з'яўляецца славянамоўнасць. Сёння з 12 тысяч татар, што жывуць на Беларусі, толькі 3 тысячы назвалі роднай мовай татарскую.

З глыбокай старажытнасці на Беларусі іх асноўным абавязкам з'яўлялася вайсковая служба. Правіцелі Літоўска-Беларускай дзяржавы цанілі ваенны вопыт і баявыя якасці ваяўнічых нашчадкаў ардынцаў, яны ўмелі і любілі ваяваць. Таму вялікія князі надзялялі іх зямлёй, плацілі жалаванне, прывабліваі падарункамі. Напачатку яны мелі свае харунжаствы, потым служылі ў складзе войска вялікага князя. Татары Вялікага княства, якое стала іх радзімай, верна служылі сваёй новай айчыне, змагаліся з яе ворагамі, у тым ліку і з былымі адзінаверцамі-мусульманамі.

Татарскія харугвы лічыліся асобным тыпам кавалерыі. Літоўска-татарская кавалерыя прымала актыўны ўдзел амаль ва ўсіх бітвах і шматлікіх тагачасных войнах. Пад вялікакняскімі і каралеўскімі сцягамі яна ўдзельнічала ў Грунвальдскай бітве 1410 г., білася з рускай паменснай конніцай, турэцкімі янычарамі, драгунамі шведскага

**Я без цябе — без лісцяў лес**
**Ці птах, што без крыла.**
**Аслепну ўраз я ў цемры без**
**Душы твайго святла.**
**........................**
**Таму прашу: карай, карай**
**За грэх мой за любы!**
**Але малю: не раскахай,**
**Крый Бог, не разлюбі!**

Гэты верш — з апошняй Міхасёвай кнігі, якая называецца «Гарынь».

Ведаю: ён вельмі чакаў яе і — не дачакаўся. Сціплае афармленне, папяровыя вокладкі... Убачыў бы — напэўна, сумна ўсміхнуўся б: ізноў кардонная саліднасць дасталася масцеравітым і ўвішным галубятнікам. І не змаўчаў бы, абавязкова даў бы мне ў грыву за даўжэзнае шматкроп'е паміж другім і трэцім слупком працытаванага верша, за прапушчанае чатырохрадкоўе, як на мой розум, лішняе, надта «залітаратуранае».

Даруй, Міхась, за такое свавольства. Уяўляю, як ты не на жарт абурыўся б, як, злосна натапырыўшы вусы, не стаў бы слухаць мае апраўданні. Я ўжо не кажу пра крытычныя заўвагі. Хто з сыноў Апалона да іх прыслухоўваецца? Таму, каб ісці далей з чыстай душою, далучаю замоўчаныя чатыры радкі да астатніх шэрым празаічным пісьмом:

**«Альбо паміж бясстрасных зор У празе і віне Згару — чужынец-метэор — У роднай старане».**

Жменька слоў. Перачытаў іх яшчэ раз уголас і не магу не здзівіцца: як шмат сказана горкай праўды. І пра сябе, і пра ўсіх нас, хто моліцца роднаму слову. Хіба не чужынцы мы на сваёй зямлі? Чаму так здарылася — няцяжка растлумачыць, хоць бы і па-школьнаму, дзякуючы агульнавядомым фактам. Але ці палепшыцца ад гэтага наша самаадчуванне? Дый цяпер мяне цікавіць зусім іншае: што дапамагло паэту нават «у празе і віне», нібыта стрыножанаму ідэалагічнымі шорамі /«На міг Ільіч прысеў на пень, які Стаіць мацней, чым залатыя троны. Ён слухае рабочыя мільёны, Прароча ўглядаецца ў вякі...»/, заставацца самім сабою — паэтам. Знарок абыходжуся без эпітэтаў накшталт «выдатны», бо Рудкоўскага, я ў тым упэўнены, менш за ўсё хвалявала чарга на Алімп, ілюзорнымі прыступкамі да якога служаць «ура-рэцэнзіі», дзяржаўныя прэміі, ганаровыя званні...

І ў жыцці і ў паэзіі з гадоў юначых і да апошніх дзён яго не пакідала, яго вяла любоў, бо

**Зямля без сонца — прах, а не зямля,**
**а без любові чалавек — што камень...**

У гэтым святым пачуцці, як у зярнятку, ён бачыў сэнс нашага з'яўлення, нашага быцця:

**З часоў дагістарычных і да новых**
**свет ўсё-такі стаіць на трох кітах:**
**на дабраце, на працы, на любові.**

Абедзве цытаты, а таксама радкі пра Ільіча, ад позірку якога «збіраюцца на небакраі буры і спеюць у грозных бурах перуны», узяты мною са зборніка лірыкі «Позвы», выдадзенага ў 1971 годзе. Як і ў папярэдніх кнігах, там шмат вершаў пра цішыню і грымоты, дабрыню і жорсткасць, любоў і нянавісць, але асабіста мне яны нагадваюць сонечныя і цёмныя шкельцы калейдаскопа, з'яднаныя хіба аднымі вокладкамі.

Зусім іншы настрой, зусім іншая інтанацыя трымціць у радках на старонках зборнікаў «Трыгор'е» /1981/, «Засцярога» /1984/, і, асабліва, у вершах з апошняй кніжкі — «Гарынь». Нягледзячы ні на што, Рудкоўскі імкнуўся да высокай гармоніі, ды прыгожага суіснавання нават процілеглых пачаткаў, калі ўсё вынікае і дапаўняецца адно адным. Так, прынамсі, ён марыў, каб сталася, але не заплюшчваў вачэй і на іншае: «Нам чагосьці ўсё не хапае: то шаўкоў, то яды, то бяды. — Стараніся! — ляцім і не знаем і па што, і нашто, і куды...» Ратунак быў адзін — у роднай палескай прыродзе, у яе тонкіх акварэльных краявідах, што часам нібы самі прамаўляюць да нас паэтавым голасам:

**Ён, свет, чароўны, як заўсёды:**
**Звініць у срэбры дня аер,**
**Ляціць у бездань ночы звер**
**І лебедзь падае на воды;**
**І голас кнігаўкі ў тумане,**
**І першы промень на сасне,**
**І залацінка ў баразне,**
**І незвычайнасці чаканне;**
**Далёкі грукат перуновы,**
**І шэпт твой мілы на мяжы,**
**І разняволеныя словы**
**У разняволенай душы...**

Міхась Рудкоўскі — апошні гук той дзівоснай казкі, якую ўсё яшчэ па звычцы называем Палессем. Не стала Палесся, замоўк і паэт. Ёсць яго наступнікі, але яны дзеці іншага часу, іншых прастораў і рытмаў. Не хачу нікога з іх пакрыўдзіць, але яны не дыханне Палесся, а толькі след ад гэтага дыхання на люстэрку. Значыць, казка не памерла, яна жыве — можа мне хтосьці запярэчыць. Але ці жыве голас у сваім рэху?

Вось яшчэ адзін верш з «Гарыні». Без назвы і нават без двукосся ці працяжніка перад першым словам, абавязковых для маналога або дыялога:

**Для вас — мае пушчы, і травы , й пралескі,**
**І кожнае зернетка ў заўтрашнім полі,**
**І трубы аленяў, і зябліка песня,**
**Для вас — мая воля, спрадвечная воля.**
**А вы да мяне — у жалезе і п'яна,**
**У зайздрасці хцівай і жорсткай без меры.**
**Уся я ў атруце, у шрамах і ранах,**
**Канаю паціху... без страху... без веры...**

Занадта песімістычна? Не, Рудкоўскі не быў песімістам. Наадварот, ён быў жыццялюбам. Я сам, сваімі вачыма, неаднойчы бачыў, як у перапоўненым гарадскім аўтобусе ён цягнуўся тварам да дзявочых валасоў, быццам конь да капы салодкага хмельнага сена. Не буду падмацоўваць свае словы цытатамі з вершаў пра каханне — яны залацінкамі рассыпаны па ўсіх Міхасёвых кнігах. А з азвярэннем людскім ён змагаўся з усіх сіл. Змагаўся і перамагаў:

**Рассуну я сцены ў пакоі сваім**
**На поўдзень і поўнач, на захад і ўсход,**
**І столь падніму да аблок,**
**І будзем там жыць —**
**Смяяцца, тужыць і дружыць —**
**Я і птушыны народ,**
**Я і звярыны народ.**
**З году ў год,**
**З роду ў род,**
**Сотню і тысячу год**
**Там у пакоі сваім будзем жыць**
**Я і мой слаўны народ.**

І сапраўды, колькі разоў, вяртаючыся ўвечары пасля работы дахаты, я бачыў на высокім балконе, быццам у каўчэгу, самотную Міхасёву постаць, да якой з радасным крыкам імчалі стрыжы!

... — Дык мо хоць піва прывалок бы, — зразумеўшы, што я няўмольны, зноў падае голас з раскладушкі Міхась.

— Чарга — чалавек трыццаць.

— А ты скажы Зіне, што ад мяне... — ён увачавідкі ажыўляецца, спускае на падлогу ногі. — Толькі слоік спаласні...

Што мне рабіць? Пайсці, ляпнуўшы дзвярыма, дахаты? Нават не перакінуўшыся словам... Іду на кухню і мыю трохлітровы слоік. Меншых — няма. Вяртацца давядзецца з поўным, бо наперад ведаю Міхасёву філасофію: толькі паўнюткі слоік піва эстэтычны на выгляд, а ва ўсіх астатніх варыянтах нагадвае... Мусіць, вы ўжо самі здагадаліся, што нагадвае.

Вывальваюся з цёмнай яміны пад'езда і міжволі застываю на сходах. Вось якое дзіва: калі заходзіў да Міхася, здаецца, буяла вясна, а выйшаў — у рэдзенькай тапалёвай лістоце блішчыць ціхмяны восеньскі дзянёк. Няйнакш — зрокавы падман. Бочка з півам стаіць на месцы — у тарцы даміны, і да яе, як да вулея, спяшаецца народ. Кіруюся туды і я. Не замаруджваючы хады, абмінаю чаргу, але паставіць слоік пад кранік мне не даюць.

— Куды прош? Куды ты прош, цібя спрашываю? Пратры ачкі і дуй у канец очарадзі!..

Кулак у хлапчыны — як мае два, на валасатай руцэ цвіце сіняя пляма татуіроўкі.

— Зіна, — кажу спакойна прадаўшчыцы, — Рудкоўскі сам не можа прыйсці, вельмі прасіў яму наліць.

Зіна — мажная, не абняць — кабеціна /як толькі яна ўлезла ў свой жоўты халат!/ з мясістымі губамі, рукі — яшчэ большыя, чым у хлапчыны. Нейкае імгненне яна лупіцца на мяне шырока расплюшчанымі вачамі, потым цяжка прыўстае з жалезнай табурэткі і, выкручваючы анучу, глядзіць на Міхасёў партрэт, прымацаваны да сцяны даміны з адпаведным надпісам: «Тут жыў і працаваў паэт...»

— Не ўпадзеш, пастаіш! — кідае яна праз плячо хлапчыне, беручы з маіх рук слоік. — Ён не для сябе, а для ізвеснага пісацеля, хворага на ногі.

І — налівае мне піва. Забіраю барадаты слоік і не саромеюся пацалаваць пухлую, як булка, Зініну руку, аж яна забываецца закрыць піўны кранік...

**Уладзімір ЯГОЎДЗІК**

караля, казацкімі загонамі, а таксама з лівонскімі, венгерскімі, прускімі і інш. войскамі, яны былі ў ліку паўстанцаў Т. Касцюшкі і К. Каліноўскага.

Прадстаўнікі іх знаці ўключаліся ў склад класа феадалаў, нароўні з баярамі, шляхтай, атрымоўвалі значныя абшары зямлі, служылі пры князях талмачамі, ездзілі пасламі ў татарскія ханствы. Правы і павіннасці служылых татар /«татар гаспадарскіх»/ былі даволі акрэсленыя, а іх юрыдычнае становішча замацоўвалі вялікакняскія прывілеі і розныя юрыдычныя акты. У ліку абмежаванняў, прадугледжаных Статутамі Вялікага княства Літоўскага 1529, 1566 і 1588 гадоў, былі: забарона татарам набываць хрысціян у няволю, звяртаць закупных хрысціян у сваю «басурманскую веру» і браць хрысціянак карміцелькамі сваіх дзяцей. Фактычна шлюбы паміж татарамі і хрысціянкамі, якія заўсёды асуджалі царква і касцёл, увесь час заключаліся, прычым татары жаніліся і на шляхцянках, трымалі яны і чэлядзь нявольную, і карміцелек-хрысціянак. Характэрна, што татар-прыгонных у Вялікім княстве Літоўскім да 19 ст. не было.

У час так званай Контррэфармацыі татары-мусульмане карысталіся нават большай свабодай, чым хрысціяне-іншадумцы. Езуіты адкрыта сцвярджалі, што яны згодны хутчэй дазволіць свабоднае веравызнанне татарам і яўрэям, чым дысідэнтам /ерэтыкам, іншадумцам/, якія больш небяспечныя для рымскай царквы. Татары-мусульмане не ўяўлялі для іх небяспекі з прычыны іх нешматлікасці. Практычна каталіцкае духавенства ставіла мэтай перашкодзіць толькі пашырэнню ісламу ў Беларуска-Літоўскай дзяржаве.

Безупынныя зносіны татар з беларусамі паўплывалі і на беларускую мову. На думку акадэміка Я. Карскага, каля 2 тысяч слоў у беларускай мове маюць цюркскае паходжанне, у іх ліку такія звычайныя для нас сёння словы, як баламут, барыш, гарбуз, дуралей, ёлуп, капкан, каптан, люлька, тавар, хамут і інш.

Найбольшыя асяродкі татарскага насельніцтва да сёння захаваліся ў Слоніме, Смілавічах, Ляхавічах, Глыбокім, Лідзе, Мядзеле; жывуць яны ў Мінску, Вільні. Займаюцца рамёствамі, агародніцтвам. У гады савецкай улады і ў гады гітлераўскай акупацыі многія іх мячэці былі разбураны, зачынены, перабудаваны альбо закінутыя. Быў разрабаваны і знішчаны татарскі музей у Вільні.

Толькі ў 1970-я гады ў Польшчы, Літве і на Беларусі актывізавалася дзейнасць татарскіх нацыянальных арганізацый, якія маюць на мэце адрадзіць лепшыя традыцыі, спрыяць пашырэнню цікавасці да сваёй гісторыі.

Адной з праяў гэтага адраджэння і стала кніга С. У. Думіна і І. Б. Канапацкага «Беларускія татары: мінулае і сучаснасць», якая толькі што выдадзена выдавецтвам «Полымя». Кніга невялікая — 200 старонак. Але ў ёй даволі поўна і праўдзіва распавядаецца пра гісторыю татар, што здавён жывуць на Беларусі ад іх паяўлення ў 14 ст. на землях Вялікага княства Літоўскага і да нашых дзён. У кнізе падрабязна асвятляецца ўвесь гэты даволі працяглы гістарычны перыяд з яго гераічнымі і трагічнымі старонкамі, адзначаюцца ў ёй перыяды захавання нацыянальнага ўкладу жыцця татар і паступовай іх асіміляцыі, цесныя сувязі з беларусамі. Асобныя раздзелы прысвечаны традыцыям, побыту гэтага народа, сённяшняму стану, намаганням, што прыкладаюцца па іх зберажэнні, адраджэнні і ўзбагачэнні.

Кніга адрасавана ўсім, хто цікавіцца гісторыяй зямлі беларускай і людзей, што на ёй жывуць.

**І. ХАЎРАТОВІЧ,**
**кандыдат гістарычных навук**

**ВІНШУЕМ!**



# ПЛЁН ПРАЖЫТЫХ ГАДОЎ

## *Рыгору Рэлесу — 80*

Як і многія пісьменнікі, Рыгор Рэлес пачынаў з вершаў. На яўрэйскай мове выдаў дзве кніжкі — «Пачатак» /1940/ і «Вершы» /1941/. У 1961 годзе яго зборнік паэзіі «Бяроза пад акном» выйшаў у перакладзе на беларускую мову.

І ўсё ж, думаецца, сваё сапраўднае прызванне Р. Рэлес знайшоў у галіне прозы. Добра ведаючы жыццё /у даваенны час працаваў выкладчыкам рускай мовы і літаратуры ў сярэдніх школах Слуцка і Навагрудка, а ў 1947—1973 гадах — у вячэрніх школах рабочай моладзі/, у сваіх творах у асноўным расказвае пра тых, хто займаецца выхаваннем падрастаючага пакалення, а таксама пра вучняў. Як празаік, выступае па-руску /першая аповесць «Пра тое, чаго не ведаюць вучні», была надрукавана ў 1955 годзе ў часопісе «Полымя» ў перакладзе на беларускую мову/.

На творчым рахунку Р. Рэлеса кнігі «Запіскі майго калегі» /1960/, «Праз цяжкі парог» /1976/, «Пад адной страхой» /1979/ і іншыя. Добра вядомы пісьменнік і як публіцыст. Р. Рэлес — пастаянны аўтар часопіса «Саветыш Геймланд» /«Савецкая Радзіма»/, які выходзіць у Маскве. Апошнім часам яго голас можна часта пачуць па радыё. Прынамсі, падрабязна расказаў пра творчасць класіка яўрэйскай літаратуры, колішняга капыляніна Мендэле-Мойхер-Сфорыма.

З 80-годдзем Вас, Рыгор Львовіч! Яшчэ доўгіх год жыцця Вам і новых твораў!

## НАШ КАЛЯНДАР

80 гадоў з дня выхаду ў Пецярбурзе трэцяй кнігі паэзіі Янкі Купалы **«Шляхам жыцця»**, якая стала этапнай у творчасці народнага песняра і ўсёй беларускай літаратуры пачатку XX стагоддзя. Выпусціла кнігу выдавецкая суполка «Загляне сонца і ў наша ваконца». Звярніце ўвагу: тыраж — 3 тысячы асобнікаў! Для параўнання: сёння паэтычныя кніжкі выпускаюцца накладам меншым за тысячу экземпляраў.

100 гадоў з дня нараджэння ўдзельніка нацыянальна-вызваленчага руху ў былой Заходняй Беларусі, аднаго з заснавальнікаў Таварыства беларускай школы і гімназіі імя Ф. Скарыны ў Радашкавічах **Язэпа ГАЎРЫЛІКА** споўнілася 6 красавіка /1893—1937/.

140 гадоў з дня нараджэння беларускага археолага і гісторыка, крыніцазнаўца **Уладзіміра ЗАВІТНЕВІЧА** споўнілася 14 красавіка /1853—1927/.

130 гадоў з дня нараджэння чэшскага этнографа, музыказнаўца, фальклярыста, мастака, пісьменніка, даследчыка беларускіх народных песень **Людвіка КУБЫ** споўнілася 16 красавіка /1863—1956/. Першы апублікаваў запісы беларускіх народных двухгалосых песень, даследаваў своеасаблівасць беларускага музычнага фальклору.

90 гадоў з дня нараджэння вядомага пісьменніка і грамадскага дзеяча, ахвяры сталінізму **П. ГАЛАВАЧА** споўнілася 18 красавіка /1903—1937/. Адзін з кіраўнікоў літаратурнай арганізацыі «Маладняк». Некаторы час рэдагаваў часопісы «Маладняк» і «Полымя». У 1958 годзе выйшаў Збор твораў у трох тамах.

100 гадоў з дня нараджэння драматурга **Васіля ГАРБАЦЭВІЧА** споўнілася 19 красавіка /1893—1985/. Шырокую вядомасць набыла п'еса В. Гарбацэвіча «Чырвоныя кветкі Беларусі». Аўтар успамінаў пра сустрэчу з М. Багдановічам у Яраслаўлі.

90 гадоў з дня нараджэння крытыка **Міколы АЛЯХНОВІЧА** споўнілася 21 красавіка /1903—1959/. Як крытык, выступаў з 1926 года. У перыядычным друку апублікаваў артыкулы і рэцэнзіі пра творчасць П. Труса, А. Александровіча, Р. Мурашкі, М. Багдановіча і іншых. У пасляваенны час працаваў урачом.

140 гадоў з дня нараджэння гісторыка, архівіста, даследчыка помнікаў старажытнай пісьменнасці Беларусі, Літвы і Польшчы **Станіслава ПТАШЫНСКАГА** спаўняецца 24 красавіка /1853—1933/.

Юры СТАНКЕВІЧ

# УНАЧЫ ГУЧНЕЙ БРУЯЦЬ ФАНТАНЫ



## Апавяданне

А ДРУГОЙ гадзіне ночы Пётра Вашкевіч прачнуўся, бо званіў тэлефон. Халодны веснавы дождж грукаў у падваконне. Пётра дацягнуўся рукой да століка і зняў слухаўку.

Далёкі, глухі і незнаёмы голас перасцярог:

— Не кладзі трубку.

І Пётра, яшчэ спрасонку, спытаў:

— Ты хто?

— Я, ну, скажам, твой анёл-ахоўнік, — сказаў голас у слухаўцы.

— Розыгрыш, — стомлена буркнуў Пётра. — Я хачу спаць. Мог бы гнаць туфту пакуль людзі ў ложак не кладуцца?

— Прабач, раней не выпадала, — сказаў анёл-ахоўнік. — Ды ў мяне і зараз мала часу.

— Добра, — раптам згадзіўся Пётра, быццам прымаючы гульню незнаёмца, — чаму ты не з'явіўся ўвачавідкі?

— Нельга, — растлумачыў анёл-ахоўнік. — А хіба так не зручней? Да таго ж тэлефон — рэч дастаткова ірэальная, ці не так? Тэлевізар, камп'ютэр, мікралептонны кластэр, прыкладам. Тут недалёка і да мяне.

— Не даю веры, — сказаў Пётра. — Але калі табе не шкада грошай на міжгароднія размовы... Дарэчы, у цябе крылы?

— Магу прыняць любое аблічча. І крылы, калі спатрэбяцца, я ж проста існасць.

— Лухта, — пазяхнуў Пётра. — Ад чаго ты мяне ахоўваеш? Нападу ж аніякага няма. Мясцовыя мафіёзі, як і ўсюды. Кусаюць, піхаюцца, як парсюкі ля карыта. Дык я таго карыта не прагну. Хіба цагліна на голаў зваліцца?

— Не скажы, — засмяяўся голас у слухаўцы. — Лепш успомні, як дванаццаць гадоў таму ў караўуле... памятаеш?

Пётра падумаў і нагадаў, як яны ахоўвалі склады з палівам у летнім лагеры пад Бабруйскам і неспадзявана звар'яцеў Саід — шэраговы з іх роты, увесь час ціхі, брудны з выгляду небарака-абборыш, ахвяра нейкага раённага ўсходняга ваенкамата. Саід па-сабачаму завыў, кінуўся да зброі і выпусціў па людзях амаль паўмагазіна. Ён забіў аднаго і параніў дваіх. Кулі мінулі тады яго, Пётру.

— Пра гэта я многім расказваў, — адзначыў Пётра.

— Згода, — настойваў голас у слухаўцы. — Тады адкінь гадоў сем, уяві сабе рыбацкую хатку ля возера. Ты чамусьці прачынаешся, нават да дзвярэй дапаўзаеш, а потым адчыняеш вокны, юшку. Праз чадны газ шмат хто да Абрама на піва патрапіў.

Пётра падумаў і вырашыў, што пра гэты выпадак, бадай, нікому не гаварыў.

— Карацей, — сказаў ён. — Што ты хочаш?

— Развітацца. Я адыходжу.

— Я павінен разлічыцца за клопат? — спытаў Пётра. — Пачаставаць шклянкай крыві ці кавалачкам душы?

— Блюзнерыш, — адзначыў анёл-ахоўнік. — Калі б ты мог прадбачыць будучыню...

Пётра скінуў ногі з ложка і перасеў у крэсла.

— Са мной здарыцца непрыемнае? — пацікавіўся ён. — Гавары, крылаты, не цягні.

— Даведаешся ў свой час.

— Не мяці мяцеліцу. Досыць. Хто ты?

— Цягнік адыходзіць раніцай. А ў сталіцы цябе сустрэне жанчына і ўсё раскажа. Інакш табе гамон, братка. Як, згода?

— Ага, ужо больш горача. З гэтага б і пачынаў, — сказаў Пётра. — Але мне няма да каго ехаць. Ні з кім там у апошні час не прыкурваю.

— Інертнасць, — сказаў голас у слухаўцы. — Беларусы скрозь такія. Індзейцы Еўропы. Дзікуны.

— Голас быццам знаёмы, — вагаўся, Пётра.

— Спяшайся. Жанчыны раз чакаюць. Гэта вельмі важна для цябе, дзівак.

— Бадай, здагадваюся, — сказаў Пётра. — Бач ты, я ёй зараз патрэбны. Жаночыя выбрыкі. Але ж мы даўно чужыя. Я не паеду.

— Ну, не зусім такое.

— Дык што, будзем гуляць у хованкі? — спытаў Пётра ўжо злуючыся.

— Памнажаючы пазнанне — памнажаеш журбу. Ты б лепш збіраўся, дурань.

— Слухай, мікралептонны кластэр, існасць ці як цябе, а ты б на маім месцы паехаў? — пацішэў крыху Пётра.

— Прыгажосць усё-такі вялікая сіла, — уздыхнуў анёл-ахоўнік. — Я б рызыкнуў.

— Бывай, крылаты, — незадаволена ўздыхнуў Пётра. — І не перашкодзіла б не званіць ноччу.

— Яшчэ адно, — сказаў голас. — Не пакідай адчыненымі дзверы. Ноччу, прыкладам.

Пётра выцягнуў з пачака цыгарэту і запаліў.

— І каму я гэтак спатрэбіўся? Хто да мяне завітае? — пацікавіўся ён.

— Карнікі выбару, скажам так.

— Ну, лепш бы якая дзеўка, месца хопіць.

— Я стаміўся тлумачыць. Бывай і ты, — ахалодзіў яго анёл-ахоўнік.

І на тым канцы паклалі слухаўку.

За акном па-ранейшаму сек дробны дождж. Вулічны ліхтар шастаў па сценах мёртвым прывідным святлом.

Пётра адчыніў фортку і пачуў, як шуміць вецер ды ціха скуголіць у двары сабака.

— Круцель, — падумаў ён уголас. — Ну, сказаў бы прама, якая патрэба, дык не, наганяе жаху. Але ж, як не бачыш страху, то і не страшна.

Ён выкінуў недакурак і зноў лёг. «Я засынаю», — падумаў ён і сапраўды хутка і моцна заснуў.

●

Гарадок, дзе апынуўся Пётра, быў маленькі, увесь у зеляніне дрэў, у кветках. Крамкі, кінатэатр, будынак выканкома з нeад'емным Ільічом насупраць, царква ды яшчэ школа. Упоперак гарадок дзяліў на дзве амаль роўныя часткі асфальтавы бальшак.

За апошнія тры гады Пётра Вашкевіч змяніў некалькі такіх гарадоў ці пасёлкаў і быццам трывала астадоліўся ў правінцыі, шукаючы беларускасць. Ён збіраў паданні, легенды, песні, а каб зарабіць на жыццё, працаваў у школках, клубах ці наймаўся мастаком-афарміцелем — ён і маляваць мог збольшага тое-сёе.

Яго не заўсёды прымалі за свайго, хаця хутка абвыкаліся з дзіваком, а вось дзеці любілі. Пётра часова пасяліўся тут у сваячкі, якая выйшла замуж і перайшла ў кватэру да мужа.

У гарадку тым часам большаў занялі. Мясцовыя размаўлялі на «трасянцы». Паблізу пачыналася будаўніцтва металургічнага камбіната, і панаехала людзей здалёк, пераважна расейцаў. Яны часта выпівалі, а вечарамі хадзілі па вуліцах і надрыўна спявалі «Катюшу».

Ён мог бы ўпікнуць мясцовых за мітуслівасць ды залішнюю рахманасць, за абыякавасць да свайго, за дробязнасць ды зайздрослівасць, за тое, што свету не бачылі за работай — яшчэ шмат за што. А калі ў адным панадворку ўбачыў першую галубятню /а Пётра лічыў гэты занятак азіяцкім марнаваннем часу/, то вырашыў, як скончыцца навучальны год, з'ехаць і адсюль. Ён бы з'ехаў і раней, але з Поўначы пачалося раптам нашэсце нейкіх якутаў, мардвінаў, нават пасяліўся па суседстве хакас з хакаскай і хакасянятамі. Перасяленцы адпаведна закону атрымалі тут льготныя кааператыўныя кватэры і штодня бегалі ў райана, каб перавесці навучанне ў школе на расейскую мову. Пётра змагаўся з гэтым, як мог. А так гарадок быў зусім звычайны.

Раніцай ён звыкла сабраўся, падкачаў колы ровара і выехаў на бальшак: так дабіраўся да школы. Але не праехаў і кіламетр, як мусіў спыніцца, бо пачуў за спінай дзіўныя гукі, якія ўсё мацнелі, пакуль урэшце не ператварыліся ў выццё. Вылі аўтамабільныя сірэны. Потым, скаланаючы паветра, побач праімчала пажарная машына, за ёй другая, трэцяя, чацвёртая — ён са здзіўленнем налічыў не менш за дваццаць. За вузкімі зашклёнымі байніцамі кабін ён убачыў нерухомыя твары пажарнікаў у процівагазах.

Праз суткі ноччу ў кватэру пазванілі. Пётра зірнуў ў «вочка» — чамусьці ўспомнілася перасцярога таго дзівака не адчыняць дзверы, але ў парозе стаяў сусед, яшчэ двое ў вайсковай форме, і Пётра адчыніў. Лейтэнант з ваенкамата, нават не пераступіўшы парог, даў яму распісацца і ўручыў позву на зборы.

Праз некалькі дзён, ужо ў палявой армейскай форме, ён дапамагаў эвакуіраваць насельніцтва. Аўтобусы падганялі проста да пад'ездаў: старых выводзілі з дамоў пад рукі, дзяцей выносілі. Ніхто толкам нічога не ведаў і ніхто не супраціўляўся, вось што было дзіўна.

Людзей перасялялі яшчэ колькі дзён, але гэтага Пётра ўжо не бачыў, бо працаваў у самай апраметнай — яны пракладвалі тунель пад рэактарам, каб потым запампоўваць туды цэмент. Верталётамі сюды тэрмінова перакінулі «краты» і грэйдэры, якія закупілі ў італьянцаў, а таксама японскія робаты-маніпулятары. Даводзілася засвойваць тэхніку сходу, бо ні за якія грошы ніводны італьянец ці японец не палез бы ў гэты тунель нават простым інструктарам. Але яны абыходзіліся самі.

●

Летам стаяла невыносная спёка. Наўкол гарэлі лясы, ад тарфянікаў на горад несла дымны вэлюм. Але штодня сонца, як нанятае, у мроіве вісела на небе, якое, здаецца, назаўсёды пазбавілася ад аблокаў.

Менавіта ў гэты час у сталічнай клініцы амаль што выпадкова Міхась Скакун і сутыкнуўся з Пётрам Вашкевічам.

Пётру везлі па калідоры ў калясцы. Ён быў зусім лысы, нават без броваў і павекаў. Міхась спачатку не пазнаў яго, але ўбачыў прывітальна ўзнятую руку. Адна нага ў Пётры была загіпсаваная, твар, і так рэзкі, птушыны, стаў яшчэ больш стончаны і худы і набыў ненатуральна бледны колер. Але вочы былі ранейшыя: пытлівыя, разумныя і без прытоенага страху смерці. Міхась нават падумаў, што цягавіты Пётра выцягне і зараз, але ў той жа дзень даведаўся пра тое, пра што здагадаўся і сам: жыць таму заставаліся лічаныя дні. Завезлі Пётру сюды з пераломам нагі — крохкія косці ўжо не зрасталіся. А калісьці яны гулялі ў футбол у адной камандзе — за інстытут. Пётра быў выдатны паўабаронца: тэхнічны, вынослівы, кемлівы. Яму прапанавалі гуляць у вышэйшай лізе, нават запрасілі на трэніроўкі, але потым быццам перадумалі, нешта ў іх там не спрацавала. Пётра смяяўся, што знайшлі сякеру пад лаўкай, але надта не гараваў — ён быў захоплены ўжо іншым, больш вартым, як ён лічыў, чым спорт.

Яму, Міхасю, таксама не шанцавала апошнім часам. Хаця, думаў ён, яго становішча непараўнальна лепшае, чым, прыкладам, у небаракі Пётры. У Міхася доўга і пакутліва хварэла малая дачка, і, каб знайсці грошай на лекі, ён мусіў часова заняцца перавозкай грузаў па найме: фірма быццам добра плаціла. Днямі на дарозе яны вымушаны былі адбівацца ад каўказцаў. У яго цяпер няўдалы пералом ключыцы ды закранутае куляй плячо. Але праз месяц ён выйдзе адсюль здаровы, толькі прыйдзецца зарабляць «бабкі» з самага пачатку. А гэта ўжо яго праблема, бо ён позна ўцяміў, што чалавека-чаўнака, якім ён аказаўся, калі-небудзь падставяць.

Уражаны сустрэчай са сваім былым калегам па інстытуце, а ён закончыў юрыдычны прыкладна ў адзін год з Пётрам, які вучыўся на філфаку, Міхась Скакун доўга ляжаў у сваёй палаце на вузкім і цесным салдацкім ложку. Да вечара ён заўсёды не ведаў чым заняцца. Ён было задрамаў, але нудзіла плячо і назалялі мухі. Тады ён пайшоў і адшукаў пакой, дзе паклалі Пётру.

У пакоі было яшчэ каля дзесяці хворых. Яны займаліся кожны сваім: хто чытаў, хто слухаў транзістар, размаўляў, а то проста спаў. Было вельмі горача, у паветры стаяў пах дыму, лекаў, ёду і старых бінтоў.

Пётра напаўляжаў на падушцы каля расчыненага акна і глядзеў кудысьці ў адну яму бачную кропку. Ён заўважыў наведвальніка і кіўнуў на крэсла побач. З кустоў аднастайна цвэнькала берасцянка.

— Абязручыўся я, — сказаў Пётра. — Хутка памру. Але я гатовы, стары.

Міхась адкрыў рот, каб сказаць нешта суцяшальнае, але прамаўчаў.

— Анёл-ахоўнік пакінуў мяне. Мне і знак быў шэсць гадоў таму.

— Які знак? — наструніўся Міхась. — Кажаш, анёл?

— Мы размаўлялі і ён папярэдзіў мяне. Праз тэлефон.

Міхась зірнуў на яйкападобную, белую, як крэйда, Пётраву галаву і злавіў яго позірк: той глядзеў бясхітра і шчыра, і Міхасю стала няёмка, бо гэта ён шэсць гадоў таму разыграў Пётру з анёлам.

У той час па выпадковай пратэкцыі Міхась Скакун уладкаваўся працаваць на тэлефон даверу службы міласэрнасці. Грошы яму плацілі зусім невялікія, справа была нязвыклая — тады такія тэлефоны ўвайшлі ў моду ва ўсіх буйных гарадах. Зменшчыкам падрабляў на паўстаўкі ўрач, і яны дзяжурылі па чарзе. У маленькай каморцы, якую выдзелілі таварыству, ён вёў размовы з адзінокімі жанчынамі, будучымі самагубцамі, інвалідамі, псіхічна хворымі, звычайнымі хуліганамі і рознымі няўдачнікамі.

У адно з такіх дзяжурстваў да яго зайшоў несамавіты чарнявы малады чалавек у акуратным шэрым плашчы, шэрым касцюме і з папкай у руках. Ён спачатку прыкінуўся прасцяком, потым даў зразумець, што ён птушка больш высокага палёту, паслухаў колькі хвілін, і выклаў карты. Хутка высветлілася, што адпаведныя органы зацікавіліся тэлефонам даверу, гэта ж была гарачая кропка, анягож. І Міхась зразумеў, што тут яму больш не працаваць — не дадуць, бо гэтаму жукаватаму карцэла зрабіць яго «пазаштатным супрацоўнікам», а ён ведаў: абстукачаны — што апушчаны ў зоне. Адзін

ТЭАТР

# І СВЕТЛАЯ РАДАСЦЬ СВЯТА

Сапраўднае нацыянальнае адраджэнне не мысліцца без аднаўлення гістарычнай памяці народа, яго традыцый, яго святаў. Што ж лічылі нашы продкі нагодай для сумеснай радасці? Ачышчэнне Агнём і Вадой — дзень Купалля, прыход вясны, уваскрэшанне Госпада Ісуса Хрыста — Вялікдзень, і адно з самых любімых святаў — Нараджэнне Хрыстова, калі яшчэ можна не думаць пра трагедыю распяцця, можна проста радавацца Яго прыходу. Яно адзначаецца паблізу даты зімовага сонцастаяння, калі, паводле паданняў, расчыняецца неба, людзям даюцца знакі звыш /з гэтым звязаны звычай гадання на святкі/, лічылася, што малітва, прамоўленая ў гэты час, абавязкова будзе пачута...

Напярэдадні Вялікадня ў беларускіх сёлах і гарадах ажывалі лялечныя дамкі — батлейкі, і ў іх прадстаўленнях перад гледачамі ўваскрасалі карціны біблейскіх часоў — Нараджэнне Багародзіцы, прыход вешчуноў у Іерусалім, уцёкі ў Егіпет, збіванне немаўлят. Вялікія, радасныя, трагічныя дні, пераказаныя няхітрай мовай народнага тэатра.

... Чуткі пра тое, што Дзяржаўны тэатр лялек Беларусі рыхтуе спектакль у стылі батлейкі, у тэатральным свеце хадзілі даўно. Імёны аўтара п'есы, вядомага спецыяліста па гісторыі тэатра прафесара Гурыя Барышава, рэжысёра Аляксея Ляляўскага, сцэнографа Аліны Фаміной абяцалі спектаклю высокі прафесіяналізм і глыбокае веданне традыцыі.

Увогуле спадзяванні гледачоў спраўдзіліся. Рэжысёр і драматург здолелі спалучыць у спектаклі «Цар Ірад» рэлігійную містэрыю і народную камедыю, гістарызм і надзённасць. Асноўным звяном пастаноўкі з'яўляецца вобраз мужыка Мацея, цудоўна сыграны акцёрам Уладзімірам Грамовічам. Ад асобы ягонага персанажа вядзецца аповяд, увесь спектакль вырашаны як ягонае, Мацеева, трызненне ў калядную ноч. Ён удзельнічае ў пакланенні пастухоў, як жыхар Іерусаліма назірае ўрачысты прыход вешчуноў, бачыць працэсію анёлаў, якія абвяшчаюць аб Нараджэнні Месіі. Ад арганічнасці яго пераходаў ад евангельскіх сцэн да камічных інтэрмедый у многім залежыць арганічнасць усяго спектакля, і трэба адзначыць, што акцёр добра спраўдзіў гэтую задачу. Адной з удач спектакля сталася таксама работа акцёра Уладзіміра Варанкова. Нячысцік у ягоным выкананні па-свойму вытанчаны, не пазбаўлены, так бы мовіць, д'ябальскай абаяльнасці, ён сноб і эстэт, аддае перавагу любоўным штукарствам перад пякельнымі зладзействамі. Ён філосаф і пракуда, і дуэтныя сцэны Чорта з прастадушным Мацеем выклікаюць нязменную весялосць у зале.

Евангельскія гісторыі вырашаны рэжысёрам А.Ляляўскім і сцэнографам А.Фаміной зусім іншым чынам. У іх стаўка зроблена не на акцёрскае выкананне, а на пластычную выразнасць лялек і дэкарацый. Сцэнаграфічнае вырашэнне спектакля складанае, калі можна так ска-



*Сцэна са спектакля «Цар Ірад»*

# НЕ ЖЫЦЦЁ, А «МАКАЎЗА»!

***У гэты дзень работнікі рыбалоўна-паляўнічай базы, што схавалася глыбока ў густых лясах Лагойшчыны, былі вельмі здзіўлены, калі з аўтобуса, пад'ехаўшага да аднаго з карпусоў базы, сталі выходзіць не звыклыя постаці з вудамі ды стрэльбамі, а невядомыя людзі з нейкімі дошкамі-планшэтамі, рулонамі паперы ды важкімі кардоннымі скрынямі невядомага змесціва...***

На базе працуюць выключна жыхары навакольных вёсачак, што абступілі паляўнічую гаспадарку з некалькі дзіўнай для вуха гараджаніна назвай «Макаўза» /па назве рэчкі і штучнага вадасховішча/, жылі тут бадай усё жыццё і, акрамя дачнікаў ці рыбаловаў ды паляўнічых, ніякіх прыезджых не бачылі. Таму зразумела іхняе здзіўленне. Між тым новапрыбыўшыя сталі размяшчацца ў нумарах паляўнічай гасцініцы. І тут пачалася прасочвацца першая інфармацыя пра чужынцаў. Гаварылі, што прыехаўшыя — **дызайнеры.** Але гэтае іншаземнае слова нічога не сказала мясцовым людзям. Сёй-той з іх, праўда, успомніў, што так, здаецца, называліся нейкія дагістарычныя жывёліны, але і ён у тым быў не ўпэўнены.

Прыезджыя ж працягвалі здзіўляць. Вечарам, размясціўшыся за доўгім сталом у «камінным зале» доміка, дзе яны пасяліліся, госці чамусьці не заставілі, як заўсёды бывала, стол бутэлькамі, а, расклаўшы паперы, пачалі захоплена аб нечым спрачацца. Гэтак яны прасядзелі /заўважце: без гарэлкі!/ да позняй ночы. Цуд ды і толькі!

І вось пайшоў дзень за днём. Дзіўныя прыезджыя самі гатавалі сабе ежу, хадзілі ў суседнюю вёску па малако, гулялі па лесе і па беразе вадасховішча, а між гэтым упарта нешта малявалі, пісалі, друкавалі на машынцы і ўсё спрачаліся ды спрачаліся, заседжваючыся далёка за поўнач. Так працягвалася амаль два тыдні. І вось у канцы другога тыдня з Мінска ў легкавіках панаехала нейкае начальства. Усе на базе зразумелі, што гэта да дзіўных жыхароў — відаць, нейкая праверка.

Трэба ж сказаць, было заўважана, што дзве ночы да прыбыцця начальства амаль ніхто з іх не лажыўся спаць. Забыўшыся на прагулкі, усе яны дні і ночы нешта старанна малявалі алоўкамі, фламастэрамі, тушшу, фарбай на вялікіх планшэтах.

І вось нарэшце ўсё было гатова. Зробленыя планшэты расстаўлены ўздоўж сцен у «камінным зале». І тут, пакуль сустракалі начальнікаў, мясцовыя жыхары ўсё ж сумелі падгледзець, што ж гэта намалявалі іх дзіўныя госці. Аказалася, што дызайнеры — гэта зусім не дагістарычныя жывёліны, а людзі, якія выдумляюць прыгожыя і зручныя рэчы. А намалявалі яны праекты новых фатаграфічных апаратаў. І якіх тут іх не было! І з двума аб'ектывамі, і з адным аб'ектывам на два корпусы, у якія можна адначасова закласці і каляровую і чорнабелую стужку, і зусім малы кішэнны апарат, і шмат яшчэ што іншае.

Ну а цяпер трэба нарэшце задаволіць цікавасць нашых чытачоў, якім, напэўна, ужо надакучылі мае загадкі, і ўдакладніць, што было гэта больш за пяць гадоў таму, у 1987 годзе і называлася Першым навукова-практычным семінарам дызайнераў оптыка-механічнай галіны, які адбыўся на паляўнічай базе адпачынку «Макаўза», што ў Лагойскім раёне. На гэты семінар з'ехаліся мастакі-канструктары — распрацоўшчыкі фотаапаратуры з розных гарадоў тагачаснага СССР: Масквы, Ленінграда, Красногорска, Пермі, Кіева ну і, зразумела, Мінска. Забягаючы ўперад, скажам, што гэткія семінары ў Макаўзе потым сталі праводзіцца штогод. Семінар жа, стаўшы традыцыйным, па месцы яго правядзення набыў таксама назву «Макаўза»...

Мы пакінулі ўдзельнікаў першага семінара ў самы адказны для іх момант — калі з'явілася начальства. Так, мінскае кіраўніцтва оптыка-механічнай галіны прыехала, каб праверыць, чым займаліся тут на працягу двух тыдняў дызайнеры. І вось вынікі работы, распрацоўкі мастацка-канструктарскай канцэпцыі новага фотаапарата ў наяўнасці: некалькі дзесяткаў планшэтаў з цікавымі прапановамі па фармаўтварэнні фатаграфічных камер. Разглядаючы праекты, слухаючы паясненні аўтараў, начальства, якое спачатку паводзіла сябе насцярожана /чаго грахі ўтойваць, баяліся спачатку начальнікі, што творчыя работнікі нічога тут не зробяць, а толькі прап'янствуюць два тыдні/, крыху адтала, задаволена заўсміхалася. Такім чынам, дызайнеры перамаглі, паказалі свае магчымасці, даказалі прадукцыйнасць такой формы работы. У далейшым матэрыялы, напрацаваныя ў час семінара, былі выкарыстаны ў навукова-даследчай працы «Комплекснае даследаванне сучасных тэндэнцый фармаўтварэння нялюстраных фотаапаратаў», якая праводзілася ЦКБ «Пеленг» Беларускага оптыка-механічнага аб'яднання, і ў канкрэтнай практычнай рабоце над мастацка-канструктарскімі распрацоўкамі фотакамер «Мінск», «Элікон» і «Візіт».

Ідэя правядзення гэткіх творчых сустрэч спадабалася і, як я ўжо казаў, семінар «Макаўза» з таго часу праводзіўся штогод. Шмат цікавых пытанняў, звязаных з мастацкім канструяваннем фотаапаратуры, удалося закрануць за гэты час удзельнікам семінараў, у праграму якіх уваходзілі і навуковыя даклады, і практычныя дызайнерскія распрацоўкі. Вар'іраваліся тэмы семінараў, але нязменнымі заставаліся захопленасць і творчы запал дызайнераў, якія з'язджаліся на маленькі хутарок пад Мінскам з розных куткоў колішняга СССР.

Неўзабаве ж навукова-практычны семінар дызайнераў оптыка-механічнай галіны стаў праводзіцца два разы ў год: вясною ў Беларусі і восенню — пад Ленінградам, у пансіянаце ЛОМА з паэтычнай назвай «Дубкі». І што цікава, семінар, які праводзіўся на пецярбургскай зямлі, захаваў нашу беларускую назву «Макаўза».

Падзеі, якія адбыліся на абшарах Савецкага Саюза ў апошнія паўтара года, распад самога Саюза не маглі не адбіцца і на творчым жыцці дызайнераў некалі адзінай саюзнай галіны оптыка-механікі. У 1992 годзе творчы семінар пад Пецярбургам ужо не адбыўся. Але дызайнеры Беларусі аказаліся больш стойкія. У нас, нягледзячы на не вельмі спрыяльныя для дызайну варункі, семінар быў праведзены. Праўда, зараз ён праходзіў не ў Макаўзе, а крыху далей ад Мінска — у Плешчаніцах. /Аднак сваю традыцыйную назву ён захаваў/. На жаль, з-за межаў Беларусі цяпер прыехаў толькі адзін чалавек. Але, трэба спадзявацца, што гэта выпадковая з'ява, а не знак пачатку разрыву сувязей у асяроддзі дызайнераў СНД, што характэрна для іншых галін жыцця былога Саюза. Асноўнай жа асаблівасцю «Макаўзы-92» было тое, што калі раней у рабоце семінара прымалі ўдзел толькі спецыялісты-прафесіяналы, то зараз была прыцягнута цэлая група студэнтаў перадддыпломнага курса аддзялення дызайну Беларускай акадэміі мастацтваў. Менавіта творчая моладзь, будучая гвардыя беларускага дызайну, і стала ўдарнай сілай цяперашняга семінара.

Яго ўдзельнікам было прапанавана распрацаваць дызайн-канцэпцыю электроннага фотаапарата і вадкакрышталічнага праектара. І тое і другое — навінкі фота- і праектарнай тэхнікі. У электроннай фотакамеры фіксацыя адбітка робіцца не на фотастужцы, а на магнітным дыску. Тут, у параўнанні са звычайнай фатаграфіяй, значна скарочваецца час, які патрабуецца ад здымкі да атрымання адбітка. Скарачэнне часу дасягаецца дзякуючы адсутнасці хімічнага працэсу праяўлення і друку здымкаў, на які затрачваецца шмат часу. Пры гэтым адбітак можна перадаваць па тэлефоне. Добрыя перспектывы развіцця і ў праектараў, заснаваных на новым тэхнічным прын-

зацъ, шматслоўнае. У пастаноўцы выкарыстоўваецца не адна, а цэлыя тры батлеечныя канструкцыі. Тры ярусы традыцыйнай батлейкі, якія выяўляюць ідэю трохмернасці Сусвету — свету горняга, свету чалавечага і апраметнай, — у спектаклі суверэнізаваліся і існуюць самастойна. У святой сям'і — свая батлейка, у Чорта — свая, а таксама — у вешчуноў, у Смерці і г.д. Кожнай сям'і — асобную кватэру...

І гэты, на першы погляд абсалютна нязначны, водступ ад традыцыйнай формы народнага тэатра прывёў да дробнасці, парушэння цэласнасці сцэнічнай прасторы. Велізарная пастава цара Ірада, зробленая ў выглядзе трыбуны, абцягнутай кумачом, рознавялікія батлейкі, зусім малюсенькія лялечкі пастухоў з цяжкасцю звязваюцца ў адзіную вобразную сістэму — занадта вялікая розніца ў маштабах, і адсутнічае кампазіцыйны і сэнсавы цэнтр — сам Бог-немаўля. Яго прысутнасць на руках Марыі маецца на ўвазе, але з залы ён не бачны, бо лялька Багамацеры вельмі маленькая. Глядач вымушаны ўвесь час глядзець на вялізную безгаловую ляльку Ірада, на Чорта, Рыцара, Турка, Ірадава войска, — гэтым героям адведзена шмат сцэнічнага часу, сіл і «будматэрыялаў». Час ад часу хацелася б зірнуць і на Ісуса, два-тры буйныя або сярэднія планы галоўнага героя былі б, на мой погляд, зусім да месца...

Нягледзячы на гэты пастановачны пралік, пластыка спектакля ў асобных сцэнах вельмі прыгожая, высокі клас мастака А.Фаміной прабіваецца скрозь сэнсавыя недакладнасці рэжысуры. Да іх можна аднесці прыход вешчуноў, уцёкі ў Егіпет, эпізод збівання немаўлят у Віфлееме — іх душы як чарада светлых птушак узлятаюць уверх на задніку з серабрыстай /так і хочацца напісаць — астральнай/ матэрыі.

Галоўная ж каштоўнасць спектакля, на мой погляд, у тым, што яго аўтары вяртаюць у наш трывожны змрочны сённяшні дзень забытыя святы нашых продкаў. Разам з тэатральнымі містэрыямі да нас прыходзіць і светлая радасць Нараджэння Хрыстова.

**Галіна АЛІСЕЙЧЫК**

цыпе з выкарыстаннем вадкакрышталічнай асновы.

Якой жа павінна быць форма новых па сваёй канструкцыі прыбораў — фотаапаратаў і праектараў? У выяўленні гэтага і склаўся сэнс цяперашняга семінара. Трэба сказаць, што яго ўдзельнікі змаглі добра мабілізаваць свае сілы, каб у даттакова кароткі тэрмін, адведзены на правядзенне семінара /крыху больш за тыдзень/, стварыць арыгінальныя мастацка-канструктарскія рашэнні. Быў, напрыклад, прапанаваны фотаапарат, які нагадвае бінокль і прызначаны для карэспандэнтаў, што працуюць у экстрэмальных умовах: у раёнах баявых дзеянняў, катастроф і г.д.; быў кішэнны апарат з мяккай, элегантнай пластыкай; была камера з фотаўспышкай, якая перасоўваецца вакол аб'ектыва і дае магчымасць праводзіць асвятленне з таго боку, з якога выгадна фатографу; было і рашэнне, якое прадугледжвае магчымасць здымкі адной рукой. Цікавыя былі і рашэнні вадкакрышталічнага праектара. Але ўсім тут не скажаш. Кожны з прапанаваных удзельнікамі семінара дызайн-праектаў быў па-свойму незвычайны, меў якую-небудзь іскрынку. Распрацаваныя вырабы зручныя ў карыстанні і прыгожыя на выгляд. Праца дызайнераў была станоўча ацэнена Беларускім оптыка-механічным аб'яднаннем — будучым вытворцам новых прыбораў. Задаволены работай сваіх выхаванцаў засталіся і выкладчыкі Беларускай акадэміі мастацтваў. Яе кіраўніцтва палічыла магчымым студэнтам-удзельнікам семінара залічыць іх працу як пераддыпломную практыку.

Прайшоў пяты, можна сказаць, юбілейны навукова-практычны семінар «Макаўза». Тое, што ён ацалеў, выжыў у наш цяжкі час — знак, які падбадзёрвае і ўсяляе надзею. Хай жа яшчэ не раз збяруцца на гасціннай беларускай зямлі дызайнеры з цяпер ужо незалежных, але — хочацца ўсё ж жыць амаль забытае слова — братэрскіх дзяржаў. І хай яны не раз змогуць паўтарыць выраз аднаго з удзельнікаў першага семінара, што ў час гэтых сустрэч у дызайнераў не жыццё , а «Макаўза»!

**Якаў ЛЕНСУ,**
**дызайнер**

**АДРАДЖЭННЕ**

# ВЯРТАЕМСЯ ДА СЯБЕ...

***Пасля заканчэння В.Дадзіёмавай кнігі пра музычную культуру гарадоў Беларусі XVIII ст. прайшло не так шмат часу. Але ўвесь гэты час быў для даследчыцы насычаны працай і прынёс многа новага ў плане як назапашвання, так і асэнсавання факталагічнага матэрыялу...***

Зусім нядаўна трапіла на крыніцы цікавых матэрыялаў пра кампазітараў, што працавалі на Беларусі ў XVI — XVII стст. Аказалася, што, акрамя Вацлава з Шаматул, Цыпрыяна Базыліка, Войцэха Длугарая і Андрэя Рагачэўскага, тут жыў і ствараў музыку яшчэ адзін вядомы ў свеце кампазітар — Кшыштаф Клабан. Ягонае імя ўдалося знайсці ў інвентарных дакументах, складзеных у Горадні ў 1586 г. пасля смерці караля Стэфана Батурыя. Больш падрабязныя звесткі пра кампазітара я прапанавала ў часопіс «Мастацтва», а творы ўсіх названых аўтараў планую выдаць, дакладней, перавыдаць /бо яны калісьці былі надрукаваныя ў Польшчы, але ў нас не атрымалі распаўсюджання/ у спецыяльным зборніку.

Самая ж цікавая знаходка мінулага года — рукапіс песень Міхала Казіміра Агінскага з 1770 г., які пашчасціла адшукаць і ў выглядзе ксеракопій прывезці з Польшчы. Пра гэты надзвычай каштоўны помнік, што паходзіць са слонімскага перыяду жыцця кампазітара, не захаваліся дакладныя звесткі ў ніводным айчынным і замежным бібліяграфічным даведніку. Праўда, фотакопіі асобных песень аказаліся ў прыватным архіве вядомай польскай даследчыцы Аліны Новак-Рамановіч, якая згадзілася перадаць іх мне для публікацыі ў кнізе, заўважыўшы пры гэтым, што ўвесь рукапіс хутчэй за ўсё беззваротна згінуў. Знайсці яго ўдалося амаль цудам — пасля франтальных пошукаў у нотных сховішчах і службовым каталозе Варшаўскай Бібліятэкі Нарадовай, дзе ён захоўваецца пад N 1075 /як аказалася, картка з шыфрам рукапісу даўно знікла з агульнага каталога/.

Гэта невялікі сшытак у кардоннай вокладцы; на першай, пажоўклай старонцы — надпіс па-польску: «Песні, складзеныя яснавяльможным яго міласцю панам графам Міхалам Агінскім, вялікім гетманам Вялікага княства Літоўскага, у 1770 годзе, месяцы снежні ў Слоніме». Далей на 49 старонках змешчаны вершы і 13 аднагалосных песень. У цэлым рукапісны зборнік мае несумненнае падабенства з ужо вядомым друкаваным /песні з акампанементам дзвюх скрыпак і віяланчэлі, 1788 г./. Адзінства твораў выяўляецца і ў іх літаратурнай тэматыцы, агульных персанажах і вобразах, у музычнай стылістыцы, мове і нават літаральных «самацытатах» /у песні «Пастушка»/.

Аднак нават пры першасным аналізе рукапісу відавочна, што ён мае і асаблівасці. Па-першае, рукапісныя песні няможна назваць вакальным цыклам, у адрозненне ад друкаваных, якія прысвечаны адной гераіні, маюць сваю логіку развіцця й інтанацыйныя сувязі. Хутчэй за ўсё сольныя песні ствараліся як асобныя замалёўкі, сярод якіх шмат лірычных выказванняў, «акварэльных» партрэтаў чароўных дзяўчат /«Анетка», «Кася» — апошняя, дарэчы, зробіцца потым галоўнай гераіняй вакальнага цыкла 1788 г./, ёсць некалькі маналогаў без прэтэнзій на глыбіню сентэнцый, а таксама застольныя песні. Але асноўная розніца паміж творамі — у спецыфіцы ўзаемадачынення ў іх тэксту і музыкі. Рукапіс адметны перавагай слоўнага матэрыялу над музычным: вершаваныя тэксты значна больш разгорнутыя, складаныя і дасканалыя, чым мелодыі, вельмі простыя і лаканічныя. Хутчэй за ўсё музыка была дапісана да ўжо гатовых тэкстаў, бо некаторыя вершы /«Аб праўдзе», «Аб вольнасці», «Аб шчасці жыцця»/ увогуле засталіся без музыкі, быццам аўтар не паспеў ці не пажадаў яе ствараць. У друкаваных жа песнях відавочная перавага музычнага матэрыялу над слоўным, падпарадкаванасць апошняга музыцы. На думку перакладчыка і даследчыка гэтых тэкстаў У.Мархеля, яны хутчэй за ўсё былі напісаны да ўжо гатовай музыкі.

Новыя матэрыялы, вядома, з'яўляюцца толькі тады, калі існуе пэўная канцэпцыя, якая дазваляе вызначыць аб'ект, кірунак і нават месца пошукаў. У сваю чаргу новыя факты могуць спараджаць усё новыя і ў пэўным сэнсе пашыраць усталяваныя погляды на наша музычнае мінулае. Вось чаму дазволю сабе вярнуцца да некаторых меркаванняў, якімі ўжо дзялілася ў вуснай форме.

Многія складанасці, што паўстаюць на шляху вывучэння і адраджэння айчыннай музычнай спадчыны, абумоўлены не толькі маладосцю беларускай музычна-гістарычнай навукі /у параўнанні, напрыклад, з літаратуразнаўствам/, не толькі спецыфікай яе прадмета /скажам, тэксту/, але і складанасцю кантэксту яе развіцця, асаблівасцямі ўсяго культурна-гістарычнага лёсу краю.

Добра вядома, што беларускія землі, якія ляжаць на скрыжаванні «захад-усход», здаўна былі і аб'ектам дамаганняў, і складнікам розных дзяржаў: беларуска-літоўскага гаспадарства /ВКЛ/, Рэчы Паспалітай, Расійскай імперыі. І не на ўсіх этапах станаўлення мясцовай культуры складаліся спрыяльныя ўмовы для плённага развіцця яе нацыянальных, уласна беларускіх элементаў, рост якіх пэўны час затрымліваўся іншаземнымі ўплывамі. Асабліва гэта было характэрна для перыяду з канца XVI ст., калі наша культура, быццам жывы арганізм, пачала адчуваць на сабе моцнае «выпраменьванне» іншаземных /пераважна суседніх, няхай вельмі блізкіх, няхай цікавых і своеасаблівых, але ўсё ж такі іншых/ культур і ў нечым відазмяняцца пад яго ўздзеяннем.

Прашу прабачэння ў чытача за карыстанне неўласцівай для мастацтвазнаўства тэрміналогіяй, але яна, спадзяюся, зробіць больш зразумелай маю гіпотэзу, якую паспрабую зараз трохі развіць.

Дык вось, у выніку пастаяннага «выпраменьвання» /а яно не перапынялася некалькі стагоддзяў, толькі мяняла сваю афарбоўку/, верхнія, найбольш рухомыя прафесійна-аматарскія пласты мастацкай культуры, звязаныя з горадам, з арыстакратычным асяроддзем, пачалі адчуваць пэўныя мутацыйныя змены. Што зрабілася іх «сімптомам»? Паступовае і, верагодна, зусім неадназначнае па сваёй сутнасці, «замяшчэнне» асобных элементаў мясцовага мастацтва, што было дагэтуль, элементамі іншаземнага, прынесенага пазней /падкрэслю, гаворка ідзе толькі пра мастацтва пісьмовай традыцыі/. А таксама — пераарыентацыя некаторых цэнтраімклівых працэсаў, накіраваных на фарміраванне нацыянальнага «фермента» ў культуры, з першых памянёных элементаў на другія. У выніку прынесеныя з'явы пачалі засвойвацца і развівацца досыць хутка і арганічна: прынамсі, ужо ў XVIII ст. яны ўспрымаліся ў сваёй сацыяльнай прасторы — у колах інтэлектуальнай эліты — як уласныя, а не запазычаныя.

Між тым у культуры Беларусі адначасова ішоў і цэнтрабягучы працэс, які аблягчаў «уцягненне» многіх яе здабыткаў /асабліва тых, пра якія гаварылася вышэй і якія самі ў пэўным сэнсе былі прадуктам узаемадзеяння/, у моцнае «гравітацыйнае поле» суседніх культур-«метраполій». Апошнія не толькі засвойвалі і перапрацоўвалі лепшыя дасягненні мастацтва Беларусі /а яго ўплыў на іншыя культуры — тэма для спецыяльнага даследавання/, але і трывала замацоўвалі іх у сваёй культуры і за сваёй гістарычнай спадчынай. Так, творчасць кампазітараў, якія з Беларусі паходзілі ці доўгі час жылі тут /Восіпа Казлоўскага, Міхала Казіміра і Міхала Клеафаса Агінскіх, Мацея Радзівіла, Станіслава Манюшкі і інш./ у іншых гісторыка-культурных умовах магла б развівацца як беларуская класіка, а самі аўтары, магчыма, маглі б стаць заснавальнікамі нацыянальнай беларускай кампазітарскай школы. Ды ў рэальных абставінах XVIII—XIX стст. яна, іхняя творчасць, аказалася і, на жаль, да сёння застаецца ў свядомасці многіх аматараў музыкі сімвалам польскай ці рускай культуры.

Аднак па сутнасці спадчына і названых тут, і многіх іншых мясцовых, а таксама замежных музыкантаў нямецкага, чэшскага, італьянскага ды іншага паходжання, якія працавалі на Беларусі, мае непасрэднае дачыненне да айчыннага мастацтва, з'яўляецца яго фактам і складае не адну старонку яго гісторыі. Яна паступова вяртаецца і павінна быць цалкам вернута нашай культуры і ўвайсці ў яе памяць. Такі падыход, прыняты ўсім цывілізаваным светам, ужо даўно стаў традыцыйным: народы і краіны заўсёды імкнуліся й імкнуцца сабраць і адлюстраваць у гісторыі сваёй культуры ўсё плённае, што стваралася ў яе як храналагічных, так і геаграфічных межах, незалежна ад этнічнай ці канфесійнай прыналежнасці пэўных твораў ці іхніх аўтараў. У гісторыю гэтую звычайна ўключаюць не толькі мастацкія каштоўнасці з нацыянальна характэрнымі прыкметамі /як, дапусцім, хрэстаматыйна вядомыя, несумненна рускія па духу і літары творы не рускіх па паходжанні аўтараў — Гогаля і Дастаеўскага, Левітана і Фета/, але і без ярка выяўленай нацыянальнай адметнасці /з той жа рускай гісторыі — архітэктурныя помнікі Растрэлі і Росі, а калі з сучаснасці — дык музычныя опусы Шнітке/.

Такое назіраецца і ў мастацтве іншых рэгіёнаў Еўропы: італьянец Сальеры лічыцца прадстаўніком венскай школы, а чэх Стаміц — мангеймскай, нягледзячы нават і на тое, што іхняя музыка не ўвасабляе выключна нацыянальна-нямецкія ці аўстрыйскія матывы. Да пэўных школ іх адносяць таму, што разам з іншымі кампазітарамі /сваім жыццём і творчасцю таксама звязанымі з адпаведнымі гарадамі/ яны склалі пэўную сістэму мастацкіх вобразаў і прыёмаў, пэўны музычны стыль у шырокім разуменні слова. Больш за тое: музыкантаў, што працавалі ў рэчышчы названых школ, але не мелі да іх «геаграфічнага» дачынення, ніколі не называлі і не лічаць прадстаўнікамі гэтых школ. Прыведзеныя прыклады ўяўляюцца характэрнымі і вось чаму: яны тычацца мастацтва эпохі класіцызму, яшчэ шмат у чым пазбаўленага /у параўнанні з пазнейшым, рамантычным/ нацыянальнай адметнасці і цесна звязанага менавіта з рэгіянальным фактарам, з геаграфічнымі рэаліямі.

Таму мне здаецца неабходным пры зборы, аналізе і абагульненні матэрыялаў пра музычнае мінулае гарадоў Беларусі XVIII ст. пакуль арыентавацца на рэгіянальны падыход, шукаючы і зберагаючы ўсё лепшае, што мела дачыненне да нашай зямлі. Якую ж частку сабраных фактаў мы і далей будзем разглядаць як з'явы мастацтва Беларусі /г.зн. распаўсюджанага на тэрыторыі Беларусі/ і абагульняць максімальна шырокім тэрмінам рэгіянальнай культуры, а якую аднясём да беларускага нацыянальнага /магчыма, што і само гэтае паняцце набудзе з цягам часу больш шырокае тлумачэнне/? Гэтыя ды іншыя пытанні знікнуць толькі тады, калі назапасіцца дастатковы музычны матэрыял, калі з'явяцца пэўныя ў нечым новыя крытэрыі і метады яго аналізу /бо традыцыйныя тут не заўсёды «працуюць»/ і калі, нарэшце, на адпаведным узроўні, глыбока і аб'ектыўна гэты аналіз будзе зроблены. Так што галоўная праца яшчэ наперадзе.

**Вольга ДАДЗІЁМАВА**

Сяргей ГРАХОЎСКІ



## ПАВАЛ

Яшчэ непатрывожаныя намі,
Не верачы ў пагібель без пары,
Зачараваныя завеямі і снамі,
Яны маўчаць на студзеньскай зары.

Глядзяць у неба, быццам лётаць
просяць,
Нібы слязінкі, застые смала,
І толькі пошчак у глушы даносіць,
Як снег рыпіць і як звініць піла.

Яны стаяць магутныя на ўзвеі,
І кожная з іх — непаўторны цуд,
Пад імі мітусяцца, як пігмеі,
Нявольнікі, каб выканаць прысуд.

Яшчэ паўзмрок, і снег неабтаптаны,
А вогнішчы палаюць і гудуць...
Пахукаем на рукі і... тытаны,
Ламаючы падлесак, упадуць.

Я не спяшаюся, я пазіраю з жалем
На гонкі стан і пасівелы чуб
І раюся, куды і як павалім,
А пара замярзае каля губ.

Бяру настылую і вострую сякеру,
А мне сумленне шэпча: « Не валі!»...
Я поглядам да верхавіны змераў,
І паляцелі смольныя скрылі.

Жывіца заліла жывую рану,
Пакутую, хоць не мая віна...
Хіснулася і... знікла нечакана
У снежным дыме гонкая сасна.

За ёй другая, трэцяя, — дзесятак
Кладзецца, як гарматныя ствалы,
І капаюць на снег з ружовых пятак
Бурштынавыя кропелькі смалы.

О, Божа, Божа! Колькі я іх спляжыў!
Шкадуючы, у гібельнай глушы.
Адзіным каменем той грэх,
магчыма, ляжа
І застанецца на маёй душы.

Снягі расталі, адгулі завеі,
Адкочваўся за валам грозны вал.
А толькі ўспомню, — сэрца пасівее...
Ішоў на волі і ў тайзе павал.

## АПОШНЯЯ

Разбіты комін, парадзелы дах,
Вісіць адна кашуля на вяроўцы.
— А людзі дзе? —
— А людзі на кладах.
Туды сышлі усе аднавяскоўцы, —

Азвалася бабуля з-пад радна,
Маленькая, з сівою галавою.
— Лічы, што дажываю век адна,
І гора мыкаю адна адною.

Так і гібею з году ў год,
Глухою, невідушчаю, слабою.
Адзіная ўцеха толькі — кот.
То з ім сваруся, то сама з сабою.

Гады пытаеце? Усе мае гады
Прабеглі, дзеткі, у пякельнай працы.
А час надыдзе мой, і на клады
Сваім прыдзецца ходам дабірацца.

Каб даў Гасподзь дажыць да лета
І паспытаць з гароду навіны, —
А на бабулю весела з партрэта
Глядзелі два прыгожыя сыны.

## ТОСТ

Раней пілі за тых, што ў моры,
Каго дратуюць штормы і мароз.
Цяпер я п'ю за тых, што ў горы,
Хто выплакаўся да апошніх слёз.

«Але наўрад ці выпіць давядзецца. —
З мяне барыга рыначны смяецца, —
Каб свята чаркаю адзначыць,
Патрэбна тыдні тры ішачыць».

Збяру «ваўкоў» і вып'ю чарку
За вечную гаротніцу-ўдаву,
За рукі змардаванае даяркі,
За кошт якой жывём, і я жыву,

І за настаўніцу, што слепіць вочы
Над сшыткамі і глупствам справаздач,
Што ў класе усміхаецца, а ноччу
Ніхто яе не чуе горкі плач.

За вокнамі заходзіцца завея,
І дамавік грукоча па страсе,
А прыгажуня юная сівее
І, не расцвіўшы, вяне пакрысе.

Я п'ю адзін, не з радасці, а з гора,
Што скрозь развал, нястачы, недарод,
За тых, каму бяссілле і пакора
Наканавалі непазбежны звод.

Я п'ю за тую, што не стане маці,
Сагнутую у дваццаць восем год,
І горка плачу, бо у кожнай страце
Знікае мой даверлівы народ.

## БЕЖАНЦЫ

— Куды бяжыце, бежанцы, куды? —
— Ад аднае бяды і да другой бяды. —
— Адкуль бяжыце вы, адкуль? —
— Ад полымя у жыце і ад куль,
А нам у грудзі цэліцца і ўслед
Не прышлы вораг, а сусед.
Яго стрымаць не можа аніпто,
Хоць ён і сам не ведае за што
Страляе ў аксакала і ў дзіця,
І тушыць светлыя агеньчыкі жыцця. —
— Ці ёсць у вас над галавою дах?
— Хутчэй прытулак знойдзем
на кладах. —
— Куды бяжыце, бежанцы, куды? —
— З семнаццатага ў дзевяностыя гады.

## ДВАЙНІК

Не ведаю, куды ён раптам знік.
Я зноў адзін, а ён блукае дзесьці,
Ні піць не просіць, ні курыць, ні есці,
Сышоўшы некуды, самотны мой двайнік.

Становіцца амаль бязважкім цела
У заінелай снежаньскай цішы,
Здаецца, непрыкметна адляцела
Часцінка неспакойнае душы.

І... пустата. Гляджуся у прадонне,
Павольна вочы засціліе змрок,
Але крывінка стукаецца ў скроні,
За зоркай зорка асвятліла зрок.

Я тут яшчэ, жыву па поўнай мерцы
І кожнаю хвілінай даражу,
Бо не магу замоўкнуць і памерці,
Пакуль усё усім не раскажу,

Пра мары і святыя парыванні,
Якім на раздарожжах страціў лік.
Пульсуе сэрца, і празрыстым раннем
Вяртаецца самотны мой двайнік.

Мы неразлучныя, мы адчуваем разам
Як боль, то раптам радасць апячэ,
І рана думаць над апошнім сказам,
І ставіць кропку не хачу яшчэ.

## АТРУТНАЕ ДЖАЛА

*Кожны паважаючы сябе чалавек
павінен мець ворагаў.*
**Эзоп**

*У сумленных ворагаў бывае больш,
чым у несумленных.*
***Ф. М. Дастаеўскі***

Сумна без ворагаў жыць на зямлі,
Паклёпнік патрэбен таксама.
Без іх «дапамогі» сабрацъ не змаглі б
Столькі ахвяраў крывавае драмы.

Паклёпнікі — надта жывучы народ.
Без іх абляянюцца каты,
Бо шэпчуць і сыкаюць без перашкод:
«І гэты, і той вінаваты».

Гэта засвоіў адважны Эзоп,
Калі і яго неаднойчы каралі
Атрутнымі пырскамі ў вочы і ў лоб
Паклёпнікаў чорныя джалы.

За грыўню, за грош чалавека прадаць
Для іх найвялікшае свята.
Паклёпнік здалёку і зблізку відаць
Па лютым абліччы Пілата.

А зробіш паклёпніку часам дабро,
Ён дзіду шпурне наўздагонку,
Ці крукам падчэпіць цябе пад рабро
І ўесца ў жывую пячонку.

Шчыруе паклёпнік і сыкае злом
Пры розных сістэмах і зменах.
Каб часам яго сярод нас не было,
Ніхто б не заўважыў сумленных.

А што ж у яго незвычайнае ёсць?
Зайздрасць, нянавісць і лютая злосць.

# «ПЯЯЦЬ, АБ ЧЫМ ДУМКА ПЯЕ»

*(Пачатак на стар. 5)*

Зазначым: гэта напісана на пачатку 1922 года. Проста дзіўна, чаму такі вопытны даследчык жыцця і творчасці Янкі Купалы, як Алег Лойка, не ўлічвае гэта, калі ў «Энцыклапедыі літаратуры і мастацтва Беларусі» (т.3, 1986) сцвярджае, быццам паэт ужо ў 1918 годзе «вітаў рэвалюцыю», а на падставе перакладу на беларускую мову «Інтэрнацыянала» і вершаў «На смерць Сцяпана Булата» і «Арлянятам» — «арганічна прыняў ідэі сацыялізма»? Усё было куды складаней, пра што сведчаць і тыя творы, якія гадамі замоўчваліся, не перадрукоўваліся, ды і публіцыстыка, якая таксама, на жаль, мала вывучана і да нашага сораму яшчэ цалкам не сабрана і не выдадзена. Сапраўды, пасля 1921 года Янка Купала піша некалькі вершаў, у якіх прыхільна паставіўся да некаторых з'яў, што адбываліся ў Савецкай Беларусі. Але ці яны, тыя, дарэчы, нешматлікія ды і ў мастацкіх адносінах не лепшыя творы, вызначалі пошукі і думкі паэта, тое, чым ён жыў? Разам жа з гэтымі вершамі з'яўляліся іншыя, як, напрыклад, «... О так! Я — пралетар» (1924), у якім паэт не можа пагадзіцца, што ў імя сусветнай рэвалюцыі, інтэрнацыяналізму трэба адмаўляцца ад усяго свайго, роднага. Быццам прымаючы Марксава «ў пралетарыяў няма айчыны», ён як бы дакарае сябе, што «не збыў яшчэ ўсіх бед», яму «сняцца сны аб Беларусі». Якой Беларусі? Вядома ж, не той, што тады была, а вольнай, незалежнай, да якой ён і заклікаў усе свядомыя гады свайго жыцця імкнуцца беларусаў.

Вока ў Янкі Купалы вострае, яно бачыць у новым савецкім жыцці не толькі добрае, але і дрэннае. Менавіта ў гэтыя часы нараджаецца верш «Акоў паломаных жандар...», — у ім з вялікай мастацкай сілай асуджаюцца ненавіснікі ўсяго беларускага, ахоўнікі «адзінай непадзельнай Расіі» — «слугі оцечаству, цару».

Спужаўся, што хлапчук у лапцёх
Напоўадзеты вёскі сын,
У роднай мове вучыцца змог?
О, стыдна, рускі «гражданин»!

Сярод вершаў гэтага часу вылучаецца і верш «Адшчапенцам (заходнім)», на які варта звярнуць асаблівую ўвагу. Калі прачытаеш і раз, і два гэты верш, дык убачыш: нічога «заходняга» ў ім няма, акрамя хіба слова «ойчызна». «Заходнім» — гэта ні што іншае, як прывесак, які дазваляў прапіхнуць верш праз цэнзуру, выратаваць, надрукаваць яго. Усё, пра што гаворыцца ў гэтым творы, вельмі ж тутэйшае, знаёмае нам, беларускае, а, дакладней, савецкае — яго прынесла з сабою новая ўлада. Выкрывальны пафас верша накіраваны супраць самай агіднай і страшнай сілы і апоры новай улады — чыноўніка-інтэрнацыяналіста, які за тыя даброты, што яму давалі, гатовы стаптаць, знішчыць усё жывое, што яшчэ засталося ў нашым народзе, свайго роду «новы клас», «Иванов, не помнящих родства», гаворачы словамі цяперашняга часу, «русскоязычное население»:

Адкуль і хто яны, адменцы?
Няма у кнігах роду іх;
Імя іх толькі адшчапенцы,
А гэта ведама й без кніг.

Узялі крыўдай уладанне
Над братам бедным і сляпым
І распасцерлі панаванне
Ў чужым дабры, як у сваім.

Народ ім харамы паставіў,
Раллю капаў для іх, як крот,
Яны ж чужой прадалі славе
Сваю зямлю і свой народ.
......................

Жывуць брыдуць, а дзе — не знаюць
Сягоння іх начлег, папас,
Адно — народ з пуцця збіваюць
І ў процьму гоняць кожны час.

Дакуль жа будзе іхня сіла
Трымаць над намі свой прыгон?
Калі у Бацькаўшчыне мілай
Загосціць праведны закон?

Дакуль іх будзе панаванне,
А рабства нашае трываць
І аднімаць у нас прыстанне
І путы вечныя каваць?

У 1925 годзе Беларусь шырока адзначыла 20-годдзе літаратурнай дзейнасці Янкі Купалы. Яму надаецца званне народнага паэта Беларусі. Савет Народных Камісараў рэспублікі пастанаўляе вызваліць Янку Купалу ад усіх тых пасад, якія ён займаў дагэтуль дзеля заробку, і з «мэтай стварэння лепшых умоў для творчай працы» прызначае яму пажыццёвую пенсію.

Янка Купала ў гэты час усё яшчэ застаецца сапраўдным паэтам, поўны творчых планаў і сіл — піша прывітанне газеце «Беларуская вёска» «Сей, вольны сейбіт», вершы «Па Даўгінаўскім гасцінцы», «На пагранічны», «Каб...», прысвечаныя крывавай ране беларускага народа — мяжы, што была ўстаноўлена паводле несправядлівага грабежніцкага гэтак званага Рыжскага мірнага дагавору, іншыя свае творы. Сярод іх два вершы, на якіх варта спыніцца асобна. Гэта перш за ўсё «І прыйдзе», у якім паэт гаворыць пра адказнасць мастака перад патомкамі, гісторыяй за кожнае сваё слова, ды і паводзіны, учынкі:

І прыйдзе новых пакаленняў
На наша месца грамада
Судзіці суд, ці мы сумленна
Жыццё прайшлі, ці чарада

Зняваг мінулых нас не з'ела,
Пакінуўшы свой дым і чад,
І мы па-даўняму нясмела
Жылі не ў лад і неўпапад?

Ці аб свой гонар дбайна дбалі,
І дабравольна, без прынук,
Самі сабой не гандлявалі,
Не неслі ў петлі дум і рук?

І ці пакінуці напамяць
Мы песень гэтакіх змаглі,
З якіх бы можна было ўцяміць,
Што мы свабоднымі былі?..

А ўжо свой выдасць непадкупны
Аб нас гісторыя прысуд,
Калі аглядам гляне рупным
І разбярэ, ў чым справа тут.

У сведкі запісы пакліча,
Паданні клікне ў час такі
І ўсё паліча, пераліча...
А суд гісторыі цяжкі!

І засумуецца патомак,
Калі дазнаецца аб нас,
Што нейкі з нас хоць быў не зломак,
А плечы гнуў у крук не раз;

Не йшоў з адкрытымі вачыма
У свет і сцежкі не прастаў.
А ўсёй магчымасці магчымай
Таптаў сляды, сябе таптаў.

Другі верш — «За ўсё...», у якім паэт зноў, як гэта было ў 1915 годзе, падводзіць вынікі сваёй працы:

За ўсё, што сёння маю,
Што даў мне мой народ:
За кут у родным краю,
За хлеб-соль без клапот, —

Я адплаціў народу,
Чым моц мая магла:
Зваў з путаў на свабоду,
Зваў з цемры да святла.

Для бацькаўшчыны беднай,
Для ўпаўшых яе сіл
Складаў я гімн пабедны
Сярод крыжоў, магіл.

Змагаўшыся з напасцяй
За шчасце для людзей,
Не раз пісаў ў няшчасці
Крывёй сваіх грудзей.

Уносіў гэтым долю
Сваю для ўсіх дабра,
А болей... Што ж там болей
Жадаць для песняра?!

І як і тады, у 1915 годзе, Янка Купала зноў змаўкае. Гэты раз на год. Што было прычынай таму? Няма сумнення — тагачасная рэчаіснасць. Яна патрабавала, каб Янка Купала цалкам перайшоў на пазіцыі новай улады, ухваляў усё, што тая рабіла. Ёй ужо было мала таго, што паэт час ад часу кадзіў сваім паэтычным радком. Янка Купала павінен быў забыць, хто ён, па сутнасці перастаць быць Янкам Купалам. Гэта было вышэй яго сіл...

Афіцыйная крытыка зразумела гэта. І спярша нясмела, асцярожна, потым усё больш і больш рашуча, настойліва пачала атакі на народнага песняра. Калі гэта не дапамагло, у барацьбу ўключыліся аглабельшчыкі-вульгарызатары тыпу Бэндэ... І нават усемагутнае кагановіцка-сталінскае ГПУ...

Пра тое, як праходзіла гэтая барацьба і да чаго яна прывяла, ужо расказана ў маім эсэ «Сняцца сны аб Беларусі» і артыкуле «А суд гісторыі цяжкі...»

## ТЭАТР

### Калядны снег ідзе ў... красавіку

Быццам са старонак Святой Кнігі сышлі персанажы пастаноўкі «Меч Анёла» па п'есе І. Сідарука, якую ажыццявілі на сцэне Брэсцкага абласнога лялечнага тэатра выпускніцы тэатральна-мастацкай акадэміі Ірэна Мацкевіч /рэжысёр/ і Ірэна Лапо /мастак/. Дэкарацыі спектакля напраўду вырашаны ў форме кнігі, якую чытаюць, ілюструючы лялечным дзеяннем, два Анёлы /Іван Герасевіч і Уладзімір Зайцаў/.

У аснову п'есы пакладзена традыцыйная гісторыя Цара Ірада, якую, аднак, аўтар трактуе крыху па-свойму, адыходзячы ад батлейкавага канону. На двары красавік, але калядны снег, што ідзе ў спектаклі, і народная калядная музыка, якая яго суправаджае, стварае атмасферу сапраўднага свята Нараджэння Хрыстова — гісторыі вечнай і неўміручай.

І. Х.

## ФЕСТЫВАЛІ

### «Новыя імёны»

Традыцыйны фестываль дзіцячай і юнацкай мастацкай творчасці пад гэтаю назвай, які ладзіцца абласным аддзяленнем Беларускага фонду культуры, прайшоў у Гродне. Удзельнічалі юныя музыкі-выканаўцы, кампазітары, паэты, чытальнікі, майстры-ўмельцы амаль з усіх раёнаў Гродзеншчыны. Добразычлівая публіка і кампетэнтнае журы аддалі сімпатыі лепшым. Сярод лідэраў фестывалю — навучэнец Гродзенскага музычнага вучылішча Дзяніс Асімовіч /выхаванец вядомага гітарыста У. Захарава/, прэміямі ды падарункамі адзначаны таксама Андрэй Ганін, Ніна Ролік, Яўген Ларыёнаў, Таццяна Саўрас, Дзінара Мазітава, Дзіма Ушакевіч, Вольга Шпак, Таццяна Чарток і інш. Асаблівы поспех мелі гадаванцы музычнай школы ды музычнага вучылішча г. Ліды. Нельга не адзначыць падтрымку спонсараў: абкома прафсаюза работнікаў культуры, Ленінскага райвыканкома Гродна, абкома Саюза моладзі Беларусі, саюза прадпрымальнікаў «Ліга» і інш. І яшчэ адметнасць: імянныя стыпендыі ўручылі кампазітар Віталь Радзіёнаў і гітарыст Уладзімір Захараў, а мастакі Уладзімір Голуб, Уладзімір Церабун, Станіслаў Кічко, Уладзімір Кукушкін падаравалі ўласныя творы. Хай жа іхнюю ініцыятыву падтрымаюць знаныя беларускія пісьменнікі ды музыканты.

Н. К.

## МУЗЫКА

### Чым больш маштабная асоба...

Выдатныя дзеячы беларускай музычнай культуры
Л. С. Мухарынская
артыкулы, перапіска, успаміны

Па заказе Саюза музычных дзеячаў Беларусі выдавецка-паліграфічная кампанія «Эрыдан» выпусціла зборнік, прысвечаны выдатнаму фалькларысту, этнамузыколагу Лідзіі Мухарынскай. Сціплая з выгляду, але ёмістая па змесце кніжачка ўключае артыкулы ды згадкі калег, вучняў Л. Мухарынскай, яе ўласныя нататкі ды інтэрв'ю, перапіску з вядомымі дзеячамі музычнай культуры /М. Аладавым, Д. Шастаковічам і інш./, малавядомыя фотаздымкі. «Даўно заўважана: чым больш маштабнай з'яўляецца творчая асоба, тым больш шырокія плыні духоўнага працэсу яна сваёй дзейнасцю лучыць і тым больш грунтоўныя праграмы закладае для будучага развіцця. У беларускай музычнай культуры асоба Лідзіі Саулаўны Мухарынскай менавіта такога ўзроўню», — піша ў прадмове складальнік зборніка Тамара Якіменка. Зместам сваім новае выданне пацвярджае гэтую выснову. Дарэчы, тыраж яго, 2 тыс. экземпляраў, можна лічыць неблагім, параўнаўшы з мізэрнымі накладамі, скажам, каштоўнейшых арыгінальных прац Г. Барышава, В. Дадзіёмавай, кнігі па гісторыі музычнага тэатра Беларусі дакастрычніцкага перыяду.

Н. К.

### Адраджаемся... на энтузіязме?

Прыгожых слоў пра Адраджэнне было ўжо сказана й гаворыцца вельмі многа, а вось канкрэтных спраў і захадаў, бясспрэчна, не хапае, і ў першую чаргу — на дзяржаўным узроўні. Інакш, пэўна, не здаралася б такога, пра што паведамляў «ЛіМ»: найкаштоўнейшыя для сённяшняга часу кніга В. Дадзіёмавай пра музычную культуру беларускіх гарадоў XVIII ст. выйшла накладам толькі 1230 асобнікаў /!/. І гэта — пры цяперашнім дэфіцыце інфармацыі такога роду? Для параўнання: падпісаны ў друк некалькімі днямі раней 3-ці том твораў А. Крысці меў лічбу аж 100 тысяч!

Так і даводзіцца задавальняцца тым, што маем, радуючыся кожнай новай публікацыі, якая неўзабаве робіцца бібліяграфічнай рэдкасцю. Вось і выданне, на якім спыняю сёння ўвагу, мае наклад 250 асобнікаў. Гэта зборнік артыкулаў «Белорусский музыкальный фольклор в исследованиях молодых этномузыковедов», выпушчаны ў 1991 г. Беларускай акадэміяй музыкі /на той час кансерваторыяй/. Прадмет навуковых інтарэсаў аўтараў — праблемы вывучэння веснавога песеннага фальклору Беларусі, прынамсі, юраўскіх ды валачобных абрадавых песень. Тыпалагічны ракурс даследаванняў, выкарыстанне методыкі комплекснага стылістычнага аналізу далі магчымасць грунтоўна раскрыць юраўскі ды валачобны песенны рытуал Беларусі з этнамузыказнаўчых пазіцый. Сярод іншага разгледжаны сюжэтна-тэматычныя й паэтычныя асаблівасці гэтых песень, пытанні паходжання адпаведных абрадаў, дадзены іх апісанні, ёсць нотныя прыклады з уласных экспедыцыйных запісаў аўтараў. Змешчаныя ў зборніку артыкулы І. Сіневіч і С. Мыцько карысныя не толькі для навукоўцаў, музыкантаў-прафесіяналаў, педагогаў, студэнтаў, а і для ўсіх, хто цікавіцца беларускай народнай творчасцю.

Шкада, канечне, што выданне на рускай мове, ды ўсё ж яно ў нейкім сэнсе змяншае катастрафічны недахоп сучаснай літаратуры пра музычны фальклор Беларусі. Дзіўна, але ў нас дагэтуль не было нават адпаведнага падручніка, а падрыхтаваны, нарэшце, дацэнтам БАМ Т. Якіменкай чамусь затрымліваецца з выпускам, і мяркуемы тыраж абяцае чарговую бібліяграфічную рэдкасць. Так што адраджацца, шаноўныя браткі-беларусы, давядзецца нам, пэўна, на ўласным энтузіязме...

А. САЛАДУХІН

## ПРЭЗЕНТАЦЫІ

### Ёсць «ЛіМ» і «ЛІМІК»!

Нечакана-негадана ў «ЛіМа» сваяк з'явіўся. І дзе б вы думалі? Ды таксама ў стольным Мінску, а калі дакладней — на вуліцы Кірава, 2. Тут днямі адбылася прэзентацыя новага культурнага цэнтра — «ЛІМІК», што расшыфроўваецца даволі проста: літаратура, мастацтва і культура.

А свята — заўсёды свята. Першае ж мерапрыемства прынесла нямала радасці аматарам мастацтва. Прысутных віталі Дзяржаўны канцэртны аркестр Рэспублікі Беларусь пад кіраўніцтвам М. Фінберга, спевакі І. Краснадубскі і В. Стральчэня. І. Лучанок прапанаваў новую песню «Жытнёвы звон» на верш П. Панчанкі. Парадаваў сваім майстэрствам і ансамбль народных інструментаў пад кіраўніцтвам Л. Маеўскага. Асалоду прынесла і знаёмства з творамі Г. Паплаўскага, Л. Шчамялёва, П. Масленнікава і іншых. Працавала і выстаўка тавараў народнага ўжытку, зробленых прадпрыемствамі Беларускай чыгункі і на заводзе імя Вавілава. Іх можна было набыць ці заказаць.

Н. К.

### Узаемнасць душы

На мінулым тыдні ў Доме літаратара адбылася прэзентацыя новай паэтычнай кнігі Юрася Свіркі «Узаемнасць». Павіншаваць і прывеціць аўтара, паэта-лірыка, сціплага і негаманкога чалавека, прыйшлі паплечнікі-сябры, артысты, музыкі.

Цёплае слова сказалі А. Вярцінскі, К. Камейша, А. Пісьмянкоў, М. Маляўка, С. Законнікаў, В. Жуковіч. Не прамінулі з дапамогай пародый высмеяць таварыша Г. Юрчанка і У. Марук, з душой прачыталі вершы Свіркі П. Дубашынскі і В. Анісенка. Аздобілі вечарыну Уладзімір Пузыня з сынам, а таксама бард Алег Атаманаў і спявак Сяргей Герасімаў. Віноўца вечара хваляваўся, калі на заканчэнне і яму давялося прачытаць некалькі вершаў. У ролі вядучага выступаў Васіль Зуёнак.

Наш кар.

## ВЕЧАРЫНЫ

### Паэт па прызванні

75-годдзю з дня нараджэння Алеся Бачылы быў прысвечаны вечар «Радзіма мая дарагая», што прайшоў у Доме літаратара. Назву вечарыне дала песня на вершы Алеся Мікалаевіча, мелодыя якой стала пазыўнымі рэспубліканскага радыё.

Талент А. Бачылы быў шматгранны. Паэт па прызванні, ён з поспехам працаваў не толькі ў галіне песні, а і з'яўляецца аўтарам лібрэта опер «Яснае світанне», «Калі ападае лісце», «Зорка Венера» і іншых, аперэты «Паўлінка». Напісаў нарыс пра жыццёвы шлях М. Багдановіча «Дарогамі Максіма».

Вядучы вечара намеснік старшыні Саюза пісьменнікаў Беларусі А. Пісьмянкоў, народны пісьменнік Я. Брыль, У. Юрэвіч, А. Асташонак і гаварылі пра Алеся Мікалаевіча як пра творцу, які пакінуў добры след у розных галінах мастакоўскай дзейнасці. З успамінаў /выступіў таксама сын А. Бачылы Барыс Аляксандравіч/ паўставаў воблік А. Бачылы — чалавека, таварыша, а таксама журналіста і рэдактара выдавецтва.

Змястоўнай была і мастацкая частка вечарыны.

### І на Беларусі ёсць... кіты

Прынамсі, адзін з іх. Да таго ж, вядомы ва ўсім свеце. Маецца на ўвазе буйнейшы спецыяліст у галіне астранаўтыкі, прафесар гэтай галіны Барыс Кіт, які цяпер жыве ў Франкфурце-на Майне, а нарадзіўся на Навагрудчыне.

Дню нараджэння Б. Кіта была прысвечана вечарына, што прайшла ў Мінскім інстытуце культуры. Перад прысутнымі выступілі В. Іпатава, Л. Савік, А. Мальдзіс, Ю. Хадыка і іншыя. Усе яны гаварылі аб вялікім укладзе ў навуку нашага знакамітага земляка, падкрэслівалі, што сёння, як ніколі раней, ёсць магчымасць для плённага супрацоўніцтва беларусаў, незалежна ад таго, дзе яны жывуць.

## ЛІТКУР'ЕР

### Шпрэхен зі дойч?

Размаўляеце вы па-нямецку? Крыху можаце? У такім разе паспяшайцеся ў сталічны магазін «Мастацтва» /гэта па праспекце Машэрава/, дзе арганізавана выстаўка-продаж нямецкіх выданняў. Бадай, няма патрэбы нагадваць, якой папулярнасцю карыстаюцца яны ва ўсім свеце з-за свайго высокага мастацкага афармлення і паліграфічнага выканання. Не кажучы, безумоўна, пра сам змест.

Гэтыя ж кнігі паступілі ў магазін як гуманітарная дапамога ад біржавага саюза нямецкіх распаўсюджвальнікаў кнігі і выдаўцоў. Выданні самыя розныя — і цудоўныя альбомы па мастацтве, і кніжкі для дзяцей, і шматлікія даведнікі.

Важна і тое, што ўсе гэтыя кнігі — усяго 1600 назваў — дапамогуць «Мастацтву» выжыць: выручка дазволіць магазіну паправіць сваё фінансавае становішча, якое, можна сказаць, крытычнае.

### Хацелася жыць...

Назва гэтай кнігі Платона Галавача — быццам крык душы, што дайшоў праз дзесяцігоддзі. Безумоўна, называючы свой зборнік апавяданняў, выпушчаны ў 1930 годзе тагачасным Беларускім дзяржаўным выдавецтвам, — «Хочацца жыць», ён укладваў у яго іншы сэнс, чым падаецца цяпер. Услаўляў сацыялістычную рэчаіснасць, паказваў людзей, якія плённа працавалі ў імя будучыні, у якую верылі.

Цяпер жа, праз гады, гэта крык душы. Хочацца жыць! Хочацца жыць! Яму ж, вядомаму пісьменніку і грамадскаму дзеячу, калі адышоў у нябыт, было ўсяго трыццаць чатыры гады! Сама жыць, ды куля энкавэдзістаў абарвала ягонае жыццё ў росквіце творчых і фізічных сіл.

Зборнік «Хочацца жыць» — адзін з многіх, прадстаўленых на кніжнай выстаўцы, прысвечанай 90-годдзю з дня нараджэння П. Галавача ў Нацыянальнай бібліятэцы Беларусі. Сабраны разам дзесяткі кніг, у тым ліку і пераклады на рускую, украінскую мовы, Збор твораў у трох тамах, выпушчаны ў 1958 годзе. Поруч — адно з апошніх выданняў — раман «Праз гады», які ў 1992 годзе выйшаў у выдавецтве «Юнацтва» ў серыі «Школьная бібліятэка».

### Шукаюць «Пяты кут»?

У Слуцку афіцыйна зарэгістраваны творчы саюз «Пяты кут», які дагэтуль існаваў нефармальна. Гэтая грамадска-культурная арганізацыя аб'ядноўвае мясцовых пісьменнікаў, мастакоў і бардаў.

Адметны той факт, што ў дзень рэгістрацыі старшыня ТС Д. Вішнёў прадставіў на пасяджэнне выканкама першую кніжку суполкі — зборнік апавяданняў з эксцэнтрычнай назвай «Голос утопленника». Неўзабаве ў свет павінна выйсці двухмоўная газета «Слуцк-арт». Творчае жыццё горада, па ўсім бачна, разнастайваецца.

С. МІНСКЕВІЧ

## БЕЛАРУСКАЕ ЗАМЕЖЖА

### Чарговыя старонкі «Полацака»

Полацак

Споўнілася два гады, як у Кліўлендзе выйшаў першы нумар часопіса «Полацак». У другім нумары за сёлетні год гэтай падзеі прысвечаны рэдакцыйны артыкул «Два гады». Пра ролю «Полацака» ў адраджэнні Бацькаўшчыны, стасункі паміж замежжам і Беларуссю разважае ў гутарцы з А.Белым В.Быкаў — «Беларусі патрэбнае кожнае сумленнае слова».

Змешчаны працяг «Уласнаручных паказанняў Езавітава Барыса Канстанцінавіча», артыкулаў М.Белямука «Тапаграфія знаходак манет і аздобаў», П.Урбана «Да пытання этнічнай прыналежнасці старажытных ліцвіноў», раздзелаў з кнігі С.Белай «Віленскія беларусы расказваюць...», рамана М.Кавыля «З агню ды ў полымя», завяршэнне «Кароткага нарыса дзяржавы і права Беларусі» Я.Юхо.

М.Сташкевіч і Р.Платонаў у артыкуле «Прарыў у трагічную будучыню» /пачатак матэрыялу/ узнаўляюць асобныя моманты дзейнасці БНР. У раздзеле «Далёкае і блізкае» А.Шукелойц расказвае пра свае сустрэчы з адным з паэтаў замежжа — «Некалькі штрыхоў да партрэта Анатоля Бярозкі». М.Рэпкаў-Смаршчок прапануе згадкі «Крыху пра Язэпа Пушчу ды ягоныя «Лісты да сабакі».

А.Мальдзіс закранае некаторыя моманты работы Нацыянальнага навукова-асветніцкага цэнтра імя Ф.Скарыны — «Беларусы ў свеце». С.Белая расказвае пра паездку нашых замежных суродзічаў на Бацькаўшчыну — «Туды, дзе нашы карані».

Змястоўны заключны раздзел «З жыцця эміграцыі».

## АНОНС

### Вам, аматары мовы

Шэраг новых бібліяграфічных паказальнікаў для выпуску ў сёлетнім годзе падрыхтавана аддзелам навуковай бібліяграфіі Цэнтральнай навуковай бібліятэкі імя Якуба Коласа Акадэміі навук Беларусі. Сярод іх — «Беларускае мовазнаўства /1976 — 1985 гг./». Аналагічны паказальнік ужо выходзіў у 1980 годзе і ахапіў выданні, што з'явіліся раней. Цяпер жа ў яго ўключаны працы згаданага перыяду, прысвечаныя беларускай мове, а таксама дыялектныя і тлумачальныя слоўнікі, выданні фальклору, рэцэнзіі на кнігі па беларускім мовазнаўстве. Сістэматызаваны кнігі не толькі на беларускай, але і на рускай і ўкраінскай мовах. У паказальніку будзе спіс выкарыстаных крыніц і імянны паказальнік. Можна аформіць папярэдні заказ, звярнуўшыся на адрас: 220601, г.Мінск, вул.Сурганава, 15, Цэнтральная навуковая бібліятэка імя Я.Коласа Акадэміі навук Беларусі.

### «...Збіраю рэшткі праўды»



8 і 9 мая на сцэне Рускага тэатра Беларусі адбудуцца маленькія гастролі берлінскага тэатра «Крэатур», — таго самага, які скалануў публіку і тэатральных спецыялістаў на «Балтыйскай тэатральнай вясне» ў 1992 годзе /фестываль прымала тады Гародня/. Спектакль «Крама ўсходніх прыпраў» паводле Бруна Шульца ў рэжысуры Анджэя Ворана займеў самыя высокія мастацтвазнаўчыя ацэнкі.

«... Я паляк, славянін, нарадзіўся ў 50-ыя гады, выгадаваўся ў сацыялістычным лагеры ды каталіцкай Польшчы. Я не перажыў ні вайны, ні Асвенціма, я не знаёмы з перадваеннай Польшчай і ейным яўрэйскім светам... Я магу толькі сабраць дакументы, рэшткі, каліўцы таго свету, якія для мяне існуюць ужо як гісторыя... Я збіраю рэшткі праўды і складаю з іх новую форму».

Да гэтай невялікай вытрымкі з інтэрв'ю Анджэя Ворана /часопіс «Театр», N 12, 1991/ застаецца дадаць, што на «Балтыйскай тэатральнай вясне» стварэнне Ворана — сцэнічнае і самую ідэю — крытыкі /а перадусім — Барыс Тух з Эстоніі/ назвалі «тэатрам увасобленай падсвядомасці», а ў сваім аглядзе «ЛіМ» зважыў на свежасць ды адметнасць гэтага ўвасаблення.

Ж.Л.

*На здымку: сцэна са спектакля «Крама ўсходніх прыпраў».*

*Гэтага чалавека і сёння на Мёршчыне памятаюць, хоць прайшло ўжо больш 50-ці гадоў, як Язэп Малецкі ў апошні раз наведаў свой родны кут — ціхую вёсачку Якужы...*
*Малецкі належаў да таго, досыць распаўсюджанага ў нас на Беларусі, тыпу інтэлігента-адраджэнца, якога Бог шчодра надзяліў разнастайнымі здольнасцямі і кіпучай энергіяй, ды не судзіў шчаслівае долі. Цяжкім і няпростым быў шлях заходнебеларускага юнака, які толькі дзякуючы ўласнай апантанасці ды друйскім ксяндзам-марыянам /у першую чаргу айцу Андрэю Цікоту/ змог набыць адукацыю і далучыцца да нацыянальна-вызваленчага руху. Па адукацыі Малецкі быў лекарам, па перакананнях жа — свядомым беларусам, настолькі адданым нацыянальнай справе, што не раз ахвяроўваў у яе імя сваімі асабістымі схільнасцямі і інтарэсамі.*
*У 1941 годзе яго выбіраюць першым намеснікам старшыні /старшынёй быў праф.В.Іваноўскі/ Беларускага Нацыянальнага Камітэта ў Вільні, «які меў рэпрэзэнтаваць беларускія інтарэсы перад нямецкімі ўладамі». Хоць Я.Малецкі і не лічыў супрацоўніцтва з немцамі патрэбным і карысным, аднак жа мусіў супрацоўнічаць, у 1944 годзе нават становіцца намеснікам БЦР Вілейскае акругі.*
*Летам 1944 года ён пакінуў радзіму. Жыццёвы шлях яго скончыўся ў далёкай Аўстраліі.*
*У 1976 годзе ў Таронта выйшла кніга ўспамінаў Я.Малецкага «Пад знакам Пагоні», якая ахоплівае перыяд з 1939 па 1944 гады. У гэтым творы аўтар падае шэраг цікавых, неацэнных звестак з тагачаснага палітычнага і культурнага жыцця, распавядае пра лёсы многіх змагароў за нацыянальную справу, імёны якіх сёння па розных прычынах невядомыя ці малавядомыя нам. У невялікай прадмоўцы аўтар зазначае: «Што апісаў у кніжцы, таго ў большыні быў сведкам, тое сам перажыў. Чаго ж не бачыў, тое запісана ад веры годных людзей. Калі пісаў, ніколі не мінаўся з праўдай, ці гэта будзе каму падабацца, ці не».*
*Прапаную ўвазе чытачоў «ЛіМа» некалькі старонак з кнігі «Пад знакам Пагоні». Мяркую, што яны і сёння /а мо асабліва сёння/ прачытаюцца з цікавасцю.*

*Галіна ТЫЧКА*

**Язэп МАЛЕЦКІ**

# ПАД ЗНАКАМ ПАГОНІ

*Успаміны*

## Бальшавікі ў Вільні

Паміж 17 ды 25 верасня 1939 года бальшавікі, згодна з сваёй дамоўленасцю з Гітлерам, занялі землі Заходняе Беларусі. У дамове з нацыстамі было сказана, што немцы забяруць Польшчу па Віслу, Саветы ж акупуюць тэрыторыю на ўсход ад Віслы. Вось таму, калі немцы былі ўжо даўно пад Варшавай ды ўжо набліжаліся й да Львова, 17 верасня Сталін даў загад убіць нож у спіну адступаючым польскім войскам.

Пакуль савецкая «тэхніка» разгарнулася, немцы перайшлі дамоўленую лінію падзелу дзяржавы ды накінулі бальшавікам другую лінію падзелу — па рацэ Буг. Вось гэтак дайшло да «вызвалення» Масквою земляў Заходняе Беларусі ды Заходняй Украіны. Чырвонай Маскве гэтае «вызваленне» абышлося без большых стратаў. На беларускай тэрыторыі былі толькі невялікія баі ў раёне Горадні ды Вільні з польскімі вайсковымі групамі, што намагаліся адысці ў Летуву.

Беларускае жыхарства прыняло бальшавіцкае «вызваленне» насцярожана. Шырока была вядомая жорсткая расправа Масквы з усім беларускім нацыянальна-культурным актывам, што ад гадоў дзесяці праводзілася ў БССР, расправа над былымі паслямі Грамады і клуба Змагання. Даходзілі чуткі й пра масавы партыйны тэрор над сялянствам, пра масавыя арышты, ссылкі ў канцэнтрацыйныя лагеры, расстрэлы беларускіх пісьменнікаў, навукоўцаў, настаўнікаў, беларускае інтэлігенцыі наогул.

Ды беларусы Заходняе Беларусі хоць і ведалі, што й ад новага пана цяжка спадзявацца нечага лепшага, не тварылі нейкіх антыбальшавіцкіх асяродкаў супраціву. За 20 гадоў у прыску польскае шавіністычнае палітыкі й нацыянальнага праследу яны былі моцна аслабленыя. Бальшавікоў не сустракалі з кветкамі, але з цікавасцю мацалі іх прымітыўную смярдзючую вопратку, глядзелі на іх збядненыя твары, на іх вайсковых харчы з сушаных рыбы «обль», на брэзентавы, жалю годны, абутак. Наглядна можна было бачыць праўду народнае гаворкі: «Відаць пана па халявах».

Пра настроі беларусаў здавалі сабе справу і бальшавікі. Яны ведалі, што асяродкам усяго беларускага палітычнага руху была старая сталіца Вялікага княства Літоўскага Вільня. І Вільню яны спачатку апавясцілі сталіцаю Заходняе Беларусі, мову беларускую прызналі за афіцыйную мову, выдавалі штодзённыя ды іншыя газеты па-беларуску, арганізавалі беларускае школьніцтва, заснавалі свае беларускія арганізацыі. Ды трывала гэта вельмі коратка, каля пяці тыдняў.

Націскаючы на Летуву ды іншыя балцкія краі, Масква зарыентавалася, што ў абставінах ваеннае завірухі на захадзе Еўропы ёй будзе нагода захапіць усю Прыбалтыку. Ведаючы прэтэнзіі летувісаў да Вільні, яна пасуліла, што перадасць ім Вільню з часткай Віленшчыны за цану згоды на заснаванне савецкіх вайсковых баз у Аліце ды Новай Вільні. Летувісы хутка сцямілі, што гэтая прапанова азначае, ды склалі пагаворку: «Вільнюс мусу, Летува русу» — «Вільня нашая — Летува руская».

Пра тактыку бальшавіцкіх валадароў акупаванае Вільні да беларусаў вымоўна сведчаць некаторыя канкрэтныя факты. Разам з рознымі іншымі мітынгамі ды зборкамі ў Вільні тады быў наладжаны й адумысны сход «беларускіх інтэлігентаў». З'явілася на сход каля 80 беларускіх дзеячаў на чале са старшынёй Беларускага Навуковага Таварыства ды дырэктарам Беларускага Музея імя Івана Луцкевіча Антонам Луцкевічам, Вячаславам Багдановічам, Антонам Неканда-Трэпкам ды іншымі. Як хутка выявілася, была гэта настаўленая пастка.

Хутка пасля сходу органамі НКВД былі ў Вільні схопленыя вядучыя беларускія дзеячы, ды ў першую чаргу тыя, што былі на сходзе «беларускіх інтэлігентаў»: Антон Луцкевіч, Вячаслаў Багдановіч, Антон Неканда-Трэпка, Вінцэнты Грышкевіч, Макар Касцевіч, Бусел, Самойла ды шмат іншых. Як адбываліся арышты паасобных беларускіх дзеячаў, увявіць сабе можна з прабегу арышту рэдактара «Беларускае крыніцы» Янкі Пазняка /паводле апавядання навочнага сведкі інж. С.Нарушэвіча/.

А гадзіне 2 ночы перад домам Локець, 7 спыніліся аўто НКВД, «чорны воран». Колькі энкавэдзістаў, пад праводам мясцовага габрэя, стукаючы ў дом, крычалі: «Хозяін отворі!» Янка Пазняк не адчыняў. Тады энкавэдзісты сталі ламаць дзверы, але дубовыя дошкі не паддаваліся. Урэшце адзін з іх выламаў у акне фортачку ды ўлез у хату, з'едліва прыгаворваючы: «Іш, как здорава спіт!» Пазняка паднялі на ногі, спраўдзілі дакументы, ды загадалі адзецца. У акружэнні заплаканай сям'і, жонкі ды дзяцей, ён адзеўся скора. Тады яго пагналі ў грузавік. Янка Пазняк ніколі не вярнуўся. Былі чуткі, што недзе ў ліпені 1941 года яго, разам з групай беларускай інтэлігенцыі, бальшавікі расстралялі ля ракі Улы. Гэтак загінуў апошні рэдактар «Беларускае крыніцы», адзін з верных сыноў беларускага народа.

22 кастрычніка 1939 года ў Вільню прыехалі начапураныя, як пеўні, летувіскія паліцыянты, і хто ўцалеў ад арыштаў, той застаўся ў жывых. НКВД перад сваім адыходам грабіла што можна было грабіць, ды вывозіла на ўсход. Пасля выезду НКВД людзі памалу ды нясмела сталі паказвацца з сваіх схованак. Вільня ўздыхнула свабадней, але па ўсёй Заходняй Беларусі шалеў далей бальшавіцкі тэрор, цягнікі са зняволенымі імчаліся на ўсход.

Вільня тым часам пераходзіла ў рукі новых часовых валадароў, хоць, як прызнала сама Масква, места, як і яго наваколле, не было летувіскім. Старшыня народных камісараў і камісар замежных спраў СССР В.М.Молатаў у сваёй прамове перад Вярхоўным Саветам СССР 31 кастрычніка 1939 года заявіў: «Савецкі Саюз пайшоў на перадачу места Вільні Летувіскай рэспубліцы не таму, што ў ім пераважае летувіскае жыхарства. Не, у Вільні большына жыхарства не летувіскае. Але савецкі ўрад лічыўся з гэтым, што места Вільня... павінна належаць Летуве, як места, з якім, з аднаго боку, звязанае гістарычнае мінулае летувіскае дзяржавы, а з другога — нацыянальныя спадзяванні летувіскага народа» /«Известия» ды «Правда» 1.XI.1939/. Са сваім адыходам з Вільні бальшавіцкія ўлады апаражнівалі турмы, забіралі ўсё годнае ўвагі з крамаў, прадпрыемстваў, музеяў, навуковых установ.

28 кастрычніка летувіская паліцыя поўнасцю асадзіла места. Насіла яна сінія шыняля, чырвоныя адзнакі, з чырвонымі аколышкамі шапкі, ды гутарылі выключна па-жамойцку. Дзеля іх пацешнага выгляду ды незразумелай мовы віленчукі дасціпна празвалі іх «калакутасамі» — індыкамі. На другі дзень у Вільню ўвайшла брыгада летувіскага войска, а за імі спяшаліся соткі «шаўлісаў», каб заняць цёплыя пасады.

Жамойцкія збройныя аддзелы ўвайшлі ў Вільню як чужыя ў чужы сабе горад. У месце тады не было й 2 працэнтаў летувіскага жыхарства й яно гублялася ў славянскім моры. Дзеля гэтага й іхняга войска ніхто не сустракаў, ніхто не вітаў. Новым акупантам места давялося ўсцяж насыляць з Коўні ды іншых сваіх гарадоў транспарты летувіскага жыхарства, каб адміністрацыйна апанаваць падараванаю ім Вільню. Гэтак было іх навезена больш 20 тысяч.

Хутка пайшлі новыя парадкі. Старых жыхароў, палякаў і беларусаў, выкідалі з гарадской управы, чыгункі, прадпрыемстваў і ўстаноў, школьніцтва, адміністрацыі. Іх месца займалі малапісьменныя наезнікі. Хутка яны павывешвалі свае шыльды, пазмянялі назовы вуліц на свой лад. Зразу ўвялі жамойцкую мову ва ўсе ўрады і ўстановы. Цяпер Вільня стала нямой: усюды патрэбны быў перакладчык. Людзі наракалі, кляні, бунтаваліся, што не могуць згаварыцца ў сваім родным месце ў сваіх самых пільных жыццёвых справах.

Каб прыспешыць веду мовы новае ўлады, давялося арганізаваць адумысныя курсы ўва ўсіх раёнах места, куды ў прымусовым парадку заганялі кожнага, хто недзе трымаўся на нейкай працы. Каб апанаваць віленскія касцёлы — апрача касцёлаў св.Яна і св.Казіміра, што ім пераказана курыя — яны тварылі шаўліскія ды студэнцкія баёўкі, падымалі бойкі ў Вострай Браме, у Катэдры ды іншых святынях. Баёўкам заўсёды памагала паліцыя, якая хапала мужчын, жанчын і дзяцей, садзіла іх у турмы ды збівала. Падобны тэрор праводзіўся і па заняты жамойцамі мястэчках Віленшчыны. Гэткага здзекліваага глуму нявіннага аўтахтоннага жыхарства мне больш нідзе не давялося бачыць, хоць звеаў я паўсвета.

У гэтыя змрочныя дні Вільні беларускае грамадства места пачало аглядаца, для абароны сваіх правоў, на Беларускі Нацыянальны Камітэт, што мясціўся пры вуліцы Завальнай, 1. БНК — старая беларуская арганізацыя — ходаўся цяпер з новымі захопнікамі, каб аблегчыць долю сваіх суродзічаў. Беларусаў жамойцы больш баяліся, чымся палякаў. Калі БНК звярнуўся да старшыні места Сташыса, які дружыў з беларускімі дзеячамі ў часы польскае ўлады, ён цынічна сказаў: «Шляхі нашыя разышліся. Мы дапялі свайго, дасталі Вільню, а вы ідзіце да свае мэты...» Гэткая была філасофія жамойцкага дзеяча, які, як і ўсе іншыя яго ныя пабрацімцы, цешыўся са сталінскага падарунка беларускай Вільні.

Трэба было вывіць ды ўзяць на ўлік свядомы беларускі элемент у гэтым старым беларускім месце. У памяшканні БНК пачалася рэгістрацыя беларусаў. Калі ў першым тыдні зарэгістравалася больш 5000 беларусаў, жамойцкія ўлады выклікалі да сябе старшыню БНК, інж. Адольфа Клімовіча, ды загадалі яму спыніць «варожую» дзейнасць. Пасля доўгіх перамоў наезнікі ўрэшце абяцалі, што не будуць выкідаць беларусаў з урадаў, прадпрыемстваў і ўстаноў места Вільні дзеля іхняй беларускасці. Нават абяцалі дазволіць беларускае школьніцтва. Ды гэта былі толькі абяцанкі. За кожную справу даводзілася, і ці мала, змагацца. Мне самому давялося абіваць парогі ў летувіскім міністэрстве культуры й асветы ў змаганні за беларускія школы.

А было гэтак. Дзякуючы няўтомным стараням а. Адама Станкевіча, А.Сакаловай, М.Анцукевіча і М.Пецюкевіча за беларусамі ўдалося затрымаць стары будынак Віленскай Беларускай Гімназіі ды адчыніць колькі беларускіх пачатковых школ у Вільні й у Ашмяншчыне. Беларуская гімназія хутка скамплектавала 3 і 4 класы, кожны па 40 вучняў. Але, калі дзеля вялікага ліку кандыдатаў, дырэкцыя гімназіі хацела адкрыць паралельныя класы, летувісы, відавочна, спалохаліся ды забаранілі прымаць у адзін клас больш як па 40 вучняў.

Жамойцкі шавінізм шалеў па ўсёй Вільні, супроць беларусаў асабліва. Жамойцы намагаліся захапіць Беларускі Музей імя Івана Луцкевіча. Трывала доўгае й заўзятае змаганне. Беларусы не здаліся: музей застаўся ў іхніх руках.

Жамойцы да таго былі асляпленыя перадачаю ім Сталіным Вільні, што прымалі пакорна штораз новыя пасягненні Масквы на іхнюю «незалежнасць». Іхні прэм'ер Меркіс толькі ездзіў туды, каб падпісваць бальшавіцкія вымаганні ў выглядзе «дагавораў»! І бальшавікі ў Вільні і ўва ўсёй жамойцкай «дзяржаве» чуліся як у сябе дома. Савецкае пасольства на Вялікай Пагулянцы было закулісным «босам» усяе Жамойціі. Туды ў 1940 годзе пайшла першамайская дэманстрацыя супроць жамойцкай марыянеткі. Савецкія ваенныя базы разрасталіся да памераў шмат большых, чымся яны мелі быць паводле «дагаваранасці».

## Гутарка з Айзікам Кучарам

У сакавіку 1941 года, разам з іншымі культурнымі дзеячамі БССР, Вільню наведаў і літаратурны крытык Алесь Айзік Кучар. З'явіўся ён насамперш у Беларускі Музей да Марыяна Пецюкевіча, які тады быў дырэктарам музея, ды выказаў жаданне сустрэцца з беларускімі дзеячамі. Сустрэча адбылася ў маім памяшканні, на Кальварыйскай вуліцы. Былі прысутныя, апрача Кучара ды мяне, М.Пецюкевіч, У.Казлоўскі, Ч.Будзька. Гутарка праходзіла ў атмасферы шчырай, бяседнай.

Найперш мы хвалілі Кучара за ягоную стройную беларускую мову ды за працу на беларускай ніве, раўнуючы яго да Змітрака Бядулі. Я пры гэтым сказаў:

— Вы хоць і габрэйскага паходжання, але добра заслужылі для нас, беларусаў. Таму асаблівую чарку вып'ем за ваша здароўе!

Кучар не разгубіўся, падзякаваў, ды са свайго боку хваліў заходніх беларусаў за тое, што вытрывалі польскую акупацыю. Годныя ўвагі былі словы Кучара пад адрасам прысутнага У.Казлоўскага /Казлоўшчыка/. Сваю характарыстыку гэтага паэта-пісьменніка Кучар пачаў даволі дасціпна.

— Мы ў БССР пра Казлоўшчыка думалі як пра нейкага амерыканскага каўбоя, што абвешаны разбойнымі нажамі ды наганамі. А тут — вельмі сімпатычны чалавек. Мы крыху знаем вашу творчасць, яна даволі арыгінальная й цікавая, народная.

Казлоўшчык пасля гэтага чытаў свае паэтычныя, патрыятычнае тэматыкі, творы. Гэта яшчэ больш раззброіла бальшавіцкую насцярожанасць Кучара. Кучар тады звярнуўся да Казлоўшчыка з пытаннем, ці гэта ён быў аўтарам 12-ці антыгабрэйскіх пунктаў, якія былі надрукаваныя ў нацыянал-сацыялістычным часопісе «Новы шлях»?

Казлоўшчык меў адвагу прызнацца:

— Так, гэта я, мая памылка.

— Ну й трэба ж было табе, такому сімпатычнаму чалавеку, пісаць такое бязглуздзе!

— Гэта быў «дух часу», які так падзеяў на Казлоўшчыка, — падхапіў я, — бо ж у БССР тады йшоў глум над беларускім вызвольным рухам...

Кучар супакоіўся ды павярнуў гутарку на тое, каб Казлоўшчык уключыўся цяпер у савецкую рэчаіснасць, гэта значыць, каб стаў пісаць у бальшавіцкім духу.

Каб адвярнуць увагу Кучара ад Казлоўшчыка, каб ён яго не трывожыў, у гутарку зноў умяшаўся я.

— Скажыце, калі ласка, як гэта сталася, што

вы не выратавалі Дубоўкі, Пушчы, Кляшторнага, Ігнатоўскага ды іншых ад арышту і загубы? Як беларусы пасля гэтага ўсяго маглі ставіцца да бальшавікоў?

— Ну, ведаеце, — збянтэжана адказаў Кучар, — кожная ўлада ёсць улада і яе трэба слухаць. Гэтыя пісьменнікі проста пайшлі насупраць савецкае ўлады, якая ім дала ўсё. Вазьміце таго Кляшторнага — дэкадэнт, п'яніца. Ён публічна з канарэйкай высмейваў савецкую ўладу. «Здохла канарка ў клетцы», — казаў ён. А што іншыя пісалі? Дык што можна было зрабіць у гэткіх умовах?

Тут я кінуў яму пытанне:

— А як гэта давялі Янку Купалу да харакіры?

— Ведаеце, — адказаў Кучар, — ён буйны паэт, ён успрымае ўсё пачуццямі, быў усхваляваны. Тут непавінная ўлада, якая дала пісьменнікам і паэтам найідэальнейшыя магчымасці, саарганізавала адумысны дом для беларускіх пісьменнікаў, дзе поўна выпіўкі, закускі, дзе па-людску можна правесці час, пагутарыць, дыскутаваць на розныя тэмы. Дык ці ж яны карысталіся гэтым дабрадзействам? Яны хаваліся ў глыбокія куткі, у падзямелле, дзе іх гутарак ніхто іншы не мог бы пачуць. Ці ж савецкая ўлада аб гэтым не ведала? Ці яна магла талераваць гэта?

Як пасля на эміграцыі апісаў Мікола Куліковіч, удзельнік тагачасных падзей у БССР, толькі ў падзямеллі была тады патрыётам магчымасць выказацца, што яны папраўдзе думалі.

Вычувалася, што Кучар баіцца гаварыць шчыра, што ён толькі манеўруе, як вёрткі жанглёр. Усведамляў ён і сам, што далейшая гутарка з намі бязмэтная, непажаданая, і ён яе спыніў, запрасіўшы нас на летувіскі балет, што тады выконваў у тэатры на Пагулянцы «Яўгена Анегіна».

Хутка мы былі ў ложы тэатра. Аркестр іграў, нямыя фігуры на сцэне выкручваліся ўва ўсе бакі. Прыкрае ўражанне рабіў танцор у ролі старога генерала, што няўклюдна круціўся ля Таццяны, Казлоўшчык не мог больш глядзець на прымітывізм выканання, сказаў, што дрэнна чуецца, ды пакінуў тэатр. Мы дасядзелі да канца ды адвялі Айзіка да гатэля «Жорж».

## Другі прыход бальшавікоў да Вільні

Жамойцкая пацеха Вільняю доўга не трывала. 15 чэрвеня 1940 года збройныя сілы бальшавіцкае Масквы хлынулі на Прыбалтыку. За 24 гадзіны ўся Летува была ўжо савецкай. Супраціў Латвіі прадоўжыў яе існаванне на два толькі дні. Ранейшая жамойцкая прымаўка «Вільнюс мусу — Летува русу» — сталася сапраўднасцю.

Перад прыходам у Вільню бальшавікоў прэса падавала весткі аб нарастаючых падрыхтоўках Масквы да захопу Прыбалтыкі. Рабіліся бальшавіцкія правакацыі, пісаліся «пратэсты» й пагрозы. Атмасфера была, як у катле. Хто толькі адчуваў небяспеку для свайго жыцця ад бальшавікоў, стараўся ўцякаць — у Скандынавію, Прусію, у акупаваную немцамі Польшчу. Асабліва шмат жамойцаў і беларусаў пераходзіла ў Генеральную Губерню.

Яшчэ на пачатку чэрвеня 1940 года адвакат Мікалай Шкялёнак ездзіў да Коўні ў нямецкі консулат, дзе прадставіў спісак беларусаў, што знамераныя былі ўцякаць з Вільні перад бальшавіцкай небяспекай. Нямецкі консул згадзіўся прапусціць праз граніцу ў Нямеччыну асоб, што былі пададзеныя на спіску. Ды ў часе небяспекі, калі бальшавікі займалі Жамойць, да гэтае групы ўцекачоў далучыліся й іншыя беларусы, якіх на спіску не было. Іх нямецкая пагранічная ахова павярнула назад. Сярод іх быў і вядомы беларускі драматург Францішак Аляхновіч.

Ужо 17.6.1940 быў створаны бальшавіцкі ўрад Летувіскай ССР з караімам Палецкісам на чале. Вільня заставалася надалей вонках Беларускай ССР, ды так-і-так і тут панавала цяпер Масква. Колькі першых месяцаў бальшавікі сядзелі ў Вільні прыцішана. Хапалі толькі вялікіх шышак: пракурораў, суддзяў, міністраў, кіраўнікоў буйных арганізацый і прадпрыемстваў. Сярод іх і бурмістр Вільні Сташыс. Хадзілі чуткі, што падрыхтоўваюцца масавыя спіскі на вываз.

У месце наводзіліся савецкія парадкі. Праз колькі тыдняў усе крамы былі пустыя. Перад пякарнямі, малачарнямі і яткамі стаялі бясконцыя чэргі. Напаўгаладнае жыхарства было нервовае, прыгнобленае, абдзёртае. На вуліцах прапала даўнейшая элеганцыя. Людзі недзе беглі, тоўпіліся, знікалі пры заходзе сонца з вуліц. Усе прадчувалі нарастаючы кашмар.

Жамойцкія нацыяналісты страту самастойнасці хацелі ратаваць сталінскай палітурай. Пад яе шуміху яны далей жамойдзілі Вільню, апанавалі універсітэт, камсамол, паліцыю, залезлі ў НКВД. Сваю адданасць лютай бальшавіцкай сталінскай дыктатуры яны дэманстравалі пры ўсякіх нагодах, асабліва на кастрычніцкіх ды першамайскіх святкаваннях, калі танцавалі на вуліцах.

Сярод беларускага грамадства места наступіла зацішша. Трэба было выдатнейшым дзеячам шукаць выхаду ў абліччы жамойцкага наступу. Адзінымі беларускімі ўстановамі ў Вільні цяпер былі: Беларуская Гімназія, Беларускі Музей ды пры прафсаюзным Доме культуры існаваў Беларускі Аддзел, што раней быў пры жамойцкай управе культуры. Галоўнымі рэпрэзентантамі беларускай культуры ў гэтым аддзеле былі хоры: П.Родзевіча, Мацвійца з Траецкага сабора ды жаночы квартэт пад кіраўніцтвам В.Фёдаравай. Вось гэтыя хоры ў Вільні, хор жа Рыгора Шырмы ў іншых акругах Заходняй Беларусі фактычна рэпрэзентавалі й дэманстравалі беларускую вакальную культуру на землях Заходняй Беларусі.

Меркаванні пра канчатковы вынік вайны сярод беларусаў былі розныя. Адны спадзяваліся, што выйграюць дзяржавы Восі, іншыя, што Антанта з Амерыкай. Амаль ніхто не верыў, што Савецкая Расія.

Бальшавікі тым часам сваю ўладу ў Вільні замацавалі. Турмы былі запоўненыя зняволенымі. Тавары з крамаў прапалі. А за гэтым прыйшла даражыня. Чорны гандль шалеў. Людзі перасталі быць у гутарках адкрытымі й са сваімі знаёмымі, бо бальшавікі ўсюды насаджвалі агентаў. Па памяшканнях хадзіла процьма наведвальнікаў: адны мералі жыллёвую плошчу, каб каго-небудзь усяліць, другія шацавалі падатак, іншыя шукалі беспрацоўных, яшчэ іншыя кантралявалі электрыку. Жыллёвая плошча была зведзена да 4 кв. м на галаву, харчовы недастатак стаўся катастрафічным.

У сваёй эканамічнай адсталасці бальшавікі ніяк не маглі наладзіць забеспячэнне жыхароў патрэбнымі прадуктамі й таварамі, а ў сваёй прапагандзе адначасна ўвесь час трубілі, быццам яны развязалі гаспадарчую праблему. Дзеля гэтага былі супроць харчовай рэгламентацыі. Для пануючай партыйнай клікі былі створаныя адумысныя крамы з таварамі па паніжаных цэнах ды па партыйным размеркавальніку. Усё ж іншае жыхарства ўважалася за няважнае. Яно забяспечвалася як нявольнікі, каб толькі не вымерла.

Вільня жыхарствам 240 000 за два гады вырасла ў места з лікам жыхароў 340 000, не лічачы дзесяткаў тысяч зняволеных па турмах. Усе памяшканні былі перапоўненыя. Усе працавалі намінальна 8 гадзін, плату ж даставалі мізэрную, каб можна было справіцца з патрэбамі сям'і. Адпачынку ніколі не было, бо ўвесь час зганялі людзей на мітынгі, сходы, курсы, дзе, як правіла, выступалі агітатары /у бальшыні габрэйскага паходжання/, якія славілі бальшавіцкую сістэму як збаўленне для ўсіх народаў.

Часта на гэткія сходы ці мітынгі агітатар прыходзіў з падрыхтаванай рэзалюцыяй, якую пры канцы прачытваў ды пытаўся: «Ну, хто супраць?» Кожнаму было ясна, што настаўлялася пастка. Таму людзі маўчалі, або той ці іншы цынічна яшчэ падгукваў у чэсць Сталіна ды камуністычнае хеўры. Што ж ім было рабіць іншае?

## Абарона нацыянальных правоў

Змаганне за нацыянальныя правы ў Вільні пры новай уладзе адбывалася даволі заўзята. Кожная нацыянальнасць намагалася здабыць сабе больш пазіцый. Урэшце была прынятая рэзалюцыя, што на выяўленне сваіх нацыянальных асаблівасцей маюць права пяць нацыянальнасцей: беларусы, палякі, жыды, расійцы ды жамойцы.

Беларусы стараліся выкарыстаць усе магчымасці, што вынікалі з гэтае пастановы. Ды ў гэтым нялёгка было дайсці да нейкага паразумення з летувіскімі шавіністамі ды маскоўскімі нацыянал-камуністамі. Трэба прызнаць, што за правы беларусаў душой стаялі заўсёды выхадцы з Польшчы, вядомыя яшчэ пры польскай уладзе віленскія «лявіцаўцы» — Ендрыхоўскі, Дэмбінскі, Друтас, Жаромская й Дзявіцкая.

У выніку гэтых ходанняў М.Пяцюкевіч, Багушэўскі й я пераняслі беларускую секцыю радыё /60 мінут на дзень/. Любіч-Маеўскі, а. Коўш і Войцік занялі пасады ў адміністрацыі. На хвалу Любіч-Маеўскага выпала правесці школьны плебісцыт у Вільні. Паводле гэтага плебісцыту вынікала, што: польскіх школ жадае 50 працэнтаў апытаных, расійскіх — 20, беларускіх — 12, жыдоўскіх — 10 і летувіскіх — 8 працэнтаў.

Гэта быў цікавы плебісцыт, за які ягонаму ініцыятару давялося пры немцах, праз варожую правакацыю, прыплаціць жыццём. Папраўдзе, вынікі плебісцыту не былі аб'ектыўнаю выяваю нацыянальных дачыненняў у Вільні, але больш паказнікам тагачасных у месце настрояў. Усё ж вынікала, што ў другой палавіне 1940 года летувіская сіла лікам вырасла да 8 працэнтаў, ці была на 6 працэнтаў большаю, як у годзе 1939. Гэта паказвала, што жамойцы за гэты час навезлі ў места 6 працэнтаў жыхарства.

Немалую ролю адыгрываў у эканамічных справах Вільні святар Коўш, як галоўны рахункавод цэнтральнага Віленскага банка. За гэта пазней яму давялося, па даносах летувіскіх агентаў, згінуць ад немцаў.

Выкарыстоўваючы тагачасныя магчымасці ў віленскім радыё, мы, ці бо вышэй названыя асобы, перадавалі не толькі бягучыя матэрыялы, але М.Пяцюкевіч чытаў лекцыі з беларускай этнаграфіі, я ж прачытаў Багушэвічаву «Дудку» й «Смык» ды ці мала твораў Янкі Купалы.

Гэта, вядома, не было даспадобы Маскве. Дзеля гэтага быў дадзены загад абмежаваць беларускую праграму. Мы пастанавілі бараніцца. Нашыя дэлегацыі хадзілі ад адной савецкай установы да другой, а таксама да жамойцкіх уладаў. Ніхто нічога пэўнага не адказваў. Урэшце наш сябра Багушэўскі нейк звязаўся з маскоўскім палітруком, які кіраваў справамі культуры места Вільні. Між імі адбылася гэткая гутарка:

Багушэўскі: — Дазвольце, таварышч, прадставіцца — сатруднік беларускага сектара радыё Вільна.

Маскаль: — Слушаю!

Багушэўскі: — Таварышч! Камуністычная ўлада прынесла вызваленне ўсім працоўным, у гэтым ліку й беларусам. Навокала кіпіць і ўзнімаецца культурнае жыццё, тым часам беларусам абмежаваны час у радыё да 15 мінут у дзень. Чаму беларускія работнікі не могуць мець роўнага права з іншымі?

Маскаль: — Кто вас прыслал да меня?

Багушэўскі: — Я сатруднік радыё, ізбран рабочымі...

Маскаль: — Ты панімаеш па-рускі?

Багушэўскі: — Панімаю, я вучыўся...

Маскаль: — То ступай домой і седзі спакойна... Нечево здесь морочіць голову!

Было ўсё ясна кожнаму. Расійскія перадачы з Масквы павялічыліся ў віленскім радыё непамерна. Якое магло быць раўнанне беларускіх працоўных да расійскіх, мужыка да пана?

Звужалі таксама беларускае школьніцтва, не зважаючы на намаганні Караля, Тышкевіча й Анцукевіча. Расійскае ж школьніцтва ўвесь час разбудоўвалася.

У гэткіх умовах беларусам трэба было пранікаць усюды, дзе толькі было магчыма, каб бараніць нацыянальныя інтарэсы беларускага жыхарства Вільні. Дзеля гэтага таго ці іншага беларуса, які быццам супрацоўнічаў з бальшавікамі, нельга вінаваціць у калабарацыі. Даводзілася ж выдзіраць ад бальшавікоў самыя элементарныя, здавалася б, правы беларускага жыхара места. І трэба сказаць,што ў вельмі цяжкіх умовах віленская інтэлігенцыя няблага тады справілася са сваім гістарычным заданнем.

Падобна як у Вільні, бальшавіцка-расійская ўлада трактавала беларусаў ды іхнія нацыянальныя патрэбы й на іншых новазанятых ёю беларускіх землях. Добрую інфармацыю мне пра гэта прыслаў мой сябра А.С., што жыве цяпер у Аўстраліі. Падаю яе тут даслоўна:

«Цябе цікавіць, як аднеслася беларуская інтэлігенцыя да савецкай улады ў 1939 годзе? Пастараюся адказаць у кароткіх словах.

Прыход чырвонай арміі 17 верасня 1939 года быў для беларускага насельніцтва Заходняй Беларусі наогул нечаканым. Ніхто не спадзяваўся, што польскія мілітарысты й палітыкі, якія хлёстка стукалі абцасамі ды вёртка вымахвалі «шабэлькай», так хуценька разбягуцца, быццам пацукі, перад бальшавікамі, тым больш, што шмат якія памяталі падзеі дваццатых гадоў.

Беларуская інтэлігенцыя таксама не была падрыхтаваная. То ж ведама, што ўся яна была ў той ці іншы спосаб праследаваная польскай бяспекай, заганяная ў канцэт у Бярозе Картузскай, у турмы. Асабліва перад самай вайной 1939 года вялікі быў наскок польскай адміністрацыі на знатнейшых, і яны былі ізаляваныя.

Крах польскай дзяржавы ў жорнах гітлераўска-бальшавіцкай змовы быў маланкавы, не было часу на роздум, сустрэчы, падрыхтоўку. Шмат інтэлігенцыі апынулася ў нямецкім палоне, як жаўнеры і афіцэры польскае арміі, іншыя гуртаваліся ў Беларускіх Камітэтах у Польшчы пад нямецкай акупацыяй, у Берліне. У Заходняй Беларусі, далучанай на БССР, ацалелыя з беларускай інтэлігенцыі ўключыліся ў супрацоўніцтва з бальшавіцкімі ўладамі з думкай разгарнуць працу хаця б у беларускім школьніцтве.

Савецкая ўлада ў Заходняй Беларусі фактычна не мела на кім аперціся. Яна арыштоўвала і вывозіла ўсякі элемент, які супрацоўнічаў з польскімі ўладамі. Не мела яна таксама даверу да беларускіх грамадаўцаў і сяброў КПЗБ, бо з загада Сталіна ў 1938 годзе Камуністычная партыя Польшчы і Камуністычная партыя Заходняй Беларусі былі развязаныя, як выйшаўшыя з-пад маскоўскага кантролю, ды яе сябры ўзятыя на чорны спісак, як людзі, што падлягаюць следству савецкіх органаў, як «ворагі народа». Некаторыя маласвядомыя беларускія камуністы з КПЗБ, што думалі цяпер прыпадабацца Маскве ды паклікаліся на сваё сяброўства ў падпольных бальшавіцкіх арганізацыях Заходняе Беларусі, былі арыштаваныя ды сваю кар'еру скончылі ў Салаўках, на Калыме ці ў іншых месцах зняволення.

Вось чаму бальшавікі сталі выкарыстоўваць беларускую інтэлігенцыю чыста нацыянальных поглядаў, асабліва ў школьніцтве, дзе ім не хапала сваіх людзей. Мінск прыслаў толькі сваіх «культуртрэгераў», кіраўнікоў вышэйшай школьнай адміністрацыі. Для прыкладу ўспомню абласны сход настаўнікаў у Наваградку ў лістападзе 1939 года пад кіраўніцтвам гэткага «культуртрэгера», школьнага інспектара Гутарцовай.

Сход адкрыў першы абласны сакратар партыі Рамашкоў, які на расійскай мове трубадурыў пра магутнасць чырвонай арміі, якая нас «асвабадзіла». Мову сваю партыйны шэйк скончыў славаслоўем у чэсць чырванае арміі й Сталіна. Потым прамаўлялі іншыя партыйныя тузы, давалі слова мясцовым беларусам на «падзяку» за вызваленне. Урэшце выпусцілі на трыбуну Гутарцову, што мела гаварыць аб школьніцтве. Але й яна доўга малола аб савецкай уладзе й канстытуцыі, аб «радасным і культурным» жыцці ў Саветах. А калі стомленыя слухачы пачалі крычаць «бліжэй да тэмы», яна прапусціла колькі бачын свае пісаніны ды пачала чытаць пра школьніцтва ў такіх жа напышаных і беззмястоўных словах, як і аб прыходзе савецкай улады.

Каб змусіць Гутарцову пакінуць бальшавіцкія тырады ў расійскай мове, зала пачала грымець: «Гаварэце па-беларуску! Па-беларуску!» Тады Гутарцова сціхла. Вытварылася канстэрнацыя. Змоўкла і зала. Бальшавіцкія тузы не мелі аргументаў на гэткі супраціў настаўніцкай масы. Дык падняўся першы сакратар партыі ды стаў шаптацца з Гутарцовай і сябрамі прэзідыі. Пасля гэтага Гутарцова ўжо наляту перакладала сваю чытань на беларускую мову.

Але якая там была беларуская мова! Мы чулі нейкі расійска-беларускі жаргон, якога нават цяжка прыдумаць. Зала паўгалосна хіхікала, як Гутарцова пыкала, кашляла, шукала слоў, каб перадаць расійскі змест свае пісаніны, як наогул губляла ўсякі змест. Яна чырванела й бляднела, губы трэсліся, і відаць было, як кроплі халоднага поту сцякалі па яе немаладым твары.

Тады партыйны туз, ратуючы цяжкую сітуацыю, абвясціў перапынак. Ён быў патрэбны саветчыкам выклікаць органы бяспекі, якія зараз жа з'явіліся. Агенты ў цывільнай вопратцы змяшаліся з настаўніцкай масай, а на вуліцы стаялі энкавэдзісцкія аўто з рэзервамі.

Пасля перапынку Гутарцова зноў з'явілася за трыбунай. Яна цяпер сказала, што будзе прадаўжаць свой даклад па-расійску, бо тут яе хіба ўсе разумеюць, а ёй самой лягчэй гаварыць па-расійску. Сенатар Рагуля зморшчыўся, галава Чатыркі бязвольна апала ўніз, іншыя з цынічнымі мінамі глядзелі, што будзе далей.

Хутка зала парвала наогул кантакт з Гутарцовай. Настаўнікі глядзелі ў вокны, перашэптваліся між сабою. Заўважыла гэта й Гутарцова, дык даволі хутка скончыла свой даклад. Там-сям нехта пляскаў у далоні /магчыма, агенты/, а маса прыгнобленая пачала разыходзіцца. Усе зразумелі, што пад маскай камунізму прыйшоў маскоўскі шавінізм, які глуміў Беларусь перад рэвалюцыяй, пры царах. Нехта, развітваючыся са сваім сябрам, трапна сказаў: «Адзін акупант заняў месца другога!»

**Калектыў тыднёвіка «Літаратура і мастацтва» выказвае глыбокае спачуванне рэдактару аддзела музыкі Святлане Берасцень у сувязі з вялікім горам — смерцю БАЦЬКІ.**

**Беларуская акадэмія мастацтваў выказвае глыбокае спачуванне загадчыку кафедры рэжысуры Забэлу Уладзіміру Паўлавічу з прычыны смерці МАЦІ.**

**Саюз пісьменнікаў Беларусі выказвае глыбокае спачуванне пісьменніку Уладзіміру Мархелю з прычыны напаткаўшага яго гора — смерці МАЦІ.**

**Саюз пісьменнікаў Беларусі смуткуе з прычыны заўчаснай смерці літаратара, былога супрацоўніка Бюро прапаганды мастацкай літаратуры СПБ БАРОДЗІЧА Віктара Сідаравіча і выказвае спачуванне сям'і нябожчыка.**

# РАДАЎНІЦЫ
# СЬВЕТЛЫ ЎСПАМІН



З давён-даўна Дзень памінаньня ў памяці людской...
Кветкі й сьвечкі наўкола. Думка сягае ў стагоддзі.
Неба й зямля да душы прамаўляюць, да дум чалавека.
Чаго ты прыйшоў у сьвет гэты, які сьлед пакінеш?..

Гукі ўваскрэснуць ды й зноў заміраюць.
Толькі сьпеў жаўрукоў у паднябесьсі...

Выйдзі паслухаць на Радаўніцу зямлю й нябёсы.
Сэрцам адчуеш, што побач мінулае й будучае.
Што памяць продкаў у табе жывая.

А наш прыпынак, наша збаўленьне ў Ім, Адзіным,
хто стварыў зямлю й нябёсы і ўсё, што ў іх.






ЗАСНАВАЛЬНІКІ:
САЮЗ ПІСЬМЕННІКАЎ БЕЛАРУСІ І МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

ВЫХОДЗІЦЬ З 1932 ГОДА

ГАЗЕТУ РЭДАГАВАЛІ:
Х.ДУНЕЦ (1932-35)
І.ГУРСКІ (1935-41)
А.КУЛЯШОЎ (1945-46)
М.ГОРЦАЎ (1947-49)
П.КАВАЛЁЎ (1949-50)
В.ВІТКА (1951-57)
М.ТКАЧОЎ (1957-59)
Я.ШАРАХОЎСКІ (1959-61)
Н.ПАШКЕВІЧ (1961-69)
Л.ПРОКША (1969-72)
Х.ЖЫЧКА (1972-76)
А.АСІПЕНКА (1976-80)
А.ЖУК (1980-86)
А.ВЯРЦІНСКІ (1986-90)





АДРАС РЭДАКЦЫІ:
220600, ГСП, Мінск, вул. Захарава, 19.

Тэлефоны: прыёмная рэдакцыі -- 33-24-61; намеснік галоўнага рэдактара -- 33-25-25; адказны сакратар -- 33-19-85; аддзелы: публіцыстыкі -- 33-25-25, пісьмаў і грамадскай думкі -- 33-19-85, літаратурнага жыцця -- 33-24-62, крытыкі і бібліяграфіі -- 33-22-04, паэзіі і прозы -- 33-22-04, музыкі -- 33-21-53, тэатра, кіно і тэлебачання -- 33-21-53, выяўленчага мастацтва і аховы помнікаў -- 33-24-62, навін -- 33-19-85, мастацкага афармлення -- 33-24-62; фотакарэспандэнт -- 33-24-62; бухгалтэрыя -- 26-86-40.





Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах

Друкарня "Беларускі Дом друку"

Індэкс 63856. Тыраж 15.000.
Нумар падпісаны 22.04.1993 г.

П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12